# АНТОН АДАМОВІЧ

Антон Адамовіч, літаратуразнавец, празаік, прафесар, доктар філалогіі, грамадскі дзеяч, нарадзіўся 13 чэрвеня 1909 г. ў Мінску ў сям'і канцылярскага работніка, але па адукацыі настаўніка (скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум (МБПТ). У 1917-м Антон пайшоў у першы клас Мінскай казённай гімназіі. Неўзабаве стаў лепшым вучнем у класе. Вучоба працягвалася як пры нямецкай, так і пры польскай акупацыях. Сямігодку вучань-выдатнік скончыў ужо пры савецкай уладзе. Адначасова з вучобай Антон удзельнічаў, а па сутнасці атрымліваў другую адукацыю, у клубе моладзі «Беларуская хатка» (афіцыйная назва — «Мінскае таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва»), які знаходзіўся ў будынку былой амерыканскай місіі (цяпер раён Камароўскага рынка). За нядоўгі перыяд існавання «Беларускай хаткі» (1916—1922; пасля бальшавікі яе зачынілі) у секцыях, што пры ёй працавалі (тэатральная, літаратурная, мастацкая і інш.), прымалі ўдзел цяпер ужо класікі беларускай драматургіі: Уладзіслаў Галубок[1], Францішак Аляхновіч[2], Фларыян Ждановіч[3], Барыс Платонаў[4], а таксама вядомыя ў будучым артысты і пісьменнікі. Літаратурную секцыю ўзначальваў Якуб Колас[5]. Прыгадаем некаторых з яго вучняў: стваральнік «Маладняка» Міхась Чарот[6], першы ссыльны маладняковец Алесь Дудар[I], паэт-камсамолец, у сярэдзіне 1930-х г. член ЦВК БССР Андрэй Александровіч[7], будучы адказны сакратар яўрэйскага часопіса «Штэрн»[II] Зэлік Аксельрод[8], вядомы тэатральны дзеяч, купалавец Яўген Рамановіч[9], сам Антон Адамовіч. Беларускім хорам пры «Хатцы» кіраваў кампазітар Уладзімір Тэраўскі[10]. Разам з Марыяй Зубоўскай (будучай жонкай Яўхіма Кіпеля[III][11]), Алесяй Александровіч[12], Міхасём Чаротам ды мінчуком і, як потым высветлілася, чалавекам з незвычайна падобным да Антонавага лёсам[IV], Уладзімірам Сядурам[V], у хоры спяваў і Антон. Мастацкую секцыю ўзначальваў Леапольд Родзевіч[13]. Частымі гасцямі ў «хатцы» былі Максім Багдановіч[14], Янка Купала[15] (некаторы час нават загадваў бібліятэкай), Язэп Лёсік[16], Змітрок Бядуля[17], Цішка Гартны[18], Альберт Паўловіч[19], Аркадзь Смоліч[20], Фабіян Шантыр[21], Эмілія Сівіцкая[22], яе дачка Зоська

---

[I] Гл.: старонкі

[II] Часопіс «Штэрн» («Зорка») выдаваўся з мая 1925 да крас. 1941 г. на ідыш.

[III] Гл.: старонкі

[IV] Абодва нарадзіліся ў Мінску, скончылі Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум, працягвалі вучобу ў вышэйшых педагагічных установах, яшчэ студэнтамі былі арыштаваны і высланы ў Сібір. У час вайны працавалі ў «Беларускай газэце», потым апынуліся ў Нямеччыне, пазней — у ЗША.

[V] Гл.: старонкі

Верас[23], Усевалад Фальскі[24], Віктар Чавусаў[25], Лявон Дубейкаўскі[26], Рамуальд Зямкевіч[27], Ян Крыўка[28], Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.)[29], Ванда Лявіцкая[30] (дачка Ядвігіна Ш. і жонка Язэпа Лёсіка), Юзюк Фарботка[31]. Не дзіва, што пазней «Беларускую хатку» следчыя з «амерыканкі»[VI] назавуць «пунктом сосредоточения националистических сил».

У 1924 г. Антон Адамовіч стаў студэнтам Мінскага беларускага педагагічнага тэхнікума (МБПТ), або, як потым пра яго на допытах будуць успамінаць тыя ж следчыя, «рассадника нацдемов».



А.Адамовіч. 1928 г.

Разам з ім вучыліся будучыя маладнякоўцы Андрэй Александровіч, Віктар Казлоўскі[VII], Наталля Вішнеўская[VIII], Максім Лужанін[32], Пятро Глебка[33], Сяргей Дарожны[IX]. (апошнія трое потым стануць «узвышэнцамі»). Выкладалі ў тэхнікуме народны паэт Якуб Колас, вядомыя мовазнаўцы браты Язэп і Антон[34] Лёсікі, Мікола Байкоў[35], краязнаўца Яўхім Кіпель[X], педагогі і вучоныя Міхайла Піятуховіч[36], Міхайла Грамыка[37], Язэп Васілевіч[38], Янка Бялькевіч[39], Юльян Дрэйзін[40], Аляксандр Круталевіч[41], Аляксандр Саковіч[42], Янка Серада[43], Кузьма Стрыгун[44], Аляксандр Мікалаевіч Міцкевіч[45], М.А.Барташэвіч[46], В.Вяршук[47], Т. Даўгаполаў[48], С.Замбржыцкі[49], М.Калінічэнка[50], В.Кудрэвіч[51], М.Лабанок[52], Пракапчук[53], В.Пяткевіч[54], В.Сакалоўскі[55], В.Свешнікаў[56], З.Сцяпура[57], М.Фрыдман[58], В.Цыпкіна[59], Аўсянка[60] і іншыя.

[VI] Унутраная турма НКВД.
[VII] Гл.: старонкі .......................
[VIII] Гл.: старонкі .......................
[IX] Гл.: старонкі .......................
[X] Гл.: старонкі .......................



Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. 1927 г.

Адначасова з вучобай Антон актыўна ўдзельнічаў у студэнцкім літаратурным гуртку «Крыніца», які выпускаў і свой «літаратурна-мастацкі часопіс» (так назвала педтэхнікумаўскае літаграфаванае выданне «Савецкая Беларусь» 31 сакавіка 1929 г. у артыкуле «Аб мастацкай літаратуры навучальных установ. З Усебеларускай студэнцкай выстаўкі насценгазет і часопісаў»). Каб зразумець тагачасную атмасферу, якая існавала ў тэхнікуме, прывядзём урывак з аўтабіяграфіі Антона Адамовіча (напісана па запыце з НКВД у кастрычніку 1935 г. у кіраўскай высылцы):

*«Безусловно, необходимо остановиться на Белпедтехникуме. В одной из своих литературных работ («Паўлюк Трус*[61] *(некралог)» // Узвышша. 1929. № 7; у канцы гэтага ж года з аднайменнай назвай выйдзе адзіная «давысылковая» кніжка Антона Адамовіча. —* ***Л. М****.) я охарактеризовал техникум того времени как кузницу белорусских литературных кадров <…> На уроках языка нам говорилось, что белорусский язык — самый древний, самый чистый и благозвучный, что Белоруссия вполне может существовать как самостоятельное географическое, экономическое и государственное целое. На уроках истории в печальных красках рисовалось прошлое страны, всячески угнетавшейся ее соседями и с запада и, особенно, с востока, и яркими красками рисовалось счастливое будущее независимой, «незалежнай» Белоруссии. На уроках литературы показывалось славное прошлое белорускої письменности, появившейся раньше, чем у восточных соседей, и в рукописном и в печатном виде (<…> пионер*

*книгопечатания — Франциск Скорина), и также рисовались богатейшие перспективы будущего, в котором белорусская литература необходимо должна стать выше всех существующих и существовавших литератур…»*[XI]

Дэбютнай публікацыяй 17-гадовага А. Адамовіча (надрукавана пры дапамозе Кузьмы Чорнага[62]) стала рэцэнзія на кнігу яго аднагодка паэта Валерыя Маракова[XII] пад назваю «А дзе ж грамадскасць?»[XIII].

«*Первую свою рецензию я написал на сборник Валерия Морякова «Пялёсткі» («Лепестки»). В ней я обвинил этого поэта в идеологической невыдержанности и упадничестве*»[XIV]. У 1928 г. Аркадзь Мардвілка[XV] так ацаніў першую працу крытыка: «Антон Адамовіч у артыкуле «А дзе ж грамадскасць?» абвінаваціў Валерыя Маракова і ва «ўпадніцтве», і ў «безнадзейным песімізме» і г. д. Палкі крытык зусім забыў, што паэт яшчэ не дасягнуў грамадзянскага паўналецця»[XVI].

Пасля выходзяць рэцэнзіі А.Адамовіча на кнігу вядомага вучонага прафесара Яўгена Барычэўскага[63] «Тэорыя санета»[XVII] і на другі зборнік вершаў В.Маракова «На залатым пакосе»[XVIII]. У апошняй крытык амаль паўтарае сказанае раней: «Дачыненні яго да грамадства, грамадскія матывы яго лірыкі <…> яшчэ мала выяўлены…»[XIX]

У пачатку 1928 г. часопіс «Узвышша»[XX] пачынае друкаваць (па прапанове таго ж Кузьмы Чорнага) Антонавы «спробы манаграфіі аб творчасці» Максіма Гарэцкага[64] — любімага пісьменніка А. Адамовіча. У маі 1928 г. на гадавым пасяджэнні літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша» Антон Адамовіч стаў яго сябрам. У тым самым годзе ён заканчвае Белпедтэхнікум і «по представлению» Наркамасветы, перад якім за яго хадайнічалі ўжо вядомы тады празаік Міхась Зарэцкі і ўзвышэнскія паэты М.Лужанін і С.Дарожны, паступае ў БДУ (адразу на другі курс). У друку з'яўляюцца яго рэцэнзіі

---

[XI] БДА. Ф. 569-с, воп. 1, адз. зах. 7.
[XII] Гл.: старонкі .........................
[XIII] Чырвоны сейбіт. 1926. № 4.
[XIV] БДА. Ф. 569-с., воп. 1, адз. зах. 7.
[XV] Гл.: старонкі .........................
[XVI] Звязда. 1928. 15 студз.
[XVII] Узвышша. 1927. № 2.
[XVIII] Маракоў В. На залатым пакосе. Мн., 1927.
[XIX] Узвышша. 1927. № 6.
[XX] Узвышша. 1928. № 1—6.

на збор твораў М.Багдановіча[XXI], кнігі М.Гарэцкага «Жартаўлівы Пісарэвіч»[XXII] і Васіля Каваля «Крыніца»[XXIII].

Ва універсітэце А.Адамовіч вучыцца разам з Дзмітрыем Дуньком[65], Уладзімірам Мяжэвічам[66], Наталляй Вішнеўскай[XXIV]. На курс старэйшымі былі Сымон Баранавых[67], Пятро Глебка, Сяргей Дарожны[XXV], Алесь Звонак[68], Гірш Камянецкі[69], Максім Лужанін, Ян Скрыган[70], Макар Шалай[XXVI], Тодар Кляшторны, Фёдар Скаблоў[71], Мікола Хведаровіч[72] і, магчыма, Ганна Бараноўская[73]. Сябра і аднакурсніка А.Адамовіча Д.Дунько за «распространение на семинаре образа несчастной и страдающей Белоруссии»[XXVII] праз год выключылі з універсітэта і выслалі ў Сібір. На другім годзе вучобы А.Адамовіч паўторыць сябраву «памылку»: на адным з семінараў «преуменьшит значение статьи В.Ленина о Л.Толстом»[XXVIII] на той падставе, што Ленін[74] не быў прафесійным крытыкам або літаратуразнаўцам. Гэтага, магчыма, хапіла, каб 25 ліпеня 1930 г. А.Адамовіча арыштавалі.

У тое лета энкавэдысты сабралі ва ўнутранай турме НКВД эліту беларускай нацыі. У «амерыканцы» сядзелі: мовазнаўцы Пётр Бузук[75], Сцяпан Некрашэвіч[76], Язэп Сушынскі[77], Браніслаў Эпімах-Шыпіла[78], літаратуразнаўцы Мікола Байкоў, Уладзімір Чаржынскі[79], пісьменнікі і выкладчыкі Максім Гарэцкі, Міхайла Грамыка, Язэп Дыла[80], Хведар Імшэнік[81], пісьменнік і публіцыст Язэп Лёсік, пісьменнік Леапольд Родзевіч, пісьменніца Паўліна Мядзёлка[82], драматургі Алесь Ляжневіч[83], Васіль Шашалевіч[84], тэатральны дзеяч Чэслаў Родзевіч[85], паэты Уладзімір Дубоўка[86], Уладзімір Жылка[87], Язэп Пушча[88], літаратурныя крытыкі Адам Бабарэка[89], Мікалай Каспяровіч[90], Фелікс Купцэвіч[91], грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, пісьменнік Вацлаў Ластоўскі[92], дзяржаўныя дзеячы Радзівон Бонч-Асмалоўскі[93] і Аляксандр Галавінскі[94], дзеяч беларускага нацыянальнага руху Павел Жаўрыд[95], грамадскі дзеяч і публіцыст Павел Трамповіч[96], палітычны дзеяч і публіцыст Яўхім Кіпель, палітычны дзеяч і мемуарыст Леанард Заяц[97], палітычны дзеяч, публіцыст, журналіст, юрыст Уладзімір Пракулевіч[98], гісторыкі Тодар Забела[99], Міхаіл Мялешка[100], Аляксандр Цвікевіч[101], вучоны-геолаг Гаўрыла Гарэцкі[102], краязнавец Мікалай Азбукін[103], вучоны-аграрнік

---

[XXI] Узвышша. 1929. № 9—10.
[XXII] Узвышша. 1929. № 1.
[XXIII] Узвышша. 1930. № 3.
[XXIV] Гл.: старонкі .........................
[XXV] Гл.: старонкі .........................
[XXVI] Гл.: старонкі .........................
[XXVII] БДА. Ф. 569-с, воп. 1, адз. зах. 7.
[XXVIII] БДА. Ф. 569-с, воп. 1, адз. зах. 7.

Іван Кіслякоў[104], урач і літаратар Павел Каравайчык[105], публіцыст Іван Краскоўскі[106], святар, паэт Аляксандр Сак[107], журналіст Сяргей Скандракоў[108], вучоны-географ і публіцыст Аркадзь Смоліч, публіцыст, медык Іван Цвікевіч[109], мастацтвазнавец Мікола Шчакаціхін[110], педагог, рэдактар «Незалежнай думкі» Генадзь Багдановіч[111], дырэктар БДТ-1 Міхась Гурскі[112]…

Яўхім Кіпель пазней успамінаў: «Яскрава ў памяці стаяць перада мной старэнькія тады ўжо, <…> з клуначкамі, бацькі Антона… Заўсёды яны прыходзілі разам, але і ім, мне здаецца, не ўдавалася [пакінуць] перадачы…»[XXIX]

У 1931 г. літаратар Сымон Куніцкі[113], «які перавучыўся» (так ён жартаваў пра сябе), публікацыяй у «Полымі» «Крытычныя артыкулы Антона Адамовіча як адлюстраванне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі»[XXX] смела пачаў граміць апошняга. Самога С. Куніцкага гэта, аднак, не ўратавала — восенню 1936 г. яго арыштавалі, праз год судзілі, і далейшы лёс крытыка невядомы дагэтуль.

З пратакола допыту пісьменніка Лукаша Калюгі (1936 г.):

*«С <…> Антоном Адамовичем [я] познакомился, когда приехал учиться в Белпедтехникум, [и] моя повесть «Ні госць, ні гаспадар» уже печаталась в «Узвышшы». Где и когда я встретил его в первый раз — не могу точно сказать: не помню. Возможно, в [помещении] газеты «Беларуская вёска», где в это время фактически и помещалась редакция журнала «Узвышша». Позже он собирался писать про мое творчество. Таким образом и познакомились. Заходил несколько раз к нему на квартиру. Там видел Лужанина М., Глебку П., Дорожного С. — узвышевцев, которые вместе с ним учились в Белпедтехникуме и в БГУ. Позже у его родителей колхоз хотел забрать дом (*што пазней і адбылося. — ***Л. М***.), то он, чтобы не вселили в незанятую комнату кого-нибудь, порекомендовал родителям* меня, *как тихого, спокойного квартиранта, который будет аккуратно платить. Уговорил <…> перейти к ним на квартиру, которая ближе к центру, и плату можно будет оставить ту [же, что] я платил на окраине Минска (8 рублей в месяц). Про самого Адамовича знаю, что он много читал, разработал в последнее время перед арестом 1 том собраний сочинений Гегеля… Временами заходил ко мне <…> в комнату. Разговоры были исключительно на литературные темы. Из белорусских писателей хвалил узвышевских — Пущу и Дубовку.*

XXIX Кіпель Я. «Эпізоды». Нью Ёрк, 1998. С. 149.
XXX Полымя. 1931. № 2.

*Говорил, что так крепко с формальной стороны написанных произведений нет ни у кого из наших писателей. Из русских писателей [выделял] формалистов (Виктора Шкловского). Говорил, что хоть его и считают представителем буржуазной литературы, но он «спрытны», ловко пишет. Часто читал мне Вел. Хлебникова, особенно его так называемые заумные произведения, например, «Устюг Разина». Он очень хорошо читал, и, слушая его, легче воспринимались различные хлебниковские выкрунтасы. На политические темы у меня с ним не было никаких разговоров, и, когда его позже арестовало ГПУ как нацдема, для меня это было полной неожиданностью...»*[XXXI]

У канцы 1931 г. А. Адамовіча высылаюць у Глазаў (Расія). На этапе ён зноў сустрэнецца са старымі знаёмымі — былым вядучым крытыкам «Узвышша» Адамам Бабарэкам (ужо ў пасляваенны час А. Адамовіч напіша: «Апошняга майго — без двукоссяў — чалавека, дасягальнага кантакту, думкі й гаворкі — я страціў у асобе Адама Бабарэкі, разлучаны з ім у 1937 г.» [XXXII]) і «кулацкім сынам» Мікалаем Улашчыкам[114] (за спробу выступу супраць адлічэння якога з Белпедінстытута быў выключаны з камсамола таксама былы педтэхнікумавец Станіслаў Шушкевіч[XXXIII]), адным з будучых «чэмпіёнаў» па колькасці арыштаў. На перасылцы ў Маскве А. Адамовіч таксама стане сведкам шматдзённай галадоўкі Н. Чарнушэвіча[115].

У 1934 г. Антона Адамовіча пераводзяць у Вятку (Кіраў).

*«В Кирове М.Горецкий давал мне читать в рукописи часть своего произведения «Виленские коммунары»* (упершыню надрукавана (часткова) у 1943 г. у «Беларускай газэце» пад назваю «Віленскія змагары». — ***Л. М.***), *написанного <...> на русском языке и посылавшегося [им] в журнал «Новый мир»*[XXXIV].

Пасля вызвалення (у 1938 г.; тэрмін высылкі А.Адамовічу быў прадоўжаны яшчэ на два гады) вярнуўся ў Мінск, скончыў БДУ. Працаваў настаўнікам, выкладаў нямецкую мову ў адной з сярэдніх школ Мінска.

У час Другой сусветнай вайны апынуўся на акупаванай тэрыторыі. З ліпеня 1941 г. — адзін з арганізатараў выдання шэрагу беларускіх газет, часопісаў, кніг, дзе ўпершыню пачалі друкавацца

---

[XXXI] З асабовай справы (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) Канстанціна Вашыны (Лукаша Калюгі) (архіў КДБ Беларусі).
[XXXII] Сяднёў М. Масеева кніга. Мн., 1994. С. 307.
[XXXIII] Гл.: старонкі ..................
[XXXIV] БДА. Ф. 569-с, воп. 1, адз. зах. 7.

матэрыялы, якія сведчылі пра знішчэнне ў 1930-я г. большасці беларускай інтэлектуальнай эліты, і дзе друкаваліся творы раней забароненых, расстраляных або сасланых у сібірскія канцлагеры літаратараў. Незвычайная атрымалася сітуацыя — пісьменнік у канцлагеры або ўжо некалькі гадоў як расстраляны, а на Бацькаўшчыне друкуюцца ягоныя творы. Узначальваў А.Адамовіч і выдавецкі аддзел, створаны пры Мінскай гарадской управе для арганізацыі выпуску газет. Адначасова з'яўляўся галоўным рэдактарам Краявога выдавецтва «Менск», кіраваў Беларускім Навуковым Таварыствам, апекаваў «Менскую (Беларускую) газэту», самую буйную на Беларусі ў гады акупацыі (дапамог Яну Станкевічу[116] падрыхтаваць і выдаць «Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак», на старонках «Беларускай газэты» вёў урокі роднай мовы, пад рознымі псеўданімамі надрукаваў шэраг антыбальшавіцкіх артыкулаў).

У «Беларускай газэце» ў той час сабралася даволі моцная каманда. У ёй працавалі: Уладзіслаў Казлоўскі[117], М.Каваленка[118], Уладзімір Сядура[XXXV], Мікола Цэлеш[119], Уладзімір Дудзіцкі[120], Язэп Найдзюк[121], Леанід Савёнак[122] (Крывічанін), Наталля Арсеннева[123]. З газетай супрацоўнічалі або друкаваліся ў ёй: Антон Лёсік, Юрка Віцьбіч[124], Францішак Аляхновіч, Мікола Байкоў, Уладзімір Клішэвіч[125], Хведар Ільяшэвіч[126], Яўхім Кіпель, Аўген Калубовіч[XXXVI], Сяргей Хмара[127], Алесь Салавей[128], Масей Сяднёў[129]. Таму і сапраўды можна дапусціць, што «один номер «Беларускай газэты» помещал больше информации и информации более разнообразной, чем один номер крупнейшей советской газеты на белорусском языке «Савецкай Беларусі» [XXXVII].

Улетку 1942 г. ў артыкуле «Шляхам самапомачы і самааховы» ў «Беларускай газэце» А.Адамовіч вылучыў лозунг: «Ад народнае самабытнасьці шляхам народнае самапомачы й самаахновы да поўнага самаўраду»[XXXVIII]. Магчыма, тады на А.Адамовіча «зацікаўленымі бакамі» і было абʼяўлена паляванне[XXXIX]. Але варыянт з Францішкам

---

[XXXV] Гл.: старонкі .......................

[XXXVI] Гл.: старонкі .......................

[XXXVII] Жумарь С. «Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны». Мн., 1996. С. 190.

[XXXVIII] Беларуская газэта. 1942. 1 жн.

[XXXIX] «Писатель Г. Мурашко (Рыгор Мурашка. — ***Л. М.***), сотрудник «Беларускай газэты» і «Голаса вёскі», был связан с подпольем… Г. Мурашко подложил в письменный стол А. Адамовича мину, которая не сработала из-за отказа часового механизма». (*Сомонов Ф.* Не склонивши головы. Мн., 1992).

Яшчэ ў 1931 г. (Чырвоная Беларусь. № 2. С. 5) Р. Мурашка аб правядзенні «Акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» (1926) успомніў так: «На гэтым «з'лёце» нацыянал-дэмакраты даходзяць да такое ступені нагласці і нахабства, што выносяць з залі пасяджэння бюст Леніна…» Як жа такога абаронцу Леніна так блізка да сябе падпусціў А. Адамовіч? Відаць, ён лічыў, што Р. Мурашка, як і многія ў 30-я гады, пісаў адно, а думаў

Аляхновічам не прайшоў. Пасля 7-гадовага «адпачынку» на Салаўках былы ссыльны ведаў энкавэдысцкую хватку і нораў, таму паводзіў сябе вельмі асцярожна.

У тым жа годзе *«Адамович, Сенкевич*[130], *Короленко*[131], *Найдюк, Кипель <были> награждены немцами медалью для проявивших себя народов Востока»*[XL].

У канцы 1943 — пачатку 1944 г. А.Адамовіч пераехаў у Нямеччыну. Гэты перыяд ягонага жыцця (каля 15 гадоў), нягледзячы на цяжкія абставіны, таксама незвычайна актыўны. У лагеры для перамешчаных асобаў ён выдае газету «Ведамкі», пазней «Бацькаўшчыну». Выходзяць ягоныя рэцэнзіі на рукапіс кнігі Н.Арсенневай «Сягоння», паэму Л.Случаніна[132] «Рагнеда» [XLI], зборнік А.Салаўя «Звіняць званы Святой Сафіі» [XLII]. Напісаны грунтоўныя прадмовы да эміграцыйных выданняў Ул.Дубоўкі («Gredo» [XLIII]), Я.Коласа («Новая зямля» [XLIV]), Ул.Жылкі («Творы. Да 20-годдзя ўгодкаў смерці» [XLV]), А.Мрыя («Запіскі Самсона Самасуя» [XLVI]), Л.Калюгі («Нядоля Заблоцкіх» [XLVII]), Я.Купалы («Раскіданае гняздо» і «Тутэйшыя» [XLVIII]), М.Кавыля[XLIX] («Пад зорамі белымі»[L]), Я.Юхнаўца («Шорах моўкнасці» [LI]), М.Сяднёва («Ля ціхай брамы» [LII]).

Рыхтуецца шэраг так званых угодкавых артыкулаў — «Каб так любілі Беларусь» [LIII] (да 15-х угодкаў смерці П.Труса), «Usievalod Ihnatouski» [LIV] (да 65-годдзя з дня нараджэння[133]), «Паўлюк Трус» [LV] (да 25-х угодкаў смерці і 50-х угодкаў народзінаў), «Дзесятая гадавіна смерці Кузьмы Чорнага» [LVI], «30-я ўгодкі заснавання «Узвышша» [LVII], «Юбілейны год: «Наша доля»[134], «Наша ніва», «Узвышша» [LVIII], «Да 40-годдзя савецкае літаратуры» [LIX], «З нагоды 30-х угодкаў дзейнасці

---

другое, часта процілеглае. Р. Мурашка, атрымліваецца, спачатку пісаў тое, што думаў, а пісаць і думаць па-рознаму пачаў у час вайны.

[XL] Нацыянальны архіў РБ. Ф. 569, воп. 1, спр. 7, л. 96.
[XLI] Случанін Л. Рагнеда. Вільня, 1944.
[XLII] Салавей А. Звіняць званы святой Сафіі. Зальцбург, 1946.
[XLIII] Дубоўка У. Gredo. ...... 1949.
[XLIV] Колас Я. Новая зямля. Мюнхен, 1952.
[XLV] Жылка У. Творы. Да 20-годдзя ўгодкаў смерці. Нью-Ёрк, 1953.
[XLVI] Мрый А. Запіскі Самсона Самасуя. Мюнхен, 1953.
[XLVII] Калюга Л. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхен, 1953.
[XLVIII] Купала Я. Раскіданае гняздо. Тутэйшыя. Мюнхен, 1953.
[XLIX] Гл.: старонкі ..................
[L] Кавыль М. Пад зорамі белымі. Нью-Ёрк, 1954.
[LI] Юхнавец Я. Шорах моўкнасці. Нью-Ёрк, 1955.
[LII] Сяднёў М. Ля ціхай брамы. Нью-Ёрк, 1955.
[LIII] Беларускі работнік. Берлін, 1944. № 36. 3 вер.
[LIV] Крывіцкі сьветач. № 4—5(6—7). Крас.-май. 1946. С. 7—13.
[LV] Бацькаўшчына. Мюнхен, 1954. № 32 (216). 12 вер.
[LVI] Бацькаўшчына. Мюнхен, 1954. № 46 (228). 12 снеж.
[LVII] Бацькаўшчына. Мюнхен, 1956. № 24 (306). 10 чэрв.
[LVIII] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа ў Германіі 2 жн. 1956.
[LIX] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 30 сак. 1957.

Рыгора Крушыны»[LX], «Да 40-годдзя Купалавага антыбальшавізму»[LXI] і «Некаторыя Купалавы балады 1918 г.»[LXII], «Пяцьдзесят гадоў беларускага адраджэння»[LXIII], «На ўгодкі Слуцкае бітвы»[LXIV].

Друкуецца шэраг супрацьбальшавіцкіх рэфератаў, артыкулаў, кніг — «Яны зноў на Беларускай зямлі»[LXV], «Арыентацтва — хвароба беларуская»[LXVI], «Очерки истории большевизма в Белоруссии»[LXVII], «Саветызацыя беларускай літаратуры»[LXVIII], «Пантэон пісьменнікаў БССР»[LXIX].

На працягу амаль года друкуе ў «Бацькаўшчыне» манаграфію «Званар Адраджэння — Вацлаў Ластоўскі»[LXX]. Выходзяць прасякнутыя нацыянальнай ідэяй і творы самога А.Адамовіча: «Афрадыта ОСТ»[LXXI], «Каханы горад»[LXXII] і інш., пра якія аўтар пісаў: «Гэта быў проста эксперымент». Але «эксперымент», які ён потым хацеў працягваць.

З 1960 г. Антон Адамовіч жыў у ЗША. Тады ж стаў адным з кіраўнікоў радыёстанцыі «Свабода». Працягваюць выходзіць яго грунтоўныя артыкулы: «Алесь Гарун[135]: жыццё і творы»[LXXIII], «Лірнік краіны ветлай (З успамінаў пра Міколу Равенскага»[LXXIV]), «70-годдзе Максіма Гарэцкага»[LXXV], «Да пытання пра месца Францішака Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры»[LXXVI], «Да ўгодкаў Цёткі…»[LXXVII], «Аспекты <…> творчасці Наталлі Арсенневай»[LXXVIII], «90 год Купалы й Коласа», «Успаміны <…> памяці Лявона Савёнка»[LXXIX] і «Успаміны пра Уладзіміра Дубоўку»[LXXX], «Наталля Арсеннева»[LXXXI] і шмат іншых.

---

[LX] Рэферат, прачытаны А. з нагоды 30-х угодкаў літаратурнай дзейнасці Рыгора Крушыны. Беларус. Нью-Ёрк. № 60. 30 чэрв. 1957; Бацькаўшчына. Мюнхен. № 22. 1957.
[LXI] Беларускі Зборнік. Мюнхен, 1958. Кн. 9. С. 64—78.
[LXII] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 31 мая 1958.
[LXIII] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 20 чэрв. 1959.
[LXIV] Бацькаўшчына. Мюнхен, 1959. № 43-44 (479—480). 29 ліст.
[LXV] Раніца. Берлін, 1944. Лют.-сак., №№ 8 (170) — 10 (172).
[LXVI] Раніца. Берлін, 1944. № 26—29 (188—191). Ліп.
[LXVII] Институт по изучению СССР. Мюнхэн. Исследования и материалы. Серия I, вып. 18. 1954. С. 70.
[LXVIII] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 23 крас. 1955.
[LXIX] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 19 снеж. 1959.
[LXX] Бацькаўшчына. Мюнхен, 1954. Лют.-снеж., № № 7 (189) — 15—16 (197—198); 18 (200) — 20—21 (202—203); 30—31 (212—213); 35 (217) — 36—37 (218—219); 41 (223) — 43—44 (225—226); 47—48 (229—230).
[LXXI] Ля чужых берагоў. Альманах беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў. Мюнхен, 1955. С. 175—185 (пад псеўданімам Васіль Бірыч).
[LXXII] Беларускі работнік. Берлін, 1944. Вер.-кастр. № № 38, 40—44 (пад псеўданімам Юстапчык С.)
[LXXIII] Бацькаўшчына. Мюнхен, 1961. Жн.-кастр., № № 33 (568)—36 (571), 38 (573)—40 (575).
[LXXIV] Беларуская моладзь. № 12. 1962. С. 5—6, 10—11; № 13. 1962. С. 5—6, 13; № 16. 1962. С. 14—17; № 17. 1963. С 19—23.
[LXXV] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 9 лют. 1963.
[LXXVI] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 12 чэрв. 1965.
[LXXVII] Рэферат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 12 лют. 1966.
[LXXVIII] Рэфэрат на акадэміі 50-годдзя літаратурнай дзейнасці паэткі 21 ліст. 1971.
[LXXIX] Рэфэрат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 6 крас. 1974.
[LXXX] Рэфэрат, прачытаны А. на пасяджэнні БІНІМа 2 мая 1976.
[LXXXI] Арсеньнева Н. Між берагамі. Нью-Ёрк, 1979. С. XI—XXXIX.

Вывучэнне творчай спадчыны А. Адамовіча (каля 250 прац, у тым ліку на англійскай, нямецкай і рускай мовах) яшчэ наперадзе.

Памёр пісьменнік 12 чэрвеня 1998 г. у Нью-Ёрку.

У асабістым фондзе Антона Адамовіча ёсць характарыстыка, напісаная на яго энкавэдыстам. Там зроблена такая выснова: *«Он до сих пор всегда лез на рожон… «Незалежность» Белоруссии была у него целью жизни… <и он считал, что> потерять эту цель — значит умереть…»*[LXXXII]

---

[1] **ГАЛУБОК Уладзіслаў** [сапр.: Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; 3(15).5.1882, станцыя Лясная Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 28.9.1937, Мінск, НКВД], драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак. Вучыўся ў мінскіх мастакоў. Пачаў літаратурную дзейнасць як паэт і празаік у 1908: друкаваўся ў газ. «Наша ніва», час. «Лучынка», альманаху «Маладая Беларусь» і інш. У 1913 выдаў зборнік «Апавяданні» (Пецярбург). З 1917 выступаў як драматург; напісаў каля 40 п'ес з жыцця бел. народа, якія шырока ставіліся ў бел. тэатрах. У ліп. 1915 — пачатку 1917 адзін з кіраўнікоў Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (Мінск). У 1917—20 выступаў як акцёр і рэжысёр у Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі. Летам 1920 узначаліў Драматычную секцыю культурна-асветніцкай арганізацыі «Папараць-кветка» ў Слуцку. У 1920 арганізаваў у Мінску Трупу беларускіх артыстаў (з 1926 Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, з 1932 Беларускі трэці дзяржаўны тэатр з базай у Гомелі), дзе яго талент раскрыўся найбольш ярка і поўна. Першы народны артыст Беларусі (1928). Праводзіў вялікую культурна-асветную работу, дапамагаў мастацкай самадзейнасці, выступаў з лекцыямі і дакладамі, публікаваўся ў перыядычным друку. Як мастак-дэкаратар афармляў пастаноўкі ўсіх сваіх п'ес. Арыштоўваўся ў 1919, 15.2.1920 і ў вер. (студз. ?) 1924. З канца 1920-х г. пачаліся ганенні на Г. Ён быў адхілены ад мастацкага кіраўніцтва БДТ-3. Арыштаваны 21.6.1936. Расстраляны ў 1937. Жонка Г. пасля арышту мужа спрабавала скончыць жыццё самагубствам. Рэабілітаваны 26.8.1957. У 1982 адкрыта Грамадская гасцёўня імя У.Галубка (Траецкае прадмесце ў Мінску), зняты дакументальны фільм «Уладзіслаў Галубок».

---

[LXXXII] БДА. Ф. 569-с, воп. 1, адз. зах. 7.



М. Нікановіч, С. Куніцкі, У. Галубок. 1927 г.

*Обзорная справка по архивному делу № 1672 на Голубка Владислава Иосифовича.*

*Дело возникло в конце 1920 г. в связи с тем, что в ЧК Белоруссии поступили сведения, что Голубок является членом [партии] белорусских социал-революционеров. 15 февраля 1921 г. на основании ордера ЧК Белоруссии Голубок был арестован.*

*18 февраля 1921 дело по обвинению Голубка было прекращено в связи с тем, что он из партии БСР вышел, о чем было объявлено в газете «Советская Белоруссия» <…>, а других материалов против него не имелось.*

*После этого в ГПУ Белоруссии поступило несколько сведений о том, что Голубок, работая в театре, допускает высказывания националистического толка. В сентябре 1924 г. поступили сведения, что Голубок являлся в прошлом членом «Белоруской рады». Из копии протокола допроса Голубка от 12 декабря 1924 г. видно, что он в 1920 г., при поляках, примкнул к белым эсерам, пробыл с ними около 2-х месяцев, а затем, как только пришли большевики, он выбыл из этой партии, о чем объявил в газете «Сов. Белор.». Выписка из этой газетной статьи в деле имеется.*

*Из <…> сообщений за 1920—1922 гг. видно, что Голубок агитирует против Советской власти…*

*5 марта 1957.*
*Ст. следователь Горшков.*

[2] **АЛЯХНОВІЧ Францішак Каролевіч** [Аляхновіч-Алекна; 9.3.1883, Вільня — 3.3.1944, Вільня], драматург, тэатральны дзеяч, публіцыст. З дзяцінства выхоўваўся ў артыстычным асяроддзі: бацька працаваў скрыпачом у тэатры. Сістэматычнай агульнай адукацыі не атрымаў, хоць і рабіў некалькі спроб вучыцца ў Віленскай гімназіі, Віленскай хімічна-тэхнічнай школе і ў Кракаўскім ун-це. У 1904 паступіў у Варшаўскую драматычную школу, пасля сканчэння якой у 1907 вандраваў з трупай акцёраў. У 1908 вярнуўся ў Вільню, дзе ўладкаваўся рэпарцёрам, пачаў выдаваць на польскай мове гумарыстычны час. «Perkunas». Тады ж далучыўся да бел. нацыянальнага руху. За публікацыю антыцарскага артыкула часопіс «Perkunas» быў закрыты, а рэдактар трапіў пад следства. Уцёк у Аўстра-Венгерскую імперыю, дзе працаваў акцёрам у Кракаве і ў польскіх тэатрах Галіччыны. У 1913 у Расійскай імперыі была абʼяўлена амністыя, і хоць пад яе трапляла толькі частка «злачынстваў» рэдактара час. «Perkunas», А. вярнуўся ў Вільню, дзе яго асудзілі на год астрога. Менавіта ў Лукішскай турме Вільні А. пачаў пісаць пʼесы. У чэрв. 1918 перабраўся ў Мінск. Увесну 1919 вярнуўся ў Вільню і выдаваў час. «Беларускае жыццё», спрабаваў арганізаваць тэатр. Восенню 1919 зноў пераехаў у Мінск, дзе быў дырэктарам і рэжысёрам Беларускага тэатра, які субсідзіраваўся польскімі ўладамі. З ліп. 1920 у Вільні, у 1921—23 рэдагаваў газ. «Беларускі звон». Кніжка «Беларускі тэатр» (1924) засведчыла А. як першага бел. тэатразнаўца. У ліст. 1926 прыехаў у Мінск на Акадэмічную канферэнцыю, застаўся ў Савецкай Беларусі; працаваў літаратурным кіраўніком у адкрытым БДТ-2 у Віцебску. Там і быў арыштаваны 1.1.1927. Асуджаны да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер АДПУ Карэльскай АССР. З канца 1931 пакаранне адбываў у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры. У вер. 1933 абменены ўладамі на вязня польскай турмы Б.Тарашкевіча. Пасля вяртання ў Вільню напісаў свой самы вядомы твор — успаміны пра знаходжанне ў савецкіх канцлагерах «У капцюрох ГПУ». Твор упершыню надрукаваны ў польскай віленскай газ. «Słowo»; рускі пераклад успамінаў апублікавала парыжская газ. «Возрождение». У 1935 у Вільні ўспаміны выйшлі асобнай кнігай на польскай мове пад назвай «Siedem lat w szponach G.P.U.». У 1937 у Варшаве выдадзены яшчэ адзін польскі варыянт кнігі пад назвай «Prawda o Sowietach». Твор перакладаўся на італьянскую мову («La verita sulla Russia Bolscevica») і на партугальскую ў Бразіліі («Sete annos nas garras sovieticas»). Украінскі пераклад друкавала газ. «Діло», рэдакцыя якой затым выпусціла ўспаміны асобнай кнігай «7 літ на Соловках». Толькі ў канцы 1937 аўтар здолеў выдаць

кнігу на бел. мове. Вядома, такая актыўнасць А. не магла застацца незаўважанай НКВД. Калі ў 1940 у Вільню ўвайшлі савецкія войскі, то А. апынуўся на нелегальным становішчы. У час нямецкай акупацыі рэдагаваў газ. «Biełaruski hołas». У сак. 1944 застрэлены на сваёй кватэры савецкімі дыверсантамі. А. — аўтар 20 п’ес. Яго творы зноў пачалі друкаваць і ставіць на бел. сцэне ў 1990-х г.

[3] **ЖДАНОВІЧ Фларыян Паўлавіч** [16(28).10.1884, Мінск — 22.10.1937, Мінск, НКВД], акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч. Брат *А. Ждановіча*. У 1902 скончыў Варшаўскую драматычную школу. Працаваў акцёрам у польскіх тэатрах Беларусі. Далучыўся да бел. культурніцкага руху; у 1913 у Радашковічах паставіў «Паўлінку» Янкі Купалы; падрыхтаваў мастацкую праграму «Беларускі кірмаш». Арганізаваў драматычны гурток, які пасля паказу ў в. Старое Сяло пад Мінскам спектакля «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага быў забаронены ўладамі. Каб пазбегнуць арышту, выехаў у Крым, дзе выступаў на рускай сцэне. Да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 працаваў у Мінскай гарадской думе. У 1917 мастацкі кіраўнік Першага таварыства драмы і камедыі ў Мінску. У складаных умовах нямецкай і польскай акупацыі ствараў бел. нацыянальны тэатр. 14.9.1920 пад кіраўніцтвам Ж. у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы). Адначасова ў Наркамаце асветы БССР курыраваў беларускія тэатры. З 1922 у акцёрскім складзе тэатра. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Першы раз арыштаваны 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны 10.4.1931 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў ППК. Паўторна арыштаваны 8.7.1937. Прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.7.1958 Вярхоўным судом БССР. Групавая справа Ж. і іншых № 20951-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖДАНОВІЧ Антон Паўлавіч** [тэатральны псеўданім: Антук Крыніца; 18.4.1898, Мінск — 26.12.1937, Мінск, НКВД], акцёр. Брат *Ф.Ждановіча*. З 1917 у трупе Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, з 1918 у Беларускім савецкім тэатры, з 1920 у БДТ-1. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Сярод лепшых роляў: Лявон, Сцяпан Крыніцкі («Раскіданае гняздо», «Паўлінка» Я.Купалы), Сымон Мікула, Паўлюк («Рысь», «Хам» Э.Ажэшкі), Ваявода, Красінскі («Каваль-ваявода», «Кастусь Каліноўскі» Е.Міровіча), Бжазіцкі («Над Нёманам» М.Грамыкі), Разанаў, Кульмскі («Крывая аблона», «Вір» Я.Рамановіча), Лыняеў («Ваўкі і авечкі» А.Астроўскага), Міронаў («Капітанская дачка» паводле А.Пушкіна). Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны 11.12.1937 «тройкай» НКВД як «член ПАВ» да ВМП і 26.12.1937 расстраляны ў Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны 22.3.1958 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ж. № 11582-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

4 **ПЛАТОНАЎ Барыс Віктаравіч** [6.8.1903, Мінск — 15.12.1967, Мінск], бел. акцёр і педагог. Акцёрскую дзейнасць распачаў у 1920 у самадзейным калектыве пры "Беларускай хатцы" і ў Тэатры рэвалюцыйнай сатыры ў Мінску. З 1922 у Беларускім дзяржаўным тэатры (у далейшым БДТ-1 і тэатр імя Янкі Купалы). Станаўленне прафесійнага майстэрства прыпала на 1930-я г. Вызначаўся як акцёр надзвычай шырокага творчага дыяпазону. У бел. драматургіі стварыў шэраг маляўнічых камедыйных і сатырычных вобразаў (Быкоўскі ў "Паўлінцы" Я.Купалы, Зёлкін і Жлукта з п'есаў К.Крапівы "Хто смяецца апошнім" і "Мілы чалавек"). Як адну з асаблівасцяў творчасці акцёра крытыка адзначала паказ драматычных зменаў характараў герояў. Вельмі ўдалымі лічыліся створаныя ім вобразы ў класічных творах — Рамэа ("Рамэа і Джульета" У.Шэкспіра), Эзопа ("Ліса і вінаград" Фігерэйду), Пратасаў ("Жывы труп" Л.Талстога) і г.д. У пасляваенны час атрымаў прызнанне з боку ўладаў — у 1946 стаў Народным артыстам БССР, у 1948 — Народным артыстам СССР. Лаўрэат дзяржаўных прэмій СССР (1948, 1952). У 1961—63 мастацкі кіраўнік Купалаўскага тэатра. З 1965 загадваў кафедрай майстэрства акцёра і рэжысуры Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. На Беларускім радыё выступаў з чытаннем прозы і паэзіі. Здымаўся ў фільмах ("Кастусь Каліноўскі", "Песня вясны", "Паўлінка", "Хто смяецца апошнім"). У 1965 пра яго быў зняты дакументальны фільм "Думкі і вобразы". Імем П. названа вуліца ў Мінску.



**Платонаў Б. В.**

5 **КОЛАС Якуб** [сапр.: Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 22.10(3.11).1882, засценак Акінчыцы Мінскага пав., з 1971 у межах Стоўбцаў Мінскай вобл. — 13.8.1956, Мінск], паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, педагог, грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў сучаснай бел. літаратуры і літаратурнай бел. мовы. За актыўны ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе 9—10.7.1906 у в. Мікалаеўшчына (цяпер Стаўбцоўскі р-н) пазбаўлены права працаваць у школе. Зімой 1906—07 у леснічоўцы Смалярня адкрыў нелегальную школу. У маі-чэрв. 1907 быў

загадчыкам літаратурнага аддзела газ. «Наша ніва», але ў адпаведнасці з загадам паліцыі мусіў пакінуць Вільню. 15.9.1908 выязная камісія Віленскай судовай палаты ў Мінску асудзіла К. на 3 гады зняволення, якое ён адбываў у Мінскай турме. У 1917 ад БСГ выстаўляўся кандыдатам у дэпутаты Устаноўчага сходу Расіі. Ужо ў савецкі час у 1925 у К. быў праведзены вобыск, а потым і допыт у сувязі з т. зв. «лістападаўскай справай» на Случчыне. У 1930-я г. савецкая крытыка абвінаваціла К. у нацыянал-дэмакратызме, у прапагандзе ідэі бяскласавасці бел. нацыі, знаходзіла ў яго творах ідэалізацыю хутарской гаспадаркі і апяванне месіянскай ролі інтэлігенцыі. Сваякі К. былі рэпрэсаваны. У 1937 пагроза арышту навісла над самім К. Яго выклікалі на допыты; 6.2.1938 у яго доме зноў правялі вобыск. У самы апошні момант было прынята рашэнне не арыштоўваць К.

[6] **ЧАРОТ Міхась** [сапр.: Кудзелька Міхась Сымонавіч; 7.11.1896, мяст. Рудзенск Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, турма НКВД], паэт, драматург, празаік, рэдактар, грамадскі дзеяч. Стрыечны брат Іосіфа і Івана Кудзелькаў (гл.: *Рэпрэсаваныя…*). У 1917 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Мабілізаваны ў армію; служыў афіцэрам запаснога палка ў Кузнецку. Вясной 1918 вярнуўся ў Мінск; пачаў настаўнічаць у бел. школе; паступіў у МВПІ. Спяваў у хоры *У.Тэраўскага* пры «Беларускай хатцы», быў старшынёй тэатральнай суполкі «Маладзік». Друкавацца пачаў у 1918. У 1919 член Белнацкама і створанай пры ім Вайсковай Рады. Быў адным з арганізатараў Беларускай камуністычнай арганізацыі, якая ў студз. 1920 утварылася з членаў «Маладой Беларусі». З 1920 супрацоўнік, у 1925—29 рэдактар газ. «Савецкая Беларусь». У 1922 апублікаваў першы зборнік вершаў «Завіруха». Заснавальнік і першы кіраўнік Усебеларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Маладняк» (1923). З 1927 член літаратурнага аб'яднання «Полымя», потым БелАППа. У 1922—24 кандыдат у члены, у 1924—31 член ЦВК БССР. У 1924 вучыўся ў Маскве ў Дзяржаўным інстытуце журналістыкі. У 1930-я г. працаваў загадчыкам літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, кансультантам у кабінеце маладога аўтара СП БССР. Быў жанаты, гадаваў чацвёра дзяцей. Арыштаваны 24.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 35, кв. 1, адначасова выключаны з ВКП(б).

З пратакола вобыска:

*«…документы, журналы — 210 штук, книги — 85 штук, переписка — 127 страниц, рукописи — одна пачка* (! — ***Л. М***.)*…»*

З анкеты арыштаванага Кудзелькі (Чарота) М.С.:

*«…Состав семьи: жена Дадыко Зинаида Тарасовна, дети: Слава, Светлана, Зина, Елена в возрасте от 11 до 6 лет, все на моем иждивении…»*

Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «агент польскай разведкі» і за "ўдзел ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта супраць Н.Ф.Гікалы" да ВМП з канфіскацыяй маёмасці.

Перад расстрэлам Ч. запісаў на сцяне камеры ўнутранай турмы Мінскага НКВД свой развітальны верш «Прысяга».

З успамінаў Міколы Хведаровіча (ЛіМ. 1965 г., 22 чэрв.):

*«У 1939 годзе я быў пераведзены ў адзіночную камеру. Уважліва аглядзеў сцены, шукаючы надпісаў, і вось у кутку прачытаў тэкст верша, выкалупаны нечым вострым на сцяне. Гэта была апошняя сустрэча з маім любімым паэтам і другам Міхасём Чаротам. Гадамі я захоўваў гэтыя яго словы ў сэрцы:*

*Я не чакаў*
*І не гадаў,*
*Бо жыў з адкрытаю душою,*
*Што стрэне лютая бяда,*
*Падружыць з допытам,*
*З турмою.*

*Прадажных здрайцаў ліхвяры*
*Мяне заціснулі за краты.*
*Я прысягаю вам, сябры,*
*Мае палі,*
*Мае бары, –*
*Кажу вам — я не вінаваты!»*

Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.12.1956. Асабовая справа К. № 8153-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі. Імем Ч. названы вуліцы ў Маладзечне і Рудзенску.

5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Старажоўская, д. 47, кв. 2 была арыштавана хатняя гаспадыня Дадыка Ефрасіння Тарасаўна (н. у 1903), жонка Ч. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Загінула ў зняволенні ў першай палове 1940-х г. Рэабілітавана 11.3.1957 трыбуналам БВА. Асабовая справа Ч. № 10102-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[7] **АЛЕКСАНДРОВІЧ Андрэй Іванавіч** [9(22).1.1906, Мінск — 6.1.1963, Падмаскоўе], паэт, перакладчык, публіцыст, член-карэспандэнт АН БССР. З сям'і рабочага. У 1925 скончыў МБПТ. У тэхнікуме «без удзелу А.Александровіча не праходзіла ні адно мерапрыемства. Ён быў абраны членам быро камсамольскай арганізацыі, членам гаркама і ЦК камсамола Беларусі» (Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн., 1985). У 1930 А. скончыў БДУ. Яшчэ ў гады 1-й сусветнай вайны стаў удзельнікам хору У.Тэраўскага. Наведваў «Беларускую хатку». У 1923 — адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». З 1925 працаваў у розных рэгіянальных і мінскіх выданнях («Маладыя араты», «Наш працаўнік»,

«Чырвоная Полаччына», «Бальшавік Беларусі», «Заклік»). «Не было такой жыццёвай або палітычнай з'явы, на якую не адгукнуўся б Александровіч» (Звонак А. «Неспакойныя сэрцы». Мн., 1973). Першыя паэтычныя зборнікі — «Па беларускім бруку», «Прозалаць». Кар'ера А. развівалася даволі паспяхова: у 1934—37 нам. старшыні праўлення СП БССР, дырэктар Інстытута мовы БелАН, у 1931—37 член ЦВК БССР, у 1936—37 кандыдат у члены ЦК КП(б)Б. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. У 1930-я г. у час цкавання бел. руху далучыўся да гэтай кампаніі. У паэме «Цені на сонцы» (1930) «выкрыў» вядомых бел. літаратараў і вучоных. Разгромным у дачыненні да бел. літаратуры было і яго выступленне на III пленуме праўлення СП СССР. З успамінаў С.Грахоўскага:

*«З імпэтам, на высокай аратарскай ноце гаварыў пра беларускую паэзію Андрэй Александровіч. Ён тады хадзіў у хромавых ботах, галіфэ і гімнасцёрцы вайсковага крою, якая станавілася прыкметаю непахіснасці таго, хто меў падставы яе насіць. Ён ратаваў за мабілізуючую, аратарскую паэзію лозунга і заклікаў і ўсяляк адмаўляў «гнілую» асабістую і філасофскую лірыку. Жорстка крытыкаваў Хадыку, Дарожнага, Маракова за адрыў ад сучаснасці, паставіў у прыклад Кляшторнага, які пачаў пісаць пра дарожнае будаўніцтва. У зале стаяла недаўменная цішыня...»* (Так і было. Мн., 1986).

З успамінаў П.Пруднікава:

*«У час першамайскай дэманстрацыі 1932 года я спрабаваў патрапіць на плошчу Свабоды, да ўрадавай трыбуны... Міліцыя не прапускала. І вось, бачу, ідзе Андрэй Іванавіч... Пытаецца:*

*— Чаго вы тут стаіце, Буравей* (псеўданім П.Пруднікава. — ***Л. М***.)?

*— Міліцыя не пускае.*

*— Ідзі за мной, прапусцяць, — запэўніў ён мяне. Вось ён дастаў з кішэні чырвоную кніжачку члена ЦВК БССР і накіраваўся наперад. Я ішоў за ім. Калі падыходзілі да міліцыянера, той сур'ёзна запярэчыў.*

*— Гэта са мной, — сказаў Александровіч, паказваючы на мяне.*

*Міліцыянер браў пад казырок, а мы прабіраліся наперад...»*

А. вылучыўся ў русіфікацыі бел. мовы — у падрыхтаваным пад яго рэдакцыяй «Руска-беларускім слоўніку» (1937) былі парушаны лексічныя нормы бел. мовы. Але карная машына не абмінула і яго. 2.7.1938 А. быў арыштаваны і 22.4.1939 пазасудовым органам НКВД асуджаны як «член антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» і за «шпіёнскую дзейнасць» да 15 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці і 5 гадоў пазбаўлення правоў.

З ліста Ю.Віцьбіча да І.Гуткоўскага (18 мая 1957 г.):

*«Александровіча арыштавалі ў Мар'інай Горцы, каля ён разам з Хведаровічам, босы і без кашулі, лавіў рыбу ў Цітве. Александровіч, перадаючы сваю вуду Хведаровічу (паводле пазнейшых слоў Жаўрука мне), сказаў: «Трымай, Мікола. Праз гадзіну вярнуся назад». Праз тыдзень арыштавалі Хведаровіча. Гадзіна абярнулася на два дзесяцігоддзі... Тым ня менш, няма ў мяне спачування да «двудушнага Януса» Александровіча. У часе допытаў у яго зламалі два рабры, выслалі аж на Ігарку, а ён там (сведчыў*

*Т.Лебяда) да нябес усхваляў ВКП(б), апраўдваў НКВД і ўсім гэтым нажыў сабе ворагаў не толькі паміж паліткатаржанаў, але нават «уркаў»* (Юрэвіч Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997).

З заявы начальніка 4 аддзела УДБ НКВД БССР І.І. Кунцэвіча ад 11 снежня 1938 г. (прыводзіцца з кнігі Р.Платонава «Лёсы», Мн., 1998):

*«В настоящем протоколе допроса (поэта А.И.Александровича) я обнаружил внесенные собственноручно наркомом т. Наседкиным целые новые вопросы и ответы, а на странице 45 протокола допроса обнаружил приписанный Наседкиным такой вопрос: «Кто же вам известен как руководитель организации?». И на этот вопрос, написанный собственно Наседкиным, ответ следующего содержания: «Из руководства организации мне известны только Левицкий, Потапенко и Стакун, кроме того, близкими к руководству стояли Пивоваров, Я.Купала, Я.Колас, Дорожкин, других лиц не знаю». Кроме того есть приписки целого ряда фраз и на других местах.*

*Хочу отметить, что приписки эти т. Наседкиным сделаны без арестованного, до этого он арестованного, как мне хорошо известно, не видел в глаза…»*

Пасля прысуду А. быў этапаваны ў Нарыльскі канцлагер НКВД Краснаярскага краю. Некаторы час пакаранне адбываў разам з П.Пруднікавым. Вызвалены 11.2.1947. Вярнуўся на радзіму, працаваў літсупрацоўнікам у шматтыражнай газ. Мінскага трактарнага завода. У 1948 пасля забароны выступаць у друку працаваў брыгадзірам будаўнікоў. Зноў арыштаваны 26.2.1949 і 8.6.1949 прыгавораны да ссылкі ў Краснаярскі край. Пасля вызвалення вярнуўся ў Мінск (1955). 25.11.1955 рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР**.** Памёр у санаторыі ў Падмаскоўі ад запалення лёгкіх. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Асабовая справа А. № 5654-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

8 **АКСЕЛЬРОД Зэлік** [30.12.1904, Маладзечна Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 26.6.1941, Мінск], паэт, перакладчык. Брат мастака Меера Аксельрода [1902, Маладзечна — 1970; мастацкую адукацыю атрымаў у прыватных выкладчыкаў у Мінску, а таксама ў М.Шагала і Ю.Пэна ў Віцебску; пасля 2-й сусветнай вайны стварыў серыю карцін пра гета]. А. пачаў выступаць у друку ў 1921. Пісаў на ідыш. У 1922—25 вучыўся ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В.Брусава ў Маскве разам з Уладзімірам Дубоўкам, Ізі Харыкам **і** Георгіем Бярозкам (падрабязней гл. ніжэй). У 1928 А. скончыў літаратурны ф-т Маскоўскага педінстытута. Менавіта мастацкая атмасфера Масквы 1920-х г. паўплывала на фарміраванне паэтычнага густу А., творы якога вылучаліся лірызмам. Перакладаў бел. і расійскую класіку (Я.Купала, А.Пушкін, М.Някрасаў). Член БелАПП з 1928, член СП СССР з 1934. Пасля вяртання ў Беларусь працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР, а з 1931 адказны сакратар яўрэйскага час. «Штэрн» («Зорка»). Пераклаў паэму «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа», але гэта не выратавала яго ад рэпрэсій.

Арыштаваны 30.5.1937 у Мінску па адрасе: Апанскі зав., д. 8, кв. 5 як «кіраўнік антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі».

Пра далейшы лёс А. вядома з артыкула *«Осколки разбитого зеркала» (АВИВ.* 1993, №7*):*

*«До войны Зелика Аксельрода вместе с другими еврейскими писателями арестовали и посадили в минскую тюрьму. Когда началась война и фашисты подходили к Минску, кто-то из местной власти распорядился выпустить арестованных из тюрьмы. Когда люди бросились бежать из ворот, был отдан приказ стрелять по бегущим из пулемета. Некоторым удалось спастись, но кто-то остался лежать, истекая кровью. Среди тех, кто спасся в тот день, был Григорий Березкин, впоследствии известный белоруский критик и литературовед. Зелику Аксельроду не удалось уйти от пули».*

Рэабілітаваны А. быў 7.6.1957. Яго асабовая справа А. № 4985-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЯРОЗКА Георгій** [н. 25.8(7.9).1905 — 2.11.1982, Масква], празаік, адзін з вядучых крытыкаў “Узвышша”. З сям’і настаўніка. Скончыў філалагічны ф-т МДУ (1927). Працаваў кінарэжысёрам, прымаў удзел у стварэнні вядомых савецкіх кінафільмаў “Мы з Кранштата”, “Калі заўтра вайна” і інш. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Пасля яе заканчэння жыў і працаваў у Маскве. Падрабязней гл.: *Б.П.* т. 1. с. 483—484.

9 **РАМАНОВІЧ Яўген Сцяпанавіч** [21.1.1905, Мінск — 25.2.1979, Мінск], бел. драматург, празаік, тэатральны дзеяч. З 1919 удзельнічаў у рабоце бел. мастацкага клуба “Беларуская хатка” ў Мінску. У 1920—22 загадчык клуба рабочай моладзі, член яго драматычнага гуртка. Тады ж пачаў пісаць вершаваныя фельетоны, якія змяшчаў у друкаваным на шапірографе час. “Маладзік”. У 1921—24 вучыўся на ф-це грамадскіх навук БДУ. З 1922 надоўга звязаў сваё жыццё з тэатрам БДТ-1 (з 1944 тэатр Я.Купалы). Працаваў там акцёрам, а з 1931 рэжысёрам, загадчыкам літаратурнай часткі. У 1941—44 знаходзіўся з тэатрам у эвакуацыі ў Томску. У 1946 атрымаў званне Заслужанага артыста БССР. У 1947 перайшоў на работу ва Упраўленне прапаганды і агітацыі ЦК КПБ(б), з 1949 — у Міністэрстве культуры БССР. Меў дзяржаўныя ўзнагароды. Пахаваны на Паўночных могілках Мінска.

10 **ТЭРАЎСКІ Уладзімір Васілевіч** [11(23).11.1871, мяст. Раманава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Леніна Слуцкага р-на Мінскай вобл. — 10.11.1938, Мінск, турма НКВД], дырыжор, кампазітар, фалькларыст. З сям’і святара. Скончыў Слуцкае духоўнае вучылішча (1889). У 1892—95 служыў у войску. У другой палове 1890-х г. жыў на Урале, кіраваў аматарскімі харавымі калектывамі. Спяваў у капэле Дз. Агрэнева-Славянскага. Вярнуўся ў Беларусь у пачатку 1900-х г. Узначальваў царкоўны хор Старажоўскай

царквы, аматарскі хор Мінскага таварыства цвярозасці; выкладаў спевы ў пачатковых школах. У 1914 стварыў Мінскі беларускі хор, які ў 1917 увайшоў у склад Першага Беларускага таварыства драмы і камедыі. У 1918—19 кіраваў харавой капэлай у Беларускім савецкім тэатры; уваходзіў у склад Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва. Улетку 1920 арыштаваны польскімі акупацыйнымі ўладамі ў Асіповічах. Пасля ўтварэння Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Мінску (БДТ-1) яго галоўны хормайстар. Арыштаваны 3.9.1921 у Мінску разам з У. Фальскім. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.9.1921 як «неданосчык» да ВМП (заменена на 5 гадоў ППК). Этапаваны ў Смаленскі папраўчы дом. Вызвалены 24.5.1923. Кіраваў харавымі калектывамі БДУ, МБПТ, саюза паштавікоў-тэлеграфістаў. Стварыў музыку да спектакляў БДТ-1: «Бязвінная кроў» У. Галубка (1918), «Кавальваявода» Е. Міровіча (1925) і інш. Найбольш вядомай стала музыка да спектакля «На Купалле» М. Чарота (1921). Напісаў песні і рамансы на словы Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, М. Чарота і інш. Запісваў і гарманізаваў народныя песні, частка якіх апублікавана ў зборніках «Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мелодый» (1921), «Беларускі лірнік» (1922), «Вайсковы зборнік» (1926). Браў удзел у рабоце музычнай секцыі Інбелкульта. Пасля 1930 звольнены з работы, абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме. Служыў псаломшчыкам пры царкве Св. Марыі Магдалены на вул. Старажоўскай у Мінску. Зноў арыштаваны 17.8.1938. Прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Па першай справе (№ 20479-с; захоўваецца з фотаздымкам ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 6.8.1996, па другой у 1957.

11 **КІПЕЛЬ Яўхім Яўсеевіч** [25.12.1895(7.1.1896), в. Байлюкі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл. — 27.7.1969, ЗША], грамадскі і паліт. дзеяч, педагог, публіцыст. З 1915 удзельнік 1-й сусветнай вайны, скончыў 2-ю Кіеўскую ваенную школу прапаршчыкаў. З 1918 у Чырвонай арміі. З 1921 у Мінску, член Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасветы БССР. Вучыўся ў БДУ (скончыў у 1926), у 1922—27 выкладаў бел. мову і прыродазнаўства ў школах Мінска. З 1926 сакратар аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Інбелкульта. Са студз. 1928 аспірант БДУ, у кастр. 1929 выключаны па ідэалагічных матывах. З сак. 1930 выкладчык Мінскіх педагагічных курсаў пры МБПТ. Быў жанаты, меў сына. Арыштаваны 28.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны 10.4.1931 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Налінск Вяцкай вобл. Вызвалены 9.7.1935. Зноў арыштаваны ў Арле ў снеж. 1935. Прыгавораны да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Пасля вызвалення ў снеж. 1940 настаўнічаў у Саратаве. У пачатку 1942 мабілізаваны ў Чырвоную армію. З чэрв. 1942 у Мінску. Супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Працаваў у Інспекцыі беларускіх школ, Беларускай народнай самапомачы. Рэдагаваў газ. «Голас вёскі». З 1944 кіраўнік навуковага аддзела БЦР. На 2-м

---

Усебеларускім кангрэсе абраны яго старшынёй. З сярэдзіны 1944 у Германіі. Падрыхтаваў да друку кнігу ўспамінаў пра савецкія лагеры «З іхняга раю». З 1950 у ЗША, уваходзіў у Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (з 1951), стварыў Аб'яднанне беларускіх вязняў савецкіх канцлагераў. Публікаваўся ў бел. эмігранцкай прэсе. Успаміны К. захоўваюцца ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Йорку. Па першай справе (№ 20951-с, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988.

**КІПЕЛЬ Зора** [дзявочае Савёнак; нар. 1.7.1927, Мінск], грамадска-палітычны і культурны дзеяч беларускай эміграцыі, літаратуразнавец, бібліятэказнавец, перакладчык, хімік. Бацька Зоры, аўтар шматлікіх школьных падручнікаў, быў арыштаваны ў 1933. Да 1939 разам з маці жыла ў Крычаве, да вяртання бацькі з ссылкі. У гады нямецкай акупацыі сям'я заставалася ў Мінску. У 1944 выехала ў Нямеччыну. У 1948 скончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У 1949 пераехала ў Бельгію, дзе ў 1955 скончыла хімічны ф-т Лювенскага ун-та. У тым жа годзе перабралася ў ЗША, дзе ў 1956 выйшла замуж за В. Кіпеля. Першапачаткова працавала як хімік. У 1966 закончыла бібліятэчны факультэт Ратгерскага універсітэта (у Нью-Брансуік) і стала працаваць у Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы. Зацікавілася літаратуразнаўствам, у 1988 скончыла факультэт параўнаўчага літаратуразнаўства таго ж Ратгерскага універсітэта. У 1990-х была рэдактарам газеты "Беларус" (Нью-Йорк). Адна з самых улюбёных тэмаў Зоры — старабеларускі тэкст "Аповесці пра Трышчана", англійскі пераклад якой яна падрыхтавала і выдала.

**КІПЕЛЬ Вітаўт** [н. 30.5.1927, Мінск], грамадска-палітычны і культурны дзеяч беларускай эміграцыі, публіцыст, бібліёграф, гісторык, геолаг. Сын *Яўхіма Кіпеля* і настаўніцы Марыі Зубкоўскай. У 1930, калі бацька К. быў арыштаваны і высланы з Беларусі, сям'я падалася за ім. Дзіцячыя гады К. правёў у Арле. Уз'яднанне сям'і адбылося толькі ў гады вайны, калі ўсе апынуліся на акупаванай немцамі тэрыторыі. У 1942—44 жыў у Мінску, у 1944 выехаў у Германію. Калі жыў у брытанскай і амерыканскай акупацыйных зонах, скончыў Беларускую гімназію імя Я.Купалы, арганізоўваў беларускі скаўтынг. У 1948 паступіў у Цюбінгенскі ун-т, з 1949 жыў у Бельгіі, дзе вучыўся ў Лювенскім ун-це, геалагічны ф-т якога скончыў у 1953. У канцы 1955 пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-прамысловых кампаніях і Балтыморскім ун-це. У 1962—85 супрацоўнік Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі. З 1982 старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтваў у Нью-Йорку. Аўтар многіх прац па гісторыі Беларусі і бел. эміграцыі.

[12] **АЛЕКСАНДРОВІЧ Алеся** (**Аляксандра**) **Іванаўна** [12.7.1904, Мінск — 25.8.1947, Мінск], літаратуразнавец, педагог, бібліёграф. Сястра

*Андрэя Александровіча.* Была ўдзельніцай клуба беларускай мастацкай інтэлігенцыі “Беларуская хатка” ў Мінску (да 1920). Валодала выдатным музычным голасам (сапрана). Пасля стварэння ў 1920 Беларускага дзяржаўнага тэатра разам з хорам У. Тэраўскага перайшла туды працаваць. У 1928 скончыла літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Далей працавала па спецыяльнасці. У 1934—36 супрацоўніца аддзела рэкамендацыйнай бібліяграфіі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. Пасля вайны працавала ў Літаратурным музеі Я. Купалы. З рэцэнзіямі і літаратуразнаўчымі артыкуламі пачала выступаць у друку ў 1944. З канца 1920-х г. займалася ўкладаннем чытанак для пачатковай школы і хрэстаматый па беларускай літаратуры (хрэстаматыя “Родная літаратура” вытрымала 13 выданняў па 1957 г. уключна).

[13] **РОДЗЕВІЧ Леапольд Іванавіч** [12.6.1895, фальварак Кур’янаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — пасля 1938 ?, Саратаў ?, НКВД], празаік, публіцыст, паэт, драматург. З шляхецкага роду, які да пачатку XX ст. асяляніўся. Брат *Ч.Родзевіча.* У 1909 скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы. Пад уплывам «Нашай нівы» пачаў пісаць па-беларуску. Публікаваўся з 1912. У 1914 пераехаў у Вільню. Перад наступленнем нямецкіх войскаў у 1915 пакінуў горад. З 1919 жыў у Мінску, у 1921 вярнуўся ў Вільню. З 1921 працаваў у рэдакцыі газ. «Беларускія ведамасці», потым — у «Беларускім звоне». У 1922—23 рэдагаваў газ. «Наша будучыня», з 1922 газ. «Беларускі звон». Кіраваў Беларускай драматычнай майстроўняй. Вадэвілі і п’есы Р. карысталіся папулярнасцю, ставіліся ў 1920—30 прафесійнымі і самадзейнымі тэатрамі. У 1922 увайшоў у Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю (БРА), быў членам яе ЦК, супрацоўнічаў з яе газ. «Вольны сцяг» (1923). Адзін з ініцыятараў уступлення ў 1923 БРА ў КПЗБ. Арыштоўваўся ў 1923. У 1924 сакратар Гродзенскага падпольнага акружкама КПЗБ. З-за пераследу ўладаў увосень 1925 перабраўся ў Мінск. У 1925—34 рэдактар газ. «Чырвоны сцяг», час. «Бальшавік» і «Бюлетэня ЦК КПЗБ». Працаваў у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі пры БелАН. Арыштаваны АДПУ 18.7.1933. Высланы ў Саратаў, дзе працаваў у лясніцтве. Паўторна арыштаваны ў 1938. Дакладная дата гібелі невядомая. Рэабілітаваны ў 1956. Многія творы Р., асабліва «Збянтэжаны Саўка», цяпер з поспехам ставяцца тэатральнымі калектывамі Беларусі.

**РОДЗЕВІЧ Чэслаў Іванавіч** [20.3.1889, фальварак Кур’янаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — сак. 1942, Саратаў, НКВД], грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст. Брат *Л.Родзевіча.* У 1908 скончыў Віленскую сярэднюю хіміка-тэхналагічную школу. Выступаў як акцёр у Першай беларускай трупе Ігната Буйніцкага. Жыў у Петраградзе. Адзін з заснавальнікаў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны, Таварыства беларускага народнага штукарства. У 1918 скончыў Новачаркаскі політэхнічны інстытут. У 1918 супрацоўнік Беларускага

нацыянальнага камісарыята. Пераехаў у Мінск. У канцы 1918—19 акцёр Беларускага савецкага тэатра; у 1919—20 выкладчык Мінскага педінстытута. У час польскай акупацыі загадчык аддзела асветы Мінскага магістрата. У 1920-я г. удзельнічаў у рабоце Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасветы БССР. З 1922 у Інбелкульце, з 1925 навуковы сакратар сельскагаспадарчай секцыі. Арыштаваны 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны калегіяй АДПУ 10.4.1931 да 5 гадоў высылкі ў Саратаў. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 15.11.1957.

14 **БАГДАНОВІЧ Максім Адамавіч** [27.11(9.12).1891, Мінск — 12(25).5.1917, Ялта, Крым], паэт, перакладчык, літаратуразнавец, празаік, класік беларускай літаратуры. З сям'і вядомага этнографа *А. Багдановіча.* Раннія дзіцячыя гады правёў у Гродне (1892—96), потым жыў і вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе (да 1908) і Яраслаўлі (1908—16). Увосень 1916 прыехаў у Мінск. У лютым 1917 цяжка хворы выехаў на лячэнне ў Ялту, дзе памёр і пахаваны. Літаратурны дэбют Б. адбыўся ў 1907 у газеце "Наша ніва". Б. — адзін са стваральнікаў бел. літаратуры і літаратурнай мовы новага часу. Б. адзін з першых пачаў распрацоўваць у бел. літаратуры такія складаныя вершаваныя формы, як санет, актава, тэрцыны, трыялет, рандо, скерца. Імкнучыся сцвердзіць вобразна-выяўленчыя магчымасці бел. мовы, шырока культываваў мастацкі пераклад. Заснавальнік пейзажнай і інтымнай лірыкі ў бел. літаратуры. Шматлікія творы паэта пакладзены на музыку, некаторыя вершы бытуюць як народныя песні ("Пагоня", "Зорка Венера", "Слуцкія ткачыхі").

**БАГДАНОВІЧ Адам Ягоравіч (Адольф Георгіевіч)** [20.3(1.4)1862 (паводле аўтабіяграфіі 25.3(6.4)), мяст. Халопенічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 16.4.1940, Яраслаўль], этнограф, фалькларыст, мемуарыст, гісторык. Бацька *М.Багдановіча.* У 1882 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Падчас вучобы там арганізаваў гурток самаразвіцця і самаадукацыі, пачаў збіраць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. У жн. 1882 уступіў у «семінарскую» групу нарадавольцаў Мінска. На працягу 3 гадоў вёў прапагандысцкую работу ў вёсках Ігуменшчыны (цяпер Чэрвеньшчына). У 1885—91 загадчык 1-га гарадскога пачатковага вучылішча ў Мінску. З 1886 выступаў у перыядычным друку з артыкуламі па этнаграфічнай тэматыцы («Минские губернские ведомости», «Минский листок», «Гродненские губернские ведомости», «Виленский календарь», «Нижегородский листок» і інш.). Уваходзіў у кіраўніцтва мінскай арганізацыі «Народная воля». Пасля рэзкага пагаршэння здароўя адышоў ад рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1892 пераехаў у Гродна, дзе паступіў на службу ў мясцовае аддзяленне Сялянскага пазямельнага банка. Адначасова быў дырэктарам публічнай бібліятэкі. З 1896 жыў у Ніжнім Ноўгарадзе, з 1907 у Яраслаўлі. У 1920—31 загадчык навуковай бібліятэкі Яраслаўскага дзяржаўнага музея. Адначасова выкладаў гісторыю культуры ў мастацкім,

музычным і тэатральным тэхнікумах. У 1932 арыштаваны ДПУ. Правёў у зняволенні 3 тыдні, вызвалены па хадайніцтве Кацярыны Пешкавай. Б. быў сябрам М.Горкага і яго сям'і, вёў актыўную перапіску з дзеячамі бел. і рускай культуры, напісаў пра іх успаміны.

15 **КУПАЛА Янка** [сапр.: Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 25.6(7.7).1882, фальварак Вязынка Мінскага пав., цяпер в. Вязынка Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — 28.6.1942, Масква], паэт, драматург, публіцыст, перакладчык; класік бел. літаратуры, адзін з заснавальнікаў новай бел. літаратуры і літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925). Акадэмік АН БССР (1928), АН УССР (1929). У 1921 на К. быў накладзены хатні арышт і канфіскаваны рукапісы. У 1930 раскулачаны маці і сястра паэта. К. выклікалі на допыты ў АДПУ; яму інкрымінавалася лідэрства ў «Саюзе вызвалення Беларусі». 20.11.1930 пасля «гутарак» у органах дзяржбяспекі зрабіў спробу самагубства, але быў выратаваны. У снеж. 1930 вымушаны апублікаваць у «Звяздзе» «пакаянны» ліст, у якім прызнаваўся ў памылках і «шкодных поглядах». У 1937 над К. чарговы раз навісла пагроза арышту — яго імя апынулася ў спісе мяркуемых ахвяр. Арышту ўдалося пазбегнуць. Трагічна загінуў у Маскве (гасцініца «Масква») пры нявысветленых абставінах — упаў у лесвічны пралёт з 10 паверха. Існуе тры версіі — няшчасны выпадак, самагубства, забойства. Быў пахаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве. У ліп. 1962 урна з прахам К. перавезена ў Мінск і перапахавана на Вайсковых могілках.

16 **ЛЁСІК Язэп Юр'евіч** [Іосіф Юр'евіч; 6(18).11.1883, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1.4.1940, Саратаў, НКВД], празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, паліт. дзеяч, педагог. Малодшы брат Антона Лёсіка, дзядзька Якуба Коласа. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1898—99), скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (1902). З 1903 настаўнічаў у мяст. Грамяч Ноўгарад-Северскага пав. Чарнігаўскай губ. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 арыштаваны і зняволены ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 прывезены на суд у Старадуб; уцёк з мясцовай турмы. Хаваўся ў Стоўбцах, Пецярбургу, пад Луганскам. Зноў арыштаваны ў 1911 у Ноўгарад-Северскім; прыгавораны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. Адпраўлены ў Кірэнск, потым у Бадайбо Іркуцкай губ., дзе пасябраваў з А.Гаруном. Са ссылкі вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917. У 1917—18 рэдагаваў газ. «Вольная Беларусь». Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. У 1919 старшыня Найвышэйшай Рады БНР. У 1922, пасля выхаду яго «Практычнай граматыкі беларускай мовы», у газ. «Звязда» падручнік быў названы контррэвалюцыйным, і ў пачатку ліст. 1922 Л. арыштавалі. Пасля ўмяшання тагачаснага наркама асветы У.Ігнатоўскага ў снеж. 1922 Л. вызвалілі. У сярэдзіне-канцы 1920-х г. выкладаў бел. мову і літаратуру ў МБПТ. Вось які

наказ Л. даваў студэнтаў-выпускнікам, якіх называў «апосталамі беларускай справы»:

*«Вашыя свечкі запалёныя, і вы становіцеся апосталамі беларускае справы. Цяпер, як ясныя зоркі, разыдзецеся вы па Беларусі, каб панесці з сабою вялікую радасць аб уваскрашэнні Беларусі. Вы скажэце народу беларускаму, што Айчына яго ўваскросла, што ўжо разбіта дамавіна яго і далёка адкінуты камень ад гроба яго. Вы скажэце, што Беларусь жыла, жыве і жыць будзе і што недалёка ўжо «Абяцаная Зямля» яе»* (час. «Шляхам жыцця». Ватэнштэт, 1947. № 3).

З 1928 Л. — акадэмік АН Беларусі. 17.7.1930 цяжка хворы арыштаваны (па справе «Саюза вызвалення Беларусі») на Каўказе, дзе знаходзіўся на лячэнні. У Мінску ў яго кватэры зрабіліператрус і вывезлі амаль усё... нават мэблю...

*«У часе вобыску адбылося непрыемнае для агентаў ГПУ здарэнне. Якраз у гэты вечар ішла ў тэатры такая пастаноўка, у якой патрэбна была страляніна ў гарадскім садзе, недалёка ад кватэры Язэпа. Гэта страляніна так напужала тых, хто рабіў вобыск, што яны прыпынілі сваю «працу». На спалоханых тварах відаць было, што агенты ГПУ палічылі страляніну ў тэатральнай пастаноўцы за адкрытае выступленне прыхільнікаў беларускіх дзеячаў, якіх у гэты час арыштоўвалі...»* (з арт. А.Лёсіка «З жыцця Язэпа Лёсіка» ў кнізе «На суд гісторыі». Мн., 1994; упершыню надрук. у «Новым шляху». Мн., 1944, №№ 4—6).

6.12.1930 пастановай СНК БССР Л. пазбаўлены звання акадэміка. 10.4.1931 калегіяй АДПУ СССР асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Саратаўскую вобл. Жыў у Камышыне і Нікалаеўску, выкладаў у педагагічным тэхнікуме. У ліст. 1934 атрымаў амністыю ВЦВК без права вяртання ў Мінск. У 1935 пераехаў з сям'ёй на Браншчыну. Арыштаваны 25.6.1938 па справе «контррэвалюцыйнай арганізацыі паліт. ссыльных у Саратаве». Асобай нарадай пры НКВД 31.3.1940 прыгавораны да 5 гадоў ППК. Памёр ад сухотаў у Саратаўскай турме. Па першым прысудзе рэабілітаваны 10.6.1988, па другім — 8.10.1958. Адноўлены ў званні акадэміка ў 1990.

**ЛЁСІК Язэп Юр'евіч** [Іосіф Юр'евіч; 6(18).11.1883, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1.4.1940, Саратаў, НКВД], празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, паліт. дзеяч, педагог. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1898—99), скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (1902). З 1903 настаўнічаў у мяст. Грамяч Ноўгарад-Северскага пав. Чарнігаўскай губ. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 арыштаваны; зняволены ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 прывезены на суд у Старадуб; уцёк з мясцовай турмы. Хаваўся ў Стоўбцах, Пецярбургу, пад Луганскам. У 1910-я г. ўваходзіў у партыю бел. эсэраў. Зноў арыштаваны ў 1911 у Ноўгарад-Северскім; прыгавораны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. Адпраўлены ў Кірэнск, потым у Бадайбо Іркуцкай губ., дзе пасябраваў з *А.Гаруном*. Са

ссылкі вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917. У 1917—18 рэдагаваў газ. «Вольная Беларусь». Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. У 1919 старшыня Найвышэйшай Рады БНР. Чарговая хваля рэпрэсій напаткала Л. ў 1922, пасля выхаду яго «Практычнай граматыкі беларускай мовы». У газ. «Звязда» падручнік быў названы контррэвалюцыйным, а ў пачатку ліст. 1922 Л. быў арыштаваны. Пасля ўмяшання тагачаснага наркама асветы У.Ігнатоўскага ў снеж. 1922 Л. быў вызвалены. З 1928 акадэмік АН Беларусі. Зноў арыштаваны ДПУ БССР 17.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 6.12.1930 пастановай СНК БССР пазбаўлены звання акадэміка. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў высылкі. Жыў у Камышыне і Нікалаеўску, дзе выкладаў у педтэхнікуме. У ліст. 1934 атрымаў амністыю ВЦВК без права вяртання ў Мінск. У 1935 пераехаў з сям'ёй на Браншчыну; восенню 1937 пасяліўся ў Саратаўскай вобл. Арыштаваны 25.6.1938 па справе «Контррэвалюцыйнай арганізацыі палітссыльных у Саратаве». 31.3.1940 Асобай нарадай прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Памёр ад сухотаў у Саратаўскай турме. Па першым прысудзе рэабілітаваны 10.6.1988; па другім — 8.10.1958. Адноўлены ў званні акадэміка ў 1990. Групавая справа Л. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[17] **БЯДУЛЯ Змітрок** [сапр.: Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 23.4.1886, мяст. Пасадзец Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Лагойскага р-на Мінскай вобл. — 3.11.1941, каля Уральска, Расія], празаік, паэт. Першапачаткова атрымаў яўрэйскую адукацыю. У 1910 дэбютаваў на старонках газеты "Наша ніва". У 1912—15 жыў у Вільні, працаваў у выдавецкім таварыстве і газеце "Наша ніва". З 1915 — у Мінску, супрацоўнік Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. Не падтрымаў Кастрычніцкі пераварот 1917, але з 1920 стаў трывала супрацоўнічаць з савецкай уладай, у жн. гэтага ж году прызначаны загадчыкам аддзела культуры і літаратуры газеты "Савецкая Беларусь". Рэдагаваў час. "Зоркі" і "Наш край". Быў сябрам літаб'яднання "Маладняк", адкуль ў 1926 перайшоў ва "Узвышша". Член Саюза пісьменнікаў з 1934. Ягоная творчасць вызначаецца вастрынёй сацыяльнай тэматыкі, у 1930-х г. спазнаў уплывы вульгарнага сацыялагізму.

[18] **ГАРТНЫ Цішка** [сапр.: Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 23.10(4.11).1887, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. Капыль Мінскай вобл. — 11.4.1937, Магілёў], пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Працаваў рамеснікам-гарбаром у Капылі, Літве, Украіне, на заводзе ў Пецярбургу. Друкавацца пачаў з 1908 у газ. «Наша ніва». Першая кніга «Pieśni» выйшла ў 1913. У 1918 сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята. Рэдактар першай бел. бальшавіцкай газ. «Дзянніца». З кастр. 1918 у РКП(б). З 1.1.1919 да 3.2.1919 — старшыня Часовага ўрада Савецкай Беларусі. Потым палітработнік

Чырвонай арміі. У 1921 у Берліне наладзіў выданне бел. кніг. Пасля вяртання ў Мінск рэдактар газ. «Савецкая Беларусь», ініцыятар стварэння літ. аб'яднання і час. «Полымя», узначальваў Дзяржвыдавецтва БССР і Цэнтральны архіў БССР, працаваў нам. наркама асветы БССР, у Інстытуце гісторыі БелАН. Акадэмік БелАН з 1928.

З успамінаў П.Пруднікава:

*«Цішка Гартны любіў пажартаваць. Жарт яго быў заўсёды дасціпным, дабрадушным. Вось неяк, помніцца, ён паяўляецца ў гасцінай Дома пісьменніка, а там ужо на канапе сядзяць-гамоняць былыя «ўзвышэнцы» З.Бядуля, К.Чорны і П.Глебка. Ён павітаўся з імі і пытае:*

*— Ну як пажывае ваша вяршыня (Гэта значыць «Узвышша»). Не аблысела часаім?»* (П.Пруднікаў «Далёкае, але не забытае).

Выключаны з ВКП(б) 16.1.1931 з фармулёўкай «за сувязь з <...> нацдэмаўскімі і фашысцкімі элементамі». Арыштаваны 15.11.1936. Пры вобыску канфіскавалі:

*«Разных рукописей — 14. Книг с автографами — 105, журналов «Полымя» — 76, «Маладняк» — 42, «Узвышша» — 32, 19 других журналов. 32 книги «Ц.Гартны» и 3 юбилейные книги Гартного. 40 книг»* (З асабістай справы Г.).

З 16 па 22 ліст. 1936 г. следчымі Ушаковым (потым здзіўляўся і абураўся, што яго як падследнага б'юць мацней, чым у свой час біў падследных ён; у сведчанні ад 24.9.1939 следчы пісаў: *"Мне казалось ранее, что ни прикаких обстаятельствах я бы не давал ложных показаний... а вот признал себя виновным в том, что являюсь германским шпионам...»;* 21.1.1940 асуджаны да ВМП і расстраляны), Шліфэнсонам (быў вялікі ўмелец у камеру для трох заціснуць 40 чалавек; таксама быў буйны спецыяліст па збіванні; 18.5.1939 асуджаны да ВМП і расстраляны) і іншымі Г. дапытваўся бесперапынна — т. зв. "канвеер".

7.4.1937 Г. пераведзены ў Магілёўскую псіхіятрычную лячэбніцу, дзе і памёр (па афіцыйнай версіі — ад гангрэны лёгкіх; па іншых звестках, скончыў жыццё самагубствам ці забіты "гасцямі з амерыканкі").

*«Акт.*

*3 марта 1937.*

*Мы, нижеподписавшиеся, директор психиатрической клиники проф. Г.О.Гольдблат и зав. Психиатрическим отделением 2-го клинич. Городка Плавинский А.К., освидетельствовали заключенного Жилуновича Дм.Фед. по предложению гл. врача тюрьмы, и нашли следующее:*

*Жилунович находится в тюремной больнице с 26.1.1937 и проявляет выраженную тревогу, депрессию, страх смерти, некритическое отношение к окружающей обстановке, нарушение сна, физическое похудение. Упомянутые симптомы укладываются в картину предстарческого психоза. Ввиду затяжного характера данного страдания считаем с медицинской точки зрения целесообразным перевести его в Могилёвскую псих. больницу для лечения.*

*Профессор Г.О.Гольдблат*
*Зав. Псих. Отд. А.К. Плавинский».*

«Заключение акта врачебной экспертизы (дат. 29.4.1937 — праз 18 дзён пасля смерці. — ***Л. М.***):

*“Жилунович Д.Ф. 11.4.1937 умер от гангрены правого легкого и кистозного повреждения обеих почек”.*

З кнігі ўспамінаў М.Сяднёва «Ахвяры бальшавізму» (Беласток, 1944):

*«У камеры я доўга думаў над тым, як сталася, што арыштавалі Цішку Гартнага? У маіх вачох Ц.Гартны быў чалавекам, якога нельга было, здаецца, арыштаваць наагул...*

*Хутка я апынуўся ў камеры, дзе былі Цішка Гартны і Сымон Баранавых. Я вельмі абрадаваўся гэтаму... меў з ім гутарыць.*

*Цішка Гартны гаварыў, што ідзе знішчэнне ўсяго беларускага... знішчэнне духовага жыцця народу, больш таго — ідзе яго фізічнае знішчэнне...»* (Цыт. па: Калубовіча А. Крокі гісторыі. Беласток; Вільня; Мінск, 1993).

Г. пахаваны на ўскраіне Пячэрскага парку ў Магілёве. На выяўленым месцы пахавання 11.4.1989 устаноўлены помнік. Рэабілітаваны ў грамадзянска-прававых адносінах 15.10.1955. Цалкам (палітычна) рэабілітаваны 10.9.1987. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Капылі.

У паэме У.Клішэвіча «Васіль Каліна» (1965) ёсць такія радкі:

*Турма людскай крывёй прамокла.*
*Над галавой як ноч, так дзень*
*Вісіць смяротны меч Дамокла,*
*Гуляе побач смерці цень.*
*Сядзіць прывязаны паэт,*
*А кат яму электрасвет*
*Вялікай сілы даў у вочы...*
*То свет шыпшынаў, то лілея...*
*Пад лямпай Гартны вар'яцее,*
*Трагічна ён з людзей рагоча...*

**БУДЗЬКА Эдвард** [22.3.1882, мяст. Будслаў Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Мядзельскага р-на Мінскай вобл. — 14.8.1958, Чыкага, ЗША], паэт, публіцыст, педагог, выдавец. Дэбютаваў з вершамі ў 1906 у “Нашай Ніве”. Вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце, але з-за нястачы сродкаў вымушаны перапыніць навучанне. Застаўся жыць ў Рызе, служыў паштовым чыноўнікам. У час 1-й сусветнай вайны перабраўся ў Петраград, у 1916 выдаваў там газету “Светач”. Разам з Цішкам Гартным працаваў у газ. “Дзянніца”, дзе публікаваўся пад псеўданімам Акцюб. Удзельнічаў у 1-м Усебеларускім кангрэсе ў Мінску ў снеж. 1917, увайшоў у Раду БНР. Далей займаўся педагагічнай работай — у 1918 арганізаваў беларускую гімназію ў Будславе, у 1921—22 кіраваў настаўніцкімі курсамі ў Дзвінску (Даўгаўпілс). У міжваенны перыяд у Зах. Беларусі быў актывістам

кааператыўнага руху. У гады 2-й сусветнай вайны настаўнічаў у Мінску і Баранавічах, летам 1944 выехаў у Германію. У 1950 перабраўся ў ЗША. Публікаваўся ў газеце “Бацькаўшчына”.

[19] **ПАЎЛОВІЧ Альберт** [30.10(11.11).1875, Мінск — 17.3.1951, Курск, Расія], паэт-гумарыст, драматург. Працаваў ва Управе Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску. У 1907 дэбютаваў як паэт на старонках “Нашай нівы”. Найбольш выразная ў творчасці П. гумарыстычная плынь, якая была цесна звязана з фальклорам. Многія з ягоных вершаў у дарэвалюцыйныя часы часта дэкламаваліся на беларускіх вечарынах. Пісаў таксама літаратуразнаўчыя і мастацтвазнаўчыя артыкулы, перакладаў з рускай, украінскай, польскай, літоўскай, кітайскай моў. Апроч літаратуры займаўся жывапісам і вышываннем дываноў. Паводле апошніх звестак, у 1932 высланы з Беларусі. Далей жыў у Маскве, падчас вайны знаходзіўся ў эвакуацыі на Урале. У 1945 пасяліўся ў Курску. З сярэдзіны 1930-х г. і да канца жыцця ягоныя творы ў БССР не публікаваліся. Асобныя вершы П. друкаваліся толькі ў Вільні. Многае з яго літаратурнай спадчыны не захавалася.

[20] **СМОЛІЧ Аркадзь Антонавіч** [17(29).9.1891, в. Бацэвічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Клічаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 17.6.1938, Омск, НКВД], дзеяч бел. нацыянальнага руху, географ, публіцыст. З сям'і святара. У 1905 скончыў Мінскую духоўную семінарыю; у 1916 — Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах (Польшча). Вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце. З 1910 член БСГ. Актыўны ўдзельнік клуба «Беларуская хатка» ў Мінску. У 1917 рэдагаваў газ. «Грамада». Народны сакратар асветы ў 1-м урадзе БНР. У 1918—22 знаходзіўся ў Гродне і Вільні. У 1919 у Вільні выдаў «Геаграфію Беларусі» — кнігу, разлічаную на шырокага чытача. Вярнуўся ў Мінск у жн. 1922. Працаваў загадчыкам планава-эканамічнага аддзела Наркамата земляробства. Адначасова з 1923 дацэнт, прафесар (1927) і загадчык кафедры ў БДУ. З 1925 нам. старшыні Інбелкульта, кіраўнік сельскагаспадарчай секцыі і камісіі па раянаванні БССР. У 1928 абраны правадзейным членам Расійскага геаграфічнага таварыства, узнагароджаны залатым медалём. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 26.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Осу Пермскай вобл., потым у Ішым Цюменскай вобл. Вызвалены ў жн. 1935. Зноў арыштаваны 17.6.1937. Тройкай НКВД Омскай вобл. 10.6.1938 прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988, па другім — 9.2.1957. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[21] **ШАНТЫР Фабіян Гіляравіч** [псеўданімы: Н.Светлов; А.Хмара; крыптанімы: Ф.Ш.; Ф.Ш-р; Фабіян Шан-р; Ш.Ф.; 23.1(4.2).1887, Слуцк — 29.5.1920, Новазыбкаў], публіцыст, празаік, паэт, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях зняволены ў Слуцкай турме (1905—07). У 1909 жыў у Слуцку; з 1910 у Капылі. Працаваў мулярам, адвакатам, настаўнікам. Друкавацца пачаў у газ. «Наша ніва», дзе ў 1909—12 змяшчаў празаічныя абразкі-імпрэсіі; там жа апублікаваў некалькі паэтычных твораў. У 1914 мабілізаваны ў армію, служыў наглядчыкам палявога шпіталя ў Бабруйску. У 1916—17 удзельнічаў у рабоце клуба «Беларуская хатка», куды прыязджаў з Бабруйска. У 1917 стаў адным з лідэраў левага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады. На З'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый (Мінск, 25—27.3.1917) абраны ў БНК; у ліп. 1917 — у Цэнтральную раду бел. арганізацый і партый. Удзельнічаў у 1-м Усебеларускім з'ездзе (снеж. 1917). У 1918 супрацоўнік Слуцкага павятовага ваеннага камісарыята, загадчык Смаленскага аддзялення Белнацкама. Адзін з аўтараў зб. «Зажынкі» (М., 1918). У тым жа годзе арыштаваны. Неўзабаве вызвалены. У пачатку 1919 камісар па нацыянальных справах Часовага ўрада БССР. Пасля — супрацоўнік Мінскага губернскага ваеннага камісарыята і Асобай харчовай камісіі Зах. фронту. Удзельнічаў у выданні газ. «Савецкая Беларусь». У лют. 1920 мабілізаваны ў Чырвоную армію. 17.4.1920 арыштаваны і расстраляны.

[22] **СІВІЦКАЯ Эмілія,** маці *Зоські Верас*. У 1915—17 уваходзіла ў дабрачынную арганізацыю "Мінскі аддзел беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны".

[23] **ВЕРАС Зоська** [сапр. Сівіцкая Людвіка, па мужу Войцік; 18(30).9.1892, мяст. Мяджыбаж Лятычаўскага пав. Падольскай губ., цяпер Лятычаўскі р-н Жытомірскай вобл., Украіна — 8.10.1991, Вільня], дзіцячая пісьменніца, публіцыст, мемуарыст, выдавец, грамадска-культурная дзеячка. З сям'і армейскага афіцэра. З 1909 жыла на радзіме бацькі — у Гродне, дзе ў 1912 скончыла гімназію. Дэбютавала з абразкамі на бел. мове ў 1911 у "Нашай ніве". У 1915 пераехала ў Мінск, дзе працавала ў многіх бел. арганізацыях, найперш у "Мінскім аддзеле беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны". Менавіта ў Мінску зблізілася з вядомымі бел. дзеячамі. У 1923 пасялілася ў Вільні. Арганізатар і рэалізатар многіх выдавецкіх ініцыятыў, накіраваных на народную асвету. У 1939 перабралася на ўскраіну Вільні, дзе ў маляўнічай лясной мясцовасці была пабудаваная хата, куды ў паваенны перыяд часта прыязджалі прадстаўнікі бел. інтэлігенцыі. Гэтая "лясная хатка" фактычна стала сімвалам непарыўнасці бел. культурнай традыцыі ў XX ст.

[24] **ФАЛЬСКІ Усевалад Сцяпанавіч** [1886 або 1887, в. Лошыца Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер у межах Мінска — ?], дзеяч нацыянальна-

вызваленчага руху, акцёр. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Адзін з арганізатараў бел. прафесійнага тэатра. Старшыня Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Першы бел. савецкі міністр замежных спраў. Улетку 1919 апынуўся сярод расстрэльных заложнікаў, якіх чэкісты вывезлі ў Смаленск пры адступленні бальшавікоў. Зноў арыштаваны 3.9.1921 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.9.1921 за «дапамогу ў шпіянажы» да ВМП (заменена на 5 гадоў пазбаўлення волі). Этапаваны ў Смаленскую турму. Вызвалены 30.5.1923. Са снеж. 1925 жыў у Кіеве. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 6.8.1996. Асабовая справа Ф. № 20479-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[25] **ЧАВУСАЎ Віктар Іванавіч** [18(30).7.1871, Пецярбург — 1920**],** бел. журналіст. Скончыў Мінскую гімназію (1892) і Пецярбургскі ун-т (1899). Працаваў памочнікам прысяжнага паверанага ў Мінску. Адзін з кіраўнікоў Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў і Мінскага літаратурна-артыстычнага таварыства. У 1908 рэдактар-выдавец газ. “Минский курьер». У 1915—17 старшыня “Мінскага аддзела беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны” (звесткі В.Скалабана).

[26] **ДУБЕЙКАЎСКІ (Вітан-Дубейкаўскі) Лявон** [7(19).7.1869 ці 1867, в. Дубейкава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 6.11.1940, Вільня], бел. архітэктар, будаўнік, грамадска-культурны дзеяч, паэт. Пасля заканчэння школы будаўнічых рамёстваў у Варшаве заснаваў уласную будаўнічую кантору ў Смаленску (1897). Працягнуў удасканаленне сваёй адукацыі — у 1903 здаў экзамен на званне інжынера-будаўніка пры Пецярбургскім інстытуце цывільных інжынераў, скончыў Акадэмію архітэктуры ў Парыжы (1909). З 1910 працаваў у Варшаве. У гады 1-й сусветнай вайны выехаў у Беларусь, з 1916 жыў у Мінску. Спрыяў дзейнасці клуба “Беларуская хатка”, у 1919 чытаў лекцыі на бел. настаўніцкіх курсах у Вільні і Гродне. У 1922 канчаткова пасяліўся ў Вільні, адышоў ад паліт. дзейнасці, займаўся архітэктурнай творчасцю. Сярод самых вядомых рэалізаваных Д. праектаў — Дрысвяцкі Петрапаўлаўскі касцёл. Па выніках сваіх даследаванняў і праектаў напісаў працу “Эвалюцыя і рэформа драўлянага будаўніцтва” (засталася ў рукапісе). Склаў зборнік бел. прыказак. Паэтычныя творы Д. маюць вострасацыяльную скіраванасць.

[27] **ЗЯМКЕВІЧ Рамуальд Аляксандравіч** [7.2.1881, Варшава — 1943 ці 1944, Асвенцім (?)], бібліёграф, публіцыст, гісторык бел. літаратуры, перакладчык, калекцыянер кніг і рукапісаў. Бацькі паходзілі са Случчыны. Вучыўся ў Кіеве, атрымаў прафесію інжынера-механіка. У 1908 рабіў фальклорна-этнаграфічныя запісы на Барысаўшчыне. З 1909 друкаваўся ў «Нашай ніве» і іншых бел. выданнях. Падрыхтаваў і выдаў першы спецыялізаваны бібліяграфічны даведнік на бел. мове — «Беларуская бібліяграфія» (1910). У 1913—14 шукаў гісторыка-літаратурныя матэрыялы на Магілёўшчыне. У 1915—17 жыў у Мінску, служыў ваенным інжынерам. Са-

браў унікальную бібліятэку па гісторыі, мовазнаўстве, літаратуры, фальклоры, вялікую калекцыю старабел. рукапісаў. У сваіх працах прывёў новыя звесткі і апублікаваў невядомыя рукапісы бел. пісьменнікаў XIX — пачатку XX ст. Перакладаў з украінскай і французскай моў. Вядомы польскія вершы З. Большую частку жыцця правёў у Варшаве, але выязджаў для работы ў архівах і бібліятэках у Вільню, Пецярбург, Львоў, Раперсвіль (Швейцарыя). Арыштаваны гестапа ў акупаванай Варшаве. Магчыма, падтрымліваў сувязі з польскім рухам Супраціўлення. Пад псеўданімам Шэршань друкаваўся ў газ. «Новая дарога». Загінуў у канцлагеры. Большасць яго багатых збораў, а таксама частка ўласных рукапісаў (у прыватнасці, рукапіс кнігі «Кароткі нарыс гісторыі беларускай музыкі») загінулі.

28 **КРЫЎКА Ян.** У першай палове 1910-х г. друкаваўся ў сельскагаспадарчым час. дэмакратычнага кірунку “Саха”, рэдактарам якога ў той час быў Аляксандр Уласаў.

29 **ЯДВІГІН Ш.** [сапр.: Лявіцкі Антон Іванавіч; крыптанім: Я.Ш.; 4.1.1869, маёнтак Добасня Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Добасна Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. — 24.2.1922, Вільня; пахаваны на могілках Роса], празаік, драматург, паэт. У 1877—78 быў аддадзены бацькам на вучобу ў Люцінку да адной з дачок В.Дуніна-Марцінкевіча. У 1880-я г. скончыў Мінскую гімназію і вучыўся на медыцынскім ф-це Маскоўскага ун-та. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1890 выключаны з ун-та, арыштаваны, некалькі месяцаў правёў у зняволенні ў Бутырскай турме. У турме адбылася першая спроба пяра — пераклаў на бел. мову папулярнае ў той час апавяданне У.Гаршына “Сігнал”. Вярнуўся на радзіму, стажыраваўся ў адной з аптэк Мінска, каб здаць экзамены на памочніка аптэкара. Пасля працаваў у мяст. Радашковічы аптэкарам, потым у краме-кааперацыі. У гэты час напісаў драму “Злодзей”, якую ў 1892 спрабаваў паставіць самадзейны радашковіцкі гурток. Але п’еса была забаронена паліцыяй. З 1904 пачаў выступаць у расійскім, польскім, потым у бел. друку. Першым друкаваным мастацкім творам на бел. мове было апавяданне “Суд”, змешчанае ў газ. “Наша доля” ў верас. 1906. У 1909—10 жыў у Вільні, працаваў сакратаром, загадчыкам літаратурнага аддзела “Нашай нівы”. У 1910 здзейсніў сваю даўнюю мару — павандраваць пешшу па Беларусі. Прайшоўшы больш за 500 км, у некалькіх нумарах “Нашай нівы” апублікаваў падарожныя нататкі — “Лісты з дарогі” (1910), якія сталі значным укладам у станаўленне бел. публіцыстыкі. У 1912 апублікаваў зборнік апавяданняў “Бярозка”, у 1914 — “Васількі”, якія прынеслі яму шырокую вядомасць. Пяру Я. належыць няскончаны раман “Золата”. У 1913—15 працаваў у газ. “Беларус”, тэхнічным рэдактарам час. “Саха” ў Мінску. Памёр у Вільні ў шпіталі ад абвастрэння хранічных хвароб.

[30] **ЛЯВІЦКАЯ (ЛЁСІК) Ванда Антонаўна** [1895, мяст. Радашковічы Мінскага пав., цяпер г. п. Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — 1969], бел. пісьменніца, дачка бел. пісьменніка *Ядвігіна* Ш. з 1933 г. дзяліла ссылку з мужам *Лёсікам Я.* Аўтар успамінаў пра бацьку. Падрабязней гл.: *ЭГБ*, т. 4 і інш.

**ЛЁСІК Язэп Юр'евіч** [Іосіф Юр'евіч; 6(18).11.1883, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1.4.1940, Саратаў, НКВД], празаік, публіцыст, мовазнавец, літаратуразнавец, паліт. дзеяч, педагог. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1898—99), скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (1902). З 1903 настаўнічаў у мяст. Грамяч Ноўгарад-Северскага пав. Чарнігаўскай губ. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 арыштаваны; зняволены ў Ноўгарад-Северскую турму. У 1907 прывезены на суд у Старадуб; уцёк з мясцовай турмы. Хаваўся ў Стоўбцах, Пецярбургу, пад Луганскам. У 1910-я г. ўваходзіў у партыю бел. эсэраў. Зноў арыштаваны ў 1911 у Ноўгарад-Северскім; прыгавораны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. Адпраўлены ў Кірэнск, потым у Бадайбо Іркуцкай губ., дзе пасябраваў з *А.Гаруном*. Са ссылкі вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917. У 1917—18 рэдагаваў газ. «Вольная Беларусь». Адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. У 1919 старшыня Найвышэйшай Рады БНР. Чарговая хваля рэпрэсій напаткала Л. ў 1922, пасля выхаду яго «Практычнай граматыкі беларускай мовы». У газ. «Звязда» падручнік быў названы контррэвалюцыйным, а ў пачатку ліст. 1922 Л. быў арыштаваны. Пасля ўмяшання тагачаснага наркама асветы У.Ігнатоўскага ў снеж. 1922 Л. быў вызвалены. З 1928 акадэмік АН Беларусі. Зноў арыштаваны ДПУ БССР 17.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 6.12.1930 пастановай СНК БССР пазбаўлены звання акадэміка. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў высылкі. Жыў у Камышыне і Нікалаеўску, дзе выкладаў у педтэхнікуме. У ліст. 1934 атрымаў амністыю ВЦВК без права вяртання ў Мінск. У 1935 пераехаў з сям'ёй на Браншчыну; восенню 1937 пасяліўся ў Саратаўскай вобл. Арыштаваны 25.6.1938 па справе «Контррэвалюцыйнай арганізацыі палітссыльных у Саратаве». 31.3.1940 Асобай нарадай прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Памёр ад сухотаў у Саратаўскай турме. Па першым прысудзе рэабілітаваны 10.6.1988; па другім — 8.10.1958. Аднаўлены ў званні акадэміка ў 1990. Групавая справа Л. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[31] **ФАРБОТКА Юзюк (Язэп Аўгусцінавіч)** [23.8(4.9).1893, в. Налібакі Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1945 (?)], заолаг, паэт, літаратуразнавец, перакладчык, удзельнік грамадска-культурнага руху 1920-х г. Кандыдат біялагічных навук (1932). Дэбютаваў са сваімі вершамі ў 1912 на старонках "Нашай нівы". У 1914 скончыў Мінскую гімназію і працягнуў навучанне на фізіка-матэматычным ф-це Кіеўскага ун-

та. Жыў да 1918 у Кіеве, але рэгулярна наведваў Мінск, перапісваўся і сустракаўся з вядомымі бел. грамадска-культурнымі дзеячамі, у тым ліку з *Альбертам Паўловічам* (сваім зяцем). З 1916 далучыўся да дзейнасці мінскага мастацка-культурнага клуба "Беларуская хатка". Паспрабаваў сябе і ў тэатральнай сферы — у 1919 працаваў акцёрам у Беларускім савецкім тэатры, у 1920 — адміністратарам Беларускага тэатра ў Мінску. У паэтычнай творчасці арыентаваўся пераважна на досвед *М. Багдановіча*, з якім, верагодна, быў знаёмы. У 1918—19 выступаў у прэсе па пытаннях унармавання бел. правапісу. З 1920 жыў у Вільні, працаваў у Віленскім ун-це. У 1945 пераехаў у Лодзь (Польшча).

[32] **ЛУЖАНІН Максім** [сапр.: Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 20.10(2.11).1909, в. Прусы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — 13.10.2001, Мінск], паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык. У 1924—28 вучыўся ў МБПТ. Публікавацца пачаў у 1925. Першая кніга вершаў «Крокі» выйшла ў 1928. У 1928—31 студэнт БДУ. З 1931 працаваў у час. «Узвышша» і на Беларускім радыё. Арыштаваны 15.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 25, кв. 4 па справе "Беларускай народнай Грамады". Асуджаны асобай нарадай пры АДПУ 10.8.1933 як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі» да 2 гадоў ссылкі. Адпраўлены ў Марыінск Кемераўскай вобл. Праз некалькі месяцаў быў вызвалены і вярнуўся дадому.

З успамінаў Міхася Кавыля «Казённы дом і далёкая дарога» (Запісы. 1992. № 20):

*«Назаўтра мне аб'явілі, што <...> я мушу ісці [на этап]... Каля дванаццатай гадзіны ночы загадалі «строиться в колонну». «Построили» на двары вастрогу і пад аховай канвойных павялі па заснежаных вуліцах на таварную станцыю...*

*Каб людзей не палохаць,*
*не мазоліць вочы,*
*Тарахцеў састаў толькі ў ночы...*

*...Із-за вугла дому выскачыла нейкая жанчына з мяшком на плячох. Хуценька падбегла да Максіма Лужаніна, аддала яму мяшок і пабегла назад да дому. Канваіры крыкнулі на яе, але не стралялі. Гэта была жонка Максіма Лужаніна, беларуская паэтэса, яўрэйка Пфляўмбаўм...*

*З усяго вагону-цялятніка адзін толькі Максім Лужанін пачуваўся трошкі лепш, бо пад галавою ляжалі сухары. На другім ярусе нараў каля Лужаніна ляжалі: [У.]Сядура, [Ф.]Гінтаўт і [С.]Гайка* (таксама ў тым вагоне знаходзіліся З.Астапенка, С.Астрэйка, С.Ліхадзіеўскі, Л.Калюга, М.Нікановіч, С.Русаковіч, Ю.Таўбін і З.Віталін. і інш. — ***Л. М***.). *Максім Лужанін, каля браўся за сухары, даваў па аднаму і суседзям. Я ляжаў на падлозе каля дзвярэй. Праз шчыліну паміж падлогай і дзвярыма вецер заганяў у вагон сняжынкі. Я дражаў ад холаду. Максім Лужанін, бадай, бачыў, як я корчуся ад халадэчы, пашкадаваў мяне і працягнуў мне два сухары..."*

Праз некалькі месяцаў Л. быў вызвалены і вярнуўся ў Мінск.

*“У Доме пісьменнікаў Я.Пфляўмбаум запрасіла В.Маракова і А.Дудара да сябе на кватэру. Там яны ўбачылі яшчэ соннага М.Лужаніна. Устаўшы з ложка, ён расказаў, што цалкам рэабілітаваны і цяпер будзе жыць у Маскве”* (з асабовай справы В.Маракова ў КДБ).

У 1935—41 рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратуры па машынабудаванні ў Маскве. З 1944 загадчык аддзела культуры газ. «Звязда», адказны сакратар час. «Вожык». З 1959 член сцэнарнай калегіі, у 1967—72 галоўны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». Аўтар сцэнарыяў фільмаў («Паўлінка», 1951; «Народны паэт», 1952; «Першыя выпрабаванні», 1960; «Запомні гэты дзень», 1967, разам з А.Куляшовым). На бел. мову пераклаў асобныя творы А.Грыбаедава, М.Гогаля, А.Радзішчава, А.Пушкіна, У.Маякоўскага, А.Міцкевіча, У.Сыракомлі. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1969), заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1975).

У 1967—85 дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Айчыннай вайны 2-й ступені, Дружбы Народаў, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Знак Пашаны, медалямі. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956. Асабовая справа Л. № 14618-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[33] **ГЛЕБКА Пятро** [23.6.(6.7).1905, в. Вялікая Уса Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 18.12.1969, Мінск], паэт, перакладчык, драматург, грамадскі дзеяч. З даволі заможнай, але вялікай сялянскай сям’і. У 1924 прыехаў у Мінск і паступіў у знакаміты МБПТ, дзе апынуўся ў надзвычай творчым асяроддзі маладых беларускіх літаратараў. У 1927 перавёўся ў БДУ, які скончыў у 1930. Дэбютаваў у друку ў 1925. Быў сябрам літаб’яднанняў “Маладняк” (з 1925), “Узвышша” (з 1926). У сваёй паэзіі з рамантычных пазіцыяў паказваў станаўленне савецкага ладу, асобныя творы адзначаны рытарычнасцю і дэкларатыўнасцю. У 1933—34 неаднаразова выступаў супраць гэтак званых “нацдэмаў” і “кулакоў”. У час 2-й сусветнай вайны працаваў у рэдакцыях франтавых газет. Пасля вайны ў сістэме АН БССР, дырэктар Інстытута мовазнаўства (1956—57) і Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (1957—69). Адзін з самых ушанаваных узнагародамі з боку улады бел. паэтаў.

[34] **ЛЁСІК Антон Юр’евіч** [1872, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1949, в. Мікалаеўшчына], педагог, публіцыст. Старэйшы брат *Я.Лёсіка.* Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. З 1897—1900 вучыўся ў настаўніцкім інстытуце ў Глухаве. Пасля яго заканчэння настаўнічаў у Ноўгарад-Северскім (цяпер Украіна) і на Міншчыне. З 1923 навуковы супрацоўнік Інбелкульта. Займаўся з братам пытаннямі беларускага правапісу. Выкладаў у МБПТ бел. мову. У час 2-й сусветнай вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі. Працаваў настаўнікам.

Друкаваўся ў перыядычным акупацыйным друку. Выдаў кніжку “Беларускі правапіс” (1943).

[35] **БАЙКОЎ Мікола** [Мікалай Якубавіч; псеўданімы і крыптанімы: Аглядальнік; Асветнік; Дашкольнік; М.К-ч; М.Кр.; Кр-іч; Крывіч; Мікола Крывіч; Настаўнік; 10(22).2.1889, Бежацк Цвярской губ. — пасля 1946 (?)], мовазнавец і літаратуразнавец, педагог. З сям’і святара. Пачатковую адукацыю атрымаў у Бежацкім мужчынскім духоўным вучылішчы, сярэднюю — у Цвярской духоўнай семінарыі, вышэйшую — у Маскоўскай духоўнай акадэміі (1913). Накіраваны выкладчыкам філасофскіх і педагагічных дысцыплін у Мінскую духоўную семінарыю. Адначасова выкладаў у гарадской гімназіі і ў прыватных навучальных установах. З 1918 чытаў лекцыі ў Мінскім настаўніцкім інстытуце. З 1921 выкладчык МБПТ. Рэдактар час. «Школа и культура Советской Белоруссии» (1919, 1921), з 1924 супрацоўнік час. «Асвета». З 1921 вучоны сакратар Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, у 1922—28 — Слоўнікавай камісіі Інбелкульта, потым Інстытута мовазнаўства АН БССР. Атрымаў вядомасць як аўтар прац па літаратуразнаўстве, крытыцы і педагогіцы, але асабліва як укладальнік слоўнікаў: «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924, разам з М.Гарэцкім), «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925), «Расійска-беларускі слоўнік» (1928, абодва разам з С.Некрашэвічам), «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» (1927, разам з А.Бараноўскім). Арыштаваны АДПУ 19.7.1930. Абвінавачваўся ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі». Вызвалены 2.9.1930. На акадэмічную работу вярнуцца не дазволілі. У 1931—41 літсупрацоўнік Мінскага рэкламнага бюро, стыліст у газ. «Чырвоная змена». Падчас вайны знаходзіўся ў Мінску, супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. У 1944 выехаў у Германію. Працаваў у прапагандысцкім бюро «Вінета». Па некаторых звестках, арыштаваны савецкай ваеннай контрразведкай «СМЕРШ» у Берліне і перавезены ў Мінск.

[36] **ПІЯТУХОВІЧ Міхаіл** (Міхайла) **Мікалаевіч** [23.2.1891, в. Алексінічы Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], літаратуразнавец, крытык, педагог. Паходзіў з сям’і вясковага праваслаўнага святара. Вучыўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1917 скончыў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут; быў накіраваны ў Петраградскі ун-т для падрыхтоўкі да прафесарскага звання па кафедры рускай мовы і славеснасці. З-за матэрыяльных умоў на пачатку 1920 вымушаны быў пераехаць у Адэсу. З 1921 у БССР. Публікавацца пачаў у 1921. Актыўна выступаў у друку як крытык і даследчык бел. літ. З верас. 1921 з’яўляўся членам навукова-тэрміналагічнай камісіі, з лют. 1922 — навуковым супрацоўнікам, а з 1925 — правадзейным членам Інбелкульта; з 1929 — правадзейны член БелАН. У 1921—26 выкладаў бел. літаратуру ў МБПТ. Адзін з найлюбімых студэнтамі выкладчыкаў.

*«Помню наш «бунт» на занятках па сучаснай беларускай літаратуры ў прафесара М.Піятуховіча. У прапанаванай прафесарам праграме мы ўбачылі свае прозвішчы — гэта значыла, што мы павінны былі ў абавязковым парадку вывучаць... сваю ўласную творчасць. Хлопцы ўпаўнаважылі мяне заявіць «пратэст», што я і выканаў на адным з занятkaў. Праграма была разгружана...»* (З арт. С.Ліхадзіеўскага «Жыццё-паэзія» ў кнізе «Вытокі песні. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў». Мн., 1973).

З лют. 1922 П. працаваў у БДУ: дацэнт, з кастр. 1926 прафесар. У маі 1926 стаў дэканам педагагічнага ф-та. У пачатку 1930-х г. над П. навісла пагроза рэпрэсій з-за «непралетарскага паходжання». Літаратурна-крытычныя выступленні П. заўсёды мелі апанентаў, аднак у сярэдзіне 1930-х г. палеміка выйшла за межы літаратурнай дыскусіі і прыняла характар грубых паліт. абвінавачванняў. П. вырашыў выехаць з сям'ёй за межы Беларусі. Жыў у Арджанікідзе; працаваў выкладчыкам-славістам у Паўночна-Каўказскім і Паўночна-Асецінскім педагагічных інстытутах. Арыштаваны 9.1.1937. Этапаваны ў Мінск. Тройкай НКВД 19.12.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.12.1957.

[37] **ГРАМЫКА Міхаіл (Міхайла) Аляксандравіч** [31.10(12.11).1885, в. Чорнае Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл. — 30.6.1969, Хімкі Маскоўскай вобл.], празаік, паэт, геолаг, педагог. У час вучобы ў Магілёўскай гімназіі стаў членам рэвалюцыйнага гуртка. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1907. У 1911 скончыў Маскоўскі ун-т. Настаўнічаў у Адэсе, з 1917 удзельнічаў у рабоце культурна-асветніцкай арганізацыі бел. уцекачоў «Беларускі гай». З 1921 у Мінску; выкладаў геалогію і мінералогію ў Белпедтэхнікуме і БДУ; працаваў у Інбелкульце, БелАН.

З успамінаў С.Шушкевіча:

*«Мне, быломy студэнту педтэхнікума, у 1926 годзе ўпершыню давялося разгарнуць падручнікі Міхайлы Аляксандравіча Грамыкі аб неарганічнай прыродзе — «Крышталаграфію» і «Мінералогію». У гэты ж дзень пачуў я спакойны і развažлівы голас аўтара гэтых кніг і ўбачыў яго вялікія пранікліывыя вочы. Ва ўступнай лекцыі гаварыў ён студэнтам аб тым, што ў многіх падручніках даводзіцца, быццам нетры беларускай зямлі не маюць у сабе ні нафты, ні вугалю, ні солі і што амаль усе багацці нашай рэспублікі — гэта торф, амаль непрыгодныя для апрацоўкі балотная жалезная руда, гліны і вапнякі. Грамыка падкрэсліў, што гэта неабгрунтаваныя сцвярджэнні: нашы нетры зусім яшчэ не вывучаны...»* (Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968).

Г. распрацоўваў бел. навуковую тэрміналогію. Аўтар падручнікаў па геаграфіі і мінералогіі. Браў удзел у пошуках нафты на Палессі. П'есы Г. ставіліся ў тэатрах. Арыштаваны ДПУ БССР 13.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; паводле пастановы Калегіі ДПУ БССР ад 10.4.1931 высланы ў Іванава-Вазнясенск на 5 гадоў. Пасля сканчэння тэрміну высылкі

ў 1936 выехаў з сям'ёй у Мурманскую вобл. (Кіраўск); працаваў у горным тэхнікуме. Потым жыў у Пермскай вобл. і Удмурціі. Рэабілітаваны 15.11.1957. Апошнія гады жыў у Хімках. Член СП Беларусі з 1965.

[38] **ВАСІЛЕВІЧ Язэп Ігнатавіч** [4(16).9.1870, мяст. Крывічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 1934, Башкірыя], грамадска-паліт. дзеяч, педагог, археолаг, публіцыст. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, Маскоўскім археалагічным інстытуце (скончыў у 1914), Маскоўскім юрыдычным інстытуце (1914—17). У 1917 стаў адным з лідэраў Беларускай народнай грамады. Адзін са стваральнікаў і ў 1917—19 дырэктар Будслаўскай беларускай гімназіі. У 1919—20 жыў у Маскве. У жн. 1920 вярнуўся ў Будслаў, да кастр. быў дырэктарам школы. З 1921 дырэктар МБПТ. Адначасова выкладаў у БДУ археалогію. У 1924 перасяліўся ў Віцебск і стаў дырэктарам культурна-гістарычнага музея. Браў удзел у падрыхтоўцы і скліканні Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Арыштаваны ДПУ БССР 1.8.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 высланы ва Уфу (Башкірыя), дзе і памёр. Рэабілітаваны.

[39] **БЯЛЬКЕВІЧ Янка** [Іван Кандратавіч; крыптанім: І.Б.; 22.2(6.3).1883, в. Варонічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 18.10.1960, Жданаў, цяпер Марыупаль Данецкай вобл., Украіна], мовазнавец, педагог. У 1909 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю; выкладаў у школах Слонімшчыны. З 1915 у эвакуацыі ў Саратаўскай губ. (Расія), у 1919—20 зноў на Слонімшчыне. Са жн. 1920 працаваў у Наркамаце асветы БССР, у школах Мінска. У пачатку 1920-х г. быў членам БПС-Р. У 1925 скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. У 1925—27 выкладчык і дырэктар Мсціслаўскага педтэхнікума. З 1927 навуковы супрацоўнік Інбелкульта і Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вывучаў дыялекталогію і культуру бел. літаратурнай мовы. Аўтар «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» (падрыхтаваны ў 1920-х г., выдадзены ў 1970). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ДПУ БССР 17.2.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Вінаватым сябе не прызнаў. Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Йашкар-Алу. Працаваў на лесапавале. Пасля вызвалення выехаў у Данецкую вобл., дзе выкладаў у школах рускую мову і літаратуру. У 1948—58 працаваў у розных навучальных установах Жданава. Да канца жыцця не атрымаў дазволу вярнуцца на радзіму. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.10.1960. Групавая справа Б. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[40] **ДРЭЙЗІН Юльян** [22.6.1879, Днепрапятроўск, Украіна — 28.3.1942, Масква], музыказнавец, публіцыст, перакладчык. У 1908 скончыў Маскоўскі ун-т. З 1925 жыў у Мінску і выкладаў у Беларускім музычным

тэхнікуме, Беларускай кансерваторыі, БДУ, працаваў у БелАН. Як прыгадваюць сучаснікі, гэта быў "невялічкі чалавек, хударлявы, з вусамі нашаніўскага пісьменніка Альберта Паўловіча. Ён ведаў, так здавалася, усіх дзеячаў асабіста і ў старыя часы нават размаўляў з царом Мікалаем Другім" (Юрэвіч Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997). Пераклаў на бел. мову лібрэта опер, створаных паводле антычных, заходнееўрапейскіх і рускіх класічных твораў. Напісаў лібрэта оперы "Тарас на Парнасе" М. Аладава. Браў удзел у распрацоўцы бел. музычнай тэрміналогіі, склаў слоўнік "Музычная тэрміналогія". Падчас кампаніі барацьбы з нацдэмаўшчынай вымушаны пакінуць Беларусь, з 1935 выкладаў у маскоўскіх ВНУ.

41 **КРУТАЛЕВІЧ Аляксандр П.** (імя па бацьку невядома) [1900 (?) — ?, ГУЛАГ], педагог, матэматык, навуковец. Брат Юлія Круталевіча. З сялянскай сям'і. Вучыўся ў Празе. У 1920-я г. супрацоўнічаў з Тэрміналагічнай камісіяй наркамата асветы БССР. Прафесар БДУ. Таксама выкладаў у МБПТ. Лічыў, што ў старажытнай і сучаснай бел. мовах дастаткова лінгвістычнага багажу дзеля ўтварэння чыста бел. матэматычнай тэрміналогіі. Свой падручнік па алгебры для сярэдніх школ напісаў, зыходзячы менавіта з такіх пазіцый. У выніку партыйнага ціску на матэматычнай секцыі не былі прыняты прапанаваныя К. тэрміны са старабеларускай мовы. Трапіў у «чорныя спісы», яго імя фігуравала ў сакрэтным дакладзе АДПУ ў ЦК КП(б)Б «Аб беларуска-эсэраўскім шавіністычным руху» ад 29.10.1925, а ў рэзалюцыі камісіі па інтэлігенцыі «Аб праверцы работнікаў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў, асветніцкіх арганізацый на аснове пастановы сакавіцкага (1926) пленума ЦК КП(б)Б» К. быў названы «палітычна нячэсным». Пасля пачатку масавай калектывізацыі сабраў звесткі аб прыбытках і выдатках калгасаў і вылічыў, што калгасніку за працоўны дзень прыпадае 1,5 капейкі. Гэтага К. ужо не маглі дараваць. Паводле звестак *Я. Кіпеля* арыштаваны і расстраляны.

**КРУТАЛЕВІЧ Юлій П.**, педагог. Брат *А.Круталевіча.* У канцы 1920-х — пачатку 1930-х г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

42 **САКОВІЧ Аляксандр**, прафесар, выкладчык гісторыі, бацька Аляксандры Саковіч (яна ж Іна Рытар, яна ж Іна Каханоўская — малодшая сястра жонкі *М.Грамыкі*). Падрабязней гл.: У пошуках праўды. Нью-Ёрк; Клыўленд, 1986.

43 **СЕРАДА Янка** [Іван Мікітавіч; 1(13).5.1879, в. Задзвея Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], грамадскі і паліт. дзеяч, вучоны-аграрый, публіцыст. Малодшы брат *С.Серады.* З сям'і святара. У 1903 скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут. У 1905—06 служыў у арміі ў Маньчжурыі. У 1907—11 працаваў ветэрынарам у Мінскай губ., адначасова выкладаў у Мар'інагорскім сельскагаспадарчым

вучылішчы. Член БСГ. Публікаваўся з 1914 (час. «Саха»). Падчас 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў армію. У 1917 быў старшынёй прэзідыума Усебеларускага з'езда; у 1918 старшыня Рады БНР. У 1918 член ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. У 1919—20 уваходзіў у Часовы Беларускі нацыянальны камітэт, прэзідыум Найвышэйшай рады БНР. У 1921—25 навуковы супрацоўнік і загадчык бібліятэкі Інбелкульта, выкладчык МБПТ. Працаваў у Наркамаце земляробства БССР. У 1923—24 арганізатар і дырэктар Мінскага ветэрынарна-зоатэхнічнага тэхнікума. У ліп. 1925 — снеж. 1929 дацэнт БСГА у Горы-Горках; адначасова з 1927 навуковы супрацоўнік Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. Выступаў у друку з навуковымі, навукова-папулярнымі і публіцыстычнымі артыкуламі на сельскагаспадарчыя тэмы. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны ДПУ БССР 4.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Яраслаўль. Вызвалены 9.7.1935. Зноў арыштаваны і 27.12.1941 прыгавораны да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Краснаярскі канцлагер. Вызвалены 19.11.1943 (датэрмінова). Далейшы лёс невядомы. Па першай справе рэабілітаваны 10.6.1988, па другой (групавая, № 20951-с; з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) 16.1.1989.

**СЕРАДА Сяргей Мікітавіч** [5.6.1877, в. Задзвея Навагрудскага пав. — ?], педагог, брат Янкі Серады. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 9.12.1936 у Мінску па адрасе: вул. Канюшанная, д. 7, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.5.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Высланы у Алма-Ату. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 26.6.1989. Асабовая справа С. № 25282-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[44] **СТРЫГУН Кузьма**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[45] **МІЦКЕВІЧ А.М.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[46] **БАРТАШЭВІЧ М. А.**, аграном, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Аўтар навуковых артыкулаў па педагогіцы, гісторыі, прыродазнаўстве. Пра Б. нам вядома амаль што толькі з успамінаў Ф.Гінтаўта:

*"Не дзядзька, а ўжо дзядуля Барташэвіч (прасіў так яго зваць), занадта паўнаваты, грузны, з дабрадушным, прыветным позіркам, паўсвета аб'ехаў, бо калісьці працаваў у Пецербурзе знаным аграномам пры тых славутых парках Пецяргофа. З выгляду нагадваў Льва Талстога. У*

*савецкі час вярнуўся ў родную Беларусь і стаў актыўным прапагандыстам агранамічных ведаў сярод сялянства. Дзівіліся мы, як ён, адарваны ад Радзімы, не забыўся роднай мовы ды з якім стараннем дапамагаў укараняць аграномічную культуру на родных беларускіх палетках. Ён быў сталым лектарам пры Доме селяніна і за лекцыі ніякай платы не браў. Паводле свайго характару, па ідэях, лектарскім таленце, ён раднiўся з К.А.Ціміразевым, ды раней і часта з ім сустракаўся. Дзядуля Барташэвіч схіляў нас да таго, каб мы, настаўнікі, прапагандавалі аграномічныя веды сярод вучняў і вяскоўцаў".* (Гінтаўт Ф. З картатэкі памяці. Гродна, 2000. С. 101).

47 **ВЯРШУК В. В.**, педагог, вучоны. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ хімію. Далейшы лёс невядомы.

48 **ДАЎГАПОЛАЎ Т. Л.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

49 **ЗАМБРЖЫЦКІ С.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ бел. літаратуру. Далейшы лёс невядомы.

*"Малады, чорнавалосы Замбржыцкі і з лысай галавой Сакалоўскі знаёмілі нас з вялікімі скарбамі літаратуры: першы — беларускай, другі — рускай і замежнай. Гэта былі не толькі добрыя літаратуразнаўцы, але і выдатныя выкладчыкі. Яны стараліся, каб мы не былі пасіўнымі слухачамі, а вучыліся разважаць, дыскутаваць, набывалі тэарэтычныя веды, умелі разабрацца ў майстэрстве пісьменніка, ацаніць твор"* (Гінтаўт Ф. З картатэкі памяці. Гродна, 2000. С. 101).

50 **КАЛІНІЧЭНКА Марта Іванаўна** [27.4.1894, Тыраспаль, цяпер Малдова — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. У 1920-я г. выкладала ў МБПТ. У 1929 у сааўтарстве з І.Мазурам напісала школьную хрэстаматыю «Чырвоная змена», падручнік, які вытрымаў некалькі выданняў. Арыштавана 3.10.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 83, кв. 3. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за "ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі" і "шкодніцкую дзейнасць у сістэме народнай адукацыі" на 5 гадоў ППК. Пасля вызвалення жыла ў сваякоў у Кіеве. Потым вярнулася ў Беларусь. Працавала выхавальніцай у школе-інтэрнаце. Атрымала пакой у адной кватэры з рэпрэсаванымі ваеннымі. Трагічна загінула (згарэла): 19.1.1961 прыйшла стомленая з работы ў халодную кватэру, накінула на сабе шарсцяную хустку, села каля электраабагравальніка і задрамала. Пахавана ў Мінску на Усходніх могілках. Рэабілітавана калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 2.8.1956. Справа К. № 6745-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[51] **КУДРЭВІЧ У. М.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[52] **ЛАБАНОК М. З.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[53] **ПРАКАПЧУК**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ біялогію. Далейшы лёс невядомы.

З успамінаў Ф.Гінтаўта:

*“Дзядзька Пракапчук, сціплы, спартыўна-рухавы, кучаравісты, з іскрыстымі вачыма — бог усяго жывога на зямлі... Ён мог расказаць шмат цікавага пра кожную жывёліну ці расліну і здзіўляў нас тым, што ведаў іх па латыні... На экскурсіях мы спрабавалі яго экзаменаваць — кожны шукаў штосьці незвычайнае і бег да яго паказаць, чакаючы той загадкавай навуковай назвы. Ён хутка даваў мясцовую назву, а пасля пстрыкаў пальцамі і выстрэльваў належную латынь”.* (Гінтаўт Ф. З картатэкі памяці. Гродна, 2000. С. 101).

[54] **ПЯТКЕВІЧ В.К.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[55] **САКАЛОЎСКІ В.Х.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ рускую і заходне-еўрапейскую літаратуру. Далейшы лёс невядомы.

З кнігі У.Глыбіннага (Сядуры) «Паэта з божай ласкі» (Нью-Ёрк, 1979):

*«Часта, адхіляючыся ад свае беспасярэдняе тэмы, замест Шэкспіра і Шылера, распачынаў незнарокам гаворку пра сучасную беларускую літаратуру. Сярод паэтаў ён асабліва вылучаў, як мастака слова, нядаўняга маладнякоўца, а цяпер ужо ўзвышэнца, Язэпа Пушчу. Сокала* (верагодна, маецца на ўвазе В.Сакалоўскі. — **Л.М.**) *захапляла паэтава вобразнасць, ён смакаваў імажынісцкія радкі з ранняга пушчавага зборніка «Рніца рыкае» і знаходзіў у іх асаблівы выяў вялікіх магчымасцяў узбагачэння беларускае паэзіі новымі, няведамымі раней сродкамі паэтычнага выражэння».*

[56] **СВЕШНІКАЎ В.М.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[57] **СЦЯПУРА З.**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[58] **ФРЫДМАН М.М.**, педагог. У 1920—30-я г. выкладала ў МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[59] **ЦЫПКІНА В.**, педагог. У 1920-я г. выкладала ў МБПТ. Далейшы лёс невядомы.

[60] **АЎСЯНКА**, педагог. У 1920-я г. выкладаў у МБПТ біялогію. Далейшы лёс невядомы.

[61] **ТРУС Паўлюк (Павел Адамавіч)** [23.4(6.5).1904, в. Нізок Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 30.8.1929, Мінск], паэт. Вучыўся ва Уздзенскай сямігодцы, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з П.Глебкам і А.Якімовічам. Першыя свае допісы Т. надрукаваў яшчэ ў 1922, але рэальна літаратурнай працай пачаў займацца ў 1923—27 падчас вучобы ў МБПТ (куды паступіў з дапамогай Я.Коласа), які быў унікальным культурным асяродкам тагачаснай Беларусі. М.Гарэцкі пісаў: “Вершы [Т.] добрыя, прыгожыя, мілагучныя”. Як адзначаюць сучаснікі, працаваў ён настойліва, штодня, без перапынкаў. У 1925 стаў сябрам літаб’яднання “Маладняк”. Апроч паэтычнага меў іншыя таленты — някепска маляваў, афармляючы дэкарацыі да спектакляў тэатра педтэхнікума, спяваў там жа ў хоры. *“Каржакаваты малады чалавек з цэлаю капою кучаравых валасоў, з блакітнымі вачыма і такім гучным густым смехам. А рагатаў ён з любое прычыны, з любога трапна сказанага слова. Гэта быў Паўлюк Трус”* (Звонак А. Неспакойныя сэрцы. Мн., 1973). Паступова, са зменамі ў грамадска-палітычным жыцці краіны, яго творчасць, не страчваючы свайго песенна-фальклорнага характару, набывала рысы публіцыстычнасці, пачалі з’яўляцца творы-агіткі, пракламацыі. Шмат ездзіў па Беларусі, наведваў фабрыкі, выступаў перад моладдзю. Летам 1929 падчас каманзіроўкі ў Магілёўскую вобл. захварэў на тыфус. Сам дабраўся да інфекцыйнага шпіталя ў Мінску, але ўратаваць жыццё паэта не ўдалося. Пахаваны на Вайсковых могілках.

[62] **ЧОРНЫ Кузьма** [сапр.: Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 11(24).6.1900, маёнтак Лапацічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Борка-Бялевічы Капыльскага р-на Мінскай вобл. — 22.11.1944, Мінск], празаік, драматург, публіцыст. Скончыў Цімкавіцкае народнае вучылішча, у 1916 паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Скончыць семінарыю не ўдалося, бо ў 1919 польскія ўлады яе зачынілі. Першыя артыкулы і вершы апублікаваў у 1920. У 1923 паступіў на літаратурнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ, дзе правучыўся два курсы. З 1923 член літаб’яднання «Маладняк». Яшчэ студэнтам у 1924 пачаў працаваць у газ. «Беларуская вёска». У 1925 выйшлі першыя кнігі — «Апавяданні» і «Срэбра жыцця». У 1926—31 старшыня літаб’яднання «Узвышша». У 1932—37 галоўны літкансультант кабінета маладога аўтара пры СП БССР. Член СП Беларусі з 1934. Арыштаваны 14.10.1938. Прасядзеў у Мінскай унутранай турме НКВД 8 месяцаў, з іх 6 — у камеры-адзіночцы.

Урывак з дзённіка К.Чорнага (запіс ад 3 кастр. 1944 г.):

*“У яжоўскай турме [у камеры-адзіночцы] увосень 1938 мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца*

*халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла...”*

Вызвалены 8.6.1939. У 1941—44 знаходзіўся ў эвакуацыі (пераважна ў Маскве). Удзельнічаў у выданні газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Летам 1944 вярнуўся ў Мінск, працаваў у рэдакцыі час. «Беларусь». Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску. У 2000 на Капыльшчыне адкрыты два мемарыяльныя знакі

63 **БАРЫЧЭЎСКІ Яўген** [5(17).12.1883, Мінск — 12.9.1934, Мінск], літаратуразнавец, педагог, перакладчык. З сям'і натарыуса. Вучыўся ў Берлінскім (1903—04) і Маскоўскім (скончыў у 1910) ун-тах. Выкладаў рускую літаратуру ў СШ у Маскве. З 1918 працаваў у музейнай сферы — у Галоўмузеі РСФСР, сакратаром музейнага аддзела Наркамасветы РСФСР. Адначасова чытаў лекцыі ў Маскоўскім і Петраградскім універсітэтах. У сакавіку 1922 пераехаў у Мінск; дацэнт, з 1928 прафесар БДУ. З 1927 адначасова працаваў і ў Інстытуце літаратуры і мастацтва БелАН. Друкавацца на бел. мове пачаў у 1925. Адзін з першых у бел. літаратуразнаўстве займаўся бібліяграфіяй. У 1930-я г. стаў аб'ектам вульгарна-сацыялагічных нападкаў. Памёр праз некалькі месяцаў пасля звальнення з работы ў БелАН на падставе “скарачэння штатаў”.

64 **ГАРЭЦКІ Максім Іванавіч** [6(18).2.1893, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Багацькаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. — 10.2.1938, Вязьма Смаленскай вобл., НКВД], класік бел. літаратуры, празаік, драматург, публіцыст, літаратуразнавец, перакладчык, лексікограф, фалькларыст. Брат Г.Гарэцкага. У 1913 скончыў Горацкае каморніцка-аграрнае вучылішча. У 1913—14 працаваў у Вільні чарцёжнікам і каморнікам. Публікавацца пачаў з 1912 (газ. «Наша ніва»); першы зборнік выйшаў у 1914 («Рунь», Вільня). У 1916 скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе. Быў паранены на фронце. У 1917 служыў у Смаленскім Савеце, супрацоўнічаў з газ. «Известия Смоленского Совета». Са жн. 1918 супрацоўнік газ. «Звезда», з рэдакцыяй якой пераехаў спачатку ў Мінск, потым у Вільню. У гэты час Вільня была ўзята польскімі войскамі. Выкладаў бел. мову на настаўніцкіх курсах і ў Віленскай беларускай гімназіі. У снеж. 1920 — ліп. 1921 рэдактар і выдавец газ. «Наша думка», з вер. 1921 — газ. «Беларускія ведамасці». У 1922 двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У кастр. 1923 перабраўся ў БССР. Выкладаў мову і літаратуру на рабфаку БДУ і ў Камуністычным ун-це Беларусі; загадваў кафедрай бел. мовы, літаратуры і гісторыі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. З 1926 (разам з П.Мядзёлкай і Ю.Гаўруком) актыўна ўдзельнічаў у Аршанскай філіі «Маладняка» (існавала пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі і якую таксама наведвалі Т.Кляшторны, Ю.Таўбін, В.Каваль, А.Вечар і інш.).

З успамінаў Ю.Гаўрука:

---

*«У яго быў прыёмнік на чатыры лямпы, па тым часе гэта была навінка, апошняе дасягненне тэхнікі... Слухаў радыё ўважліва, запрашаў іншых... — Вось паслухайце...»* (Ступень адказнасці. Мн., 1986).

У 1929—30 Г. працаваў у Тэрміналагічнай камісіі БелАН. Ажаніўся, гадаваў дачку Галіну і сына Леаніда. Першы раз арыштаваны 16.7.1930 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Вятку. Працаваў чарцёжнікам, на іншых работах. З 1935 у пас. Пасочня Смаленскай вобл. (цяпер Кіраў Калужскай вобл. Расіі) выкладаў у школе рускую мову і літаратуру. Жонка Г. — Леаніла Чарняўская, вядомая дзіцячая пісьменніца і перакладчыца (1893—1976). У гады ссылкі М.Гарэцкага была разам з мужам. Зноў арыштаваны 4.11.1937. Паводле рашэння тройкі НКВД расстраляны. Рэабілітаваны 15.11.1957. Творы Г. публікаваліся на балгарскай, літоўскай, латышскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай мовах. У в. Багацькаўка створаны яго музей. Імем Г. названа бібліятэка ў Горках, вуліцы ў Мінску, Мсціславе, Горках; устаноўлены помнікі ў Мінску і Вязьме. У 1997 створаны Міжнародны фонд братоў Гарэцкіх.

У 1920-я гады, калі Г. выкладаў літаратуру ў 1-й віленскай беларускай гімназіі, ён быў настаўнікам і першым крытыкам Н.Арсенневай:

*“Ён з вялікай увагай праглядаў мае першыя вершы, ганіў, што было блага, і заахвочваў мяне да лепшага пісання...”* (Арсеннева Н. Між берагамі. Нью-Ёрк, 1979; Чыквін Я. Далёкія і блізкія. Беласток, 1997; Жук-Грышкевіч Р. Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993).

Групавая справа Г. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Пад уплывам Г. да беларускага вершаванага слова звярнуўся Вінцук Адважны.

**АДВАЖНЫ Вінцук** [сапр.: Германовіч Язэп Станіслававіч; псеўданімы: Лявон Ветрагон, Хлопчык з-пад Горадні; крыптанімы: А.В., В.Адв., A.W., W.A. Unuk Wincuk; 4.3.1890, мяст. Гальшаны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 26.12.1978, Лондан], каталіцкі святар усх. абраду, паэт, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. З бел. рамесніцкай сям’і. Вучыўся ў Гальшанскай пачатковай і Ашмянскай гарадской школах; у 1913 скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. 29.6.1913 пасвячоны ў святары; працаваў у розных парафіях Беластоцкага дэканата. У 1921 уступіў у Таварыства беларускай школы; арганізаваў адну з бел. школ, у касцёле гаварыў казанні на бел. мове. Гэта выклікала незадаволенасць іерархаў, і ён вымушаны быў пераехаць у Друю (цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.), дзе ў 1924 уступіў у ордэн марыянаў. Служыў пробашчам (настаяцелем касцёла), адначасова выкладаў Закон Божы і лацінскую мову ў мясцовай гімназіі. Празаічныя і паэтычныя творы А. рэгулярна з’яўляліся на старонках перыядычнага друку («Krynica», «Chryścijanskaja Dumka»). З 1932 на місіянерскай рабоце ў Харбіне, дзе быў

таксама дырэктарам гімназіі. У 1936 вярнуўся ў Вільню, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў. У 1938 дэпартаваны разам са студэнтамі ў Цэнтральную Польшчу. Зноў выехаў у Харбін. У 1948 арыштаваны кітайскай паліцыяй і перададзены савецкім органам бяспекі. Асуджаны да 25 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з сібірскіх канцлагераў. Вызвалены у 1955. Выехаў у Польшчу, потым (1959) у Італію і Вялікабрытанію. Удзельнічаў у бел. рэлігійным і культурным жыцці на эміграцыі. У 1962—66 дырэктар школы імя Св. Кірылы Тураўскага пры асяродку айцоў марыянаў у Лондане. Пра сваё знаходжанне ў лагерах напісаў успаміны «Кітай — Сібір — Масква». Жывыя, яскрава паданыя сведчанні чалавека, які прайшоў праз ГУЛАГ, выклікалі вялікую цікавасць, былі апублікаваныя на бел., італьянскай, польскай, літоўскай мовах. У эміграцыі рэдагаваў час. «Божым шляхам» (Лондан).

65 **ДУНЬКО Дзмітрый** [21.9.1904, в. Пукава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. У 1927 скончыў МБПТ, настаўнічаў у Рэчыцы (выкладаў бел. мову і літаратуру). У 1929 паступіў на педагагічны ф-т БДУ, але атрымаць вышэйшую адукацыю на дало АДПУ — у 1931 Д. быў высланы з Беларусі ў Глазаў Ніжагародскага краю тэрмінам на 5 гадоў. У далейшым пераведзены ў Кіраўскі край. Знаходзячыся ў ссылцы, падтрымліваў сувязі з таксама ссыльным А.Бабарэкам. У канцы 1934 пераведзены ў Кіраў (Вятку). Вызвалены ў 1935. Не маючы працы на радзіме, застаўся у Кіраве. Зноў арыштаваны 4.11.1937 па абвінавачванні ў контррэвалюцыйных сувязях. Віноўным сябе не прызнаў. 15.2.1938 асуджаны да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Паўночна-Чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.7.1959.

66 **МЯЖЭВІЧ Уладзімір Навумавіч** [23.5.1907, в. Крывушча Аршанскага пав. Віцебскай губ., цяпер пас. Якаўлевічы Аршанскага р-на Віцебскай вобл. — 1.7.1982, Мінск], празаік, журналіст. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе. У 1925 працаваў загадчыкам хаты-чытальні. Публікавацца пачаў у 1924. Быў членам Аршанскай філіі «Маладняка». У 1926—27 загадваў аддзелам прапаганды ў Копыскім, Горацкім райкамах камсамола; у 1928 сакратар Горацкага райкама камсамола. У 1929—33 працаваў у Мінску ў газ. «Звязда», адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні філалагічна-гістарычнага ф-та БДУ. У 1931—32 выдадзены яго першыя кнігі нарысаў і апавяданняў «Крок у будучыню» і «Шляхам герояў». У 1933 рэдактар бягомльскай раённай газ. «Калгасны змагар». У 1934—37 працаваў карэспандэнтам газ. «Известия» па Беларусі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 27.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 31, кв. 7. **П**ры арышце канфіскаваны новыя рукапісы мастацкіх твораў. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 15.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК (у 1942 тэрмін зняволення быў скарочаны да 8

гадоў). Пасля вызвалення (27.1.1945) працаваў лесарубам у Краснаярскім краі (Канск). Зноў арыштаваны 10.7.1947. 19.7.1947 асуджаны спецыяльным судом Краснаярскага канцлагера да 4 гадоў ППК. У пачатку 1950-х г. вярнуўся ў Мінск; у 1956—67 працаваў у час. «Вожык», «Вясёлка», «Бярозка», карэспандэнтам газ. «Лесная промышленность». З 1971 член СП Беларусі. У 1960—70-я г. апублікаваў некалькі кніг нарысаў і апавяданняў. Пахаваны на Паўн. могілках Мінска. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 26.1.1955. Асабовая справа М. № 4877-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

67 **БАРАНАВЫХ Сымон** [сапр. Баранаў (Баран) Сымон Якаўлевіч; 1.9.1900, в. Рудакова Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1942, ГУЛАГ], празаік. У 1920—23 служыў у Чырвонай Арміі, прымаў удзел у баях з польскімі войскамі. У 1924—25 старшыня сельсавета, загадчык хаты-чытальні, адначасова карэспандэнт бел. газет. У 1925—28 вучыўся на Мінскім рабфаку, у 1931 скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Уваходзіў у літаратурныя аб'яднанні «Маладняк» (з 1927) і БелАПП (з 1928). Пасля сканчэння БДУ працаваў у Беларускім радыёцэнтры, потым адказным сакратаром час. «Беларусь калгасная». Сябраваў з Я. Купалам. Асноўная тэма творчасці — бел. вёска і сацыяльныя працэсы, якія адбываліся там у 1920—30-я г. Член СП СССР з 1934. Пасля выхаду ў 1936 у свет аповесці «Новая дарога» пакінуў службу і вырашыў цалкам аддацца мастацкай творчасці, але 3.11.1936 нач. 3-га аддзела НКВД БССР Шліфенсон *«…нашел, что лит. работники Моряков В.Д., Зарецкий М.Е., Вольный-Ажгирей А.У., Барановых С.Я. являются акт. участниками контрнацдем. организации, а посему постановил: арестовать этих литературных работников…»*

З паказанняў пісьменніка Х.:

*“Сымон Барановых высказывал недовольство политикой партии и Советской власти в области коллективизации, говорил о том, что Советская власть сильно «жмет» крестьян, что белорусский крестьянин стонет от политики партии и Советской власти, что колхозы не жизненны и развалятся. Говорил о том, что литература белорусских пролетарских писателей слабая, не отражает интересов белорусского народа, что сильной литературой, отражающей правильно интересы белорусского народа, является литература писателей нацдемов Пущи, Зарецкого, Ходыко и др., что настоящая белорусская литература «зажимается», что лучшие белорусские писатели преследуются и изгоняются”.*

1 жн. 1937 г. на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» згарацъ і 47 кніг, якія былі забраны ў Б. падчас вобыску. Разам з кнігамі ў агонь кінуць і некалькі тысяч старонак рукапісаў пісьменніка.

Арыштавалі Б. 4.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Вірская, д. 37а, кв. 1. 5.10.1937 тройкай НКВД ён быў асуджаны як “член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі” і за “антысавецкую

дзейнасць” да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з калымскіх канцлагераў. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны Прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Б. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

З успамінаў М.Хведаровіча:

*«Як сёння бачу Сымона Баранавых у палінялай гімнасцёрцы, на якой яшчэ не паспелі выцвісці чырвонаармейскія пятліцы, у доўгім кавалерыйскім шынялі, які ён надзяваў пры любым надвор'і»* (Незабыўнае. Мн., 1976).

68 **ЗВОНАК Алесь (Пётр Барысавіч)** [інш. псеўданімы: Алесін; П.Алесін; Сашка Звонак; 1(14).2.1907, Мінск — 2.2.1996, Мінск], паэт, драматург, перакладчык, тэатразнавец. З сям’і рабочага. У 1925 скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Тады ж у друку з’явіліся яго першыя вершы. Працаваў у таварыстве «Кніга — вёсцы», адказным сакратаром полацкай акруговай газ. «Чырвоная Полаччына». Кіраваў Полацкай філіяй «Маладняка». Пасля ў Мінску — рэдактар літаратурных перадач Беларускага радыё (1927—29), адказны сакратар і рэдактар аддзела паэзіі час. «Маладняк» (1929—31). Адначасова вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ, якое скончыў у 1931. У тым жа годзе стаў студэнтам 3 курса літаратурнага ф-та МДУ; потым перайшоў у аспірантуру Тэатральнага камбіната. Накіраваны ў Ленінградскую акадэмію мастацтвазнаўства, дзе спецыялізаваўся па гісторыі тэатра XX ст. Член СП Беларусі з 1935. У 1935—36 напісаў дысертацыю па гісторыі бел. тэатра, тэкст якой знаходзіўся ў Белдзяржвыдавецтве. У той час З. быў навуковым супрацоўнікам БелАН і загадчыкам аддзела мастацтва ў газ. «Літаратура і мастацтва». Арыштаваны 14.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Чырвоназорная, д. 21, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 5.10.1937 за «прыналежнасць да антысавецкай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Магаданскай вобл. Рукапісы некалькіх манаграфій З. (у тым ліку пра тэатры У.Меерхольда і У.Галубка) загінулі. Пасля вызвалення ў 1946 працаваў вольнанаёмным у залатаносных капальнях. Рэабілітаваны Прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. У канцы 1955 вярнуўся ў Мінск, займаўся творчай працай. Выступаў у галіне крытыкі, драматургіі тэатра і кіно. Пісаў сцэнарыі навукова-папулярных фільмаў. Перакладаў на бел. мову творы рускіх, украінскіх, літоўскіх, латышскіх аўтараў. На тэксты вершаў З. напісаны песні. Асабовая справа З. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

69 **КАМЯНЕЦКІ Гірш Мордухавіч** [15.12.1895, в. Чарняўка Сенненскага пав. Віцебскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 25.4.1957, Барысаў], паэт; пісаў на ідыш. Вучыўся ў хедары і ешыбоце. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Расіі — з 1919 да 1921 быў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў у цырульні. Паводле ўспамінаў, вершы пачаў пісаць і друкаваць з 1924. У 1928—30 вучыўся на літаратурна-

лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. Першая кніга паэзіі «Простай дарогай» выйшла ў 1933. Член СП Беларусі з 1934. У 1937—41 адказны сакратар яўрэйскай секцыі СП БССР. Падчас вайны жыў у Бугуруслане Чкалаўскай вобл., працаваў цырульнікам. Вярнуўшыся ў Беларусь, у 1948—49 быў рэдактарам мастацкай літаратуры Белдзяржвыдавецтва. Перакладаў прозу і паэзію з бел. і рускай моў. У сваю чаргу паэзію К. перакладалі на бел. і рускую мовы. Арыштаваны 23.6.1949 у Мінску па адрасе: Калебайкоўскі зав., д. 3, кв. 1 у рамках кампаніі барацьбы супраць «касмапалітаў». Асуджаны 22.4.1950 асобай нарадай МДБ за «антысавецкую нацыяналістычную дзейнасць» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Брацк). Вызвалены ў 1956. Рэабілітаваны 30.1.1956. З канцлагера вярнуўся інвалідам. Рэабілітаваны і адноўлены ў правах члена СП БССР (1956). Пахаваны на гарадскіх могілках Барысава. Асабовая справа К. № 9959-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

70 **СКРЫГАН Ян** [Янка; Іван Аляксеевіч; 3(16).11.1905, в. Труханавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 18.9.1992, Мінск], празаік, паэт. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі і сельскагаспадарчым тэхнікуме. У 1924 пачаў працаваць у рэдакцыі слуцкай акруговай газ. «Вясковы будаўнік». Літаратурную дзейнасць распачаў у 1924, калі ў газ. «Вясковы будаўнік» былі апублікаваны яго вершы. У 1925—26 быў загадчыкам Народнага дома ў Расонах. У 1926—27 працаваў у рэдакцыі газ. «Чырвоная Полаччына». У 1928 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Быў членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», «Літаратурна-мастацкай камуны».

У кнізе "Маладняк" за пяць гадоў" (1928) М.Гарэцкі пісаў пра С.: *«У вершах... адчуваецца моцнае наследванне Ясеніна і Пушчы... Што да прозы, дык у Янкі Відука — мацнейшая за вершы і вызначае яго спаміж прозаікаў-маладнякоўцаў. Тут у яго рэалізм тонка і прыгожа перавіваецца з рамантычным настроем. Праўда, у ідэолёгічным змесце і ў форме тут адчуваецца пэўная інтэлігенцкасць і буржуазныя літаратурныя ўплывы...»*

Пасля сканчэння ў 1932 БДУ працаваў у рэдакцыі газ. "Літаратура і мастацтва". Член СП Беларусі з 1934. Арыштаваны 14.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маркаўская, д. 9, кв. 2.

З архіўна-следчай справы С.:

*"Начальнику УРЧ УИТЛ и ИТК НСО...*

*Жалоба.*

*Я, писатель БССР, Спецколлегией Верхсуда республики в 1937 г. осужден на 10 лет ИТЛ, как участник национал-фашистской организации.*

*Я не знаю за собой никакого преступления, мои руки и честь, дела и помыслы чисты перед партией и народом.*

*Мои заявления встречают везде равнодушие. Подобное ли равнодушие послужило почвой безответственности ареста и прговора? Если*

*бы Президиум Верховного суда заглянул в суть процесса, он убедился бы, что мое дело является результатом преступной провокации, примером ярчайшего нарушения Сталинской конституции.*

*Прошу о пересмотре, о новом следствии.*

*Ян Скрыган. 5 октября 1940 г.”*

З заявы С. Генеральнаму пракурору СССР (дат. 8.4.1954):

*«Следователь Быховский (1937) с первого же допроса начал требовать… лжи, клеветы, извращения фактов… и откровенно заявил, что правды он и не требует. Со злобой он выкрикнул: «Ишь, сволочь, Иисус Христос нашелся, правда ему нужна! Нам нужна правда, которой от тебя требуют! …Если ты советский человек, то должен подписать всё, что требует от тебя следствие. Это нужно в интересах государства. …После такой усердной работы Быховского вся, как моя, так и чужая жизнь превращалась в сплошной жуткий комок грязи и преступлений».*

5.10.1937 С. быў асуджаны тройкай НКВД як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Кемераўскую вобл. Вызвалены ў 1946 з пяцігадовым паражэннем у правах. Працаваў бухгалтарам у Фергане (1946—48), Эстоніі (1948—49, сланцахімічны камбінат «Ківіылі», дзе пазней была ўстаноўлена С. мемарыяльная дошка). Вяртацца ў Беларусь было забаронена. Зноў арыштаваны 25.6.1949. Высланы ў Сібір — у Сухабузімскі р-н. Некаторы час пакаранне адбываў з С.Шушкевічам і А.Звонакам. Пасля вызвалення вярнуўся ў Мінск. Працаваў рэдактарам мастацкай прозы ў Белдзяржвыдавецтве (1955—59), літкансультантам СП Беларусі (1959), рэдактарам аддзела прозы, нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя» (1959—67), загадчыкам літаратурна-кантрольнай рэдакцыі БелСЭ (1967—75), адказным сакратаром Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва, архітэктуры (1975—85). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1976 за ўдзел у стварэнні «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» ў 12 т. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985). Вылучаўся высокай культурай літаратурнай бел. мовы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа С. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

71 **СКАБЛОЎ Фёдар Аляксеевіч** [1897 (паводле інш. звестак, 1905), Рэчыца Мінскай губ., цяпер горад Гомельскай вобл. — 7.7.1938, Мінск, НКВД], эканаміст. Скончыў БДУ. У 1931 паступіў у аспірантуру БелАН. З 1935 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі. З 1937 кіраўнік секцыі. Адначасова выкладаў палітэканомію ў Інстытуце народнай гаспадаркі. Арыштаваны 4.3.1938. Асуджаны 25.5.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 5.10.1957. Асабовая справа С. № 10945-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

72 **ХВЕДАРОВІЧ Мікола** [сапр.: Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; іншыя псеўданімы: С.Старобінскі; Сабасцян Старобінскі; Себасцян Старобінскі; Н.Федаровіч; 24.3(6.4).1904, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер горад Мінскай вобл. — 20.8.1981, Мінск], паэт, празаік, перакладчык, брат пісьменніка Н.Чарнушэвіча. У 1915—18 жыў у прытулку для дзяцей бежанцаў у Калузе, вучыўся ў гарадскім вучылішчы. Вярнуўшыся з бежанства, вучыўся ў вучылішчы мяст. Цімкавічы, потым у Капыльскай працоўнай школе 2-й ступені. У 1918 уступіў у камсамол. З 1921 у часці асобага прызначэння. У 1923 сакратар камсамольскай ячэйкі ў Цыраўскай воласці і загадчык хаты-чытальні. У 1924 камісар Слуцкага ваенкамата па дапрызыўнай падрыхтоўцы. З артыкуламі ў друку пачаў выступаць у 1924. Першы верш («Ураджайнае») надрукаваў у 1925. У 1929 выйшла першая кніга («Настроі»). У 1928 скончыў рабфак у Мінску, у 1931 — БДУ. Паралельна з вучобай працаваў адказным сакратаром час. «Весткі ЦК КП(б)Б», потым у «Партыйным работніку» і «Бальшавіку Беларусі». У 1932—33 рэдактар двухтыднёвіка «Чырвоная Беларусь». Член СП Беларусі з 1934. У 1933—34 загадчык кабінета маладога аўтара СП БССР. У 1934—37 адказны сакратар час. «Полымя рэвалюцыі», сакратар час. «Минск». Быў членам літаратурных аб’яднанняў «Маладняк» і БелАПП. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 24, кв. 10. (Яшчэ ў 1927 Х. прадбачліва пісаў: *«Краіна! Краіна! // Сыноў павялі // на ганьбу, на здзекі, на мукі!»*). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 16.7.1940 за «ўдзел у антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Нарыльскі канцлагер НКВД Краснаярскага краю. З 1941 ва Усцьвытлагу (пасёлак Ваяжэль Комі АССР). З 1946 працаваў у г. Каршы Узбекскай ССР. Паўторна арыштаваны 22.5.1949; сасланы (3.8.1949) у Енісейск Краснаярскага краю. Вызвалены і рэабілітаваны ў перыяд 24—28.9.1955. Вярнуўся ў Беларусь. Займаўся літаратурнай творчасцю. Пераклаў на бел. мову творы А.С.Пушкіна, паэму “Віцязь у тыгравай шкуры” Ш.Руставелі (з А.Звонакам), п’есы М.Стэгліка, А.Палявога, А.Талбузіна. Рэабілітаваны 28.9.1955. Асабовая справа Ф. № 5828-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

73 **БАРАНОЎСКАЯ Ганна Паўлаўна** [17.4.1907, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1937, Орша, НКВД], мовазнавец. З сям’і службоўца. Скончыла літаратурна-лінгвістычны ф-т БДУ. З кастр. 1934 працавала ў Інстытуце літаратуры і мовы АН БССР малодшым навуковым супрацоўнікам. Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 27.8.1937 у Мінску па адрасе: Бранявы зав., 13а, кв. 5. Асуджана «тройкай» НКВД 29.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Рэабілітавана трыбуналам БВА 13.9.1966. Асабовая справа Б. № 19554-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[74] **ЛЕНІН Уладзімір Ільіч** [сапр. Ульянаў; 10(22).4.1870, Сімбірск, цяпер Ульянаўск, Расія — 21.1.1924, Горкі пад Масквой], савецкі дыктатар. Яго старэйшы брат Аляксандр у 1887 пакараны смерцю за ўдзел у замаху на цара Аляксандра III, што адбілася на ўсім далейшым стаўленні Л. да наяўнага дзяржаўнага ладу. У 1891 скончыў экстэрнам юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Удзельнічаў у дыскусійных марксісцкіх гуртках. Пасля трохгадовай ссылкі ў 1900 выехаў у эміграцыю. У 1902 арганізаваў раскол сацыял-дэмакратычнага руху Расіі і стварэнне радыкальнай плыні — "бальшавікоў". Вярнуўся ў Расію ў красавіку 1917. Узначаліў кіраўніцтва Кастрычніцкім пераваротам у Петраградзе ў 1917. Пасля захопу ўлады бальшавікамі — старшыня СНК. Будуючы новы лад, праводзіў тэрарыстычную палітыку "ваеннага камунізму" і падтрымаў стварэнне ВЧК — рэпрэсіўнага органа з неабмежаванымі паўнамоцтвамі. Жорсткі гаспадарчы і паліт. крызіс змусіў Леніна да ўвядзення ў 1921 "новай эканамічнай палітыкі". У 1922 цяжка захварэў. Ізаляваны Палітбюро ў сядзібе ў Горках. Вядомы як выдатны аратар, здольны сваімі прамовамі захапіць натоўп. Пакінуў багатую публіцыстычную спадчыну, напоўненую знявагамі і абразамі ў адрас паліт. апанентаў.

[75] **БУЗУК Пётр Апанасавіч** [псеўданім і крыптанімы: П.Росіч; П.Б.; П.Р.; П.Р-ч; Р-ч; 1.7.1891, в. Цярноўка Кішынёўскага пав. — 7.2.1938, Волагда, НКВД], лінгвіст-славіст, літаратуразнавец, паэт, празаік, педагог. З сям'і службоўца. Вучыўся ў Ціраспальскім рэальным вучылішчы (1904—10), потым на гісторыка-філалагічным ф-це Новарасійскага ун-та ў Адэсе (скончыў у 1916), выкладаў ва ун-це рускую мову. З 1920 дацэнт ун-та. З 1924 — доктар філалагічных навук. Па запрашэнні рэктара БДУ У.Пічэты з восені 1925 працаваў у Мінску. У 1926 перайшоў у Інбелкульт, з 1929 старшыня дыялекталагічнай камісіі. Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Арыштаваны ДПУ БССР 6.8.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі», праз некаторы час вызвалены. З 1931 дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР. Адначасова з 1931 загадваў кафедрай мовазнаўства ў МВПІ. Вывучаў праблемы праславянскай мовы, пытанні агульнага і параўнальнага мовазнаўства, распрацоўваў пытанні бел. лінгвістычнай геаграфіі. Пад псеўданімам выступаў у друку з апавяданнямі, вершамі, перакладамі. У 1928 стаў сябрам «Маладняка». Зноў арыштаваны 9.2.1934 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 5, кв. 17. Спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Асуджаны тройкай НКВД 3.4.1934 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да 3 гадоў ссылкі ў Волагду. У 1934—35 працаваў бібліятэкарам, потым выкладаў нямецкую мову ў Валагодскім педагагічным інстытуце. У трэці раз арыштаваны 15.7.1937. Прыгавораны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Па першай справе рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 26.10.1956; па другой (групавой; № 20951-с; з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) — 31.1.1956; цалкам рэабілітаваны 1.6.1988.

76 **НЕКРАШЭВІЧ Сцяпан Міхайлавіч** [8.5.1883, в. Данілаўка Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], мовазнавец, грамадскі дзеяч. У 1908 скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю, у 1913 — Віленскі настаўніцкі інстытут. Падчас 1-й сусветнай вайны ў дзеючай арміі на Румынскім фронце. З восені 1917 у Адэсе. Пасля абвяшчэння БНР прадстаўнік яе ўрада на поўдні Украіны і пры французскім камандаванні Антанты. Адначасова вучыўся ў Адэскім вышэйшым міжнародным інстытуце. З 1920 у Мінску. Працаваў у апараце Наркамасветы БССР. У 1922—25 старшыня Інбелкульта. З 1927 дацэнт БДУ. З пачатку 1925 да ліп. 1926 на стажыроўцы ў Ленінградскім ун-це, працаваў пад кіраўніцтвам Я.Карскага. З 1928 акадэмік БелАН, віцэ-прэзідэнт БелАН, адначасова з 1929 дырэктар Інстытута мовазнаўства, старшыня камісіі па ўкладанні слоўніка жывой бел. мовы, старшыня правапіснай і аспіранцкай камісій. З 1.1.1928 старшыня Галоўнавукі пры Наркамасветы БССР. Асноўны кірунак навуковай дзейнасці — лексікаграфія і гісторыя бел. мовы. Арыштаваны ДПУ БССР 21.7.1930 па справе „Саюза вызвалення Беларусі". 10.4.1931 пастановай калегіі АДПУ СССР прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў Сарапул (Удмурція). Тэрмін ссылкі быў прадоўжаны на 2 гады. Паўторна арыштаваны ў ліст. 1937; дастаўлены ў Мінск. 19.12.1937 тройкай НКВД прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Па другім прысудзе рэабілітаваны 12.10.1957, па першым — 10.6.1988. Групавая справа Н. і інш. № 20951-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

77 **СУШЫНСКІ Язэп (Іосіф) Францавіч** [май 1885, в. Юроны Дрысенскага пав. Віцебскай губ. — 1967, Мінск], мемуарыст, хімік, мовазнавец, педагог. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Член БСГ. Блізкі знаёмы Я.Купалы, першая сустрэча з якім адбылася на кватэры Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу. У 1921—26 працаваў у розных установах Наркамасветы БССР, потым у Інбелкульце. У 1929—30 у Інстытуце мовазнаўства БелАН, займаўся распрацоўкай бел. навуковай тэрміналогіі. Быў жанаты, гадаваў пяцярых дзяцей. Арыштаваны 18.7.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ва Уфу. Пастановай асобай нарады пры НКВД 25.7.1935 тэрмін зняволення падоўжаны. Па вяртанні ў Мінск выступаў у друку і публічна з успамінамі пра Я.Купалу, грамадска-культурнае жыццё беларусаў у Пецярбургу да 1917. Рэабілітаваны 15.11.1957. Рукапіс успамінаў С. захоўваецца ў Літаратурным музеі Я.Купалы. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

78 **ЭПІМАХ-ШЫПІЛА Браніслаў Ігнатавіч** [крыптанім: Б. Э.-Ш.; 4(16).9.1859, фальварак Судзіловічы Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер в. Будзькаўшчына Полацкага р-на Віцебскай вобл. — 6.6.1934, Ленінград],

мовазнавец, літаратуразнавец, фалькларыст, выдавец. У 1871—80 вучыўся ў Аляксандраўскай гімназіі ў Рызе. У 1880—86 — на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага ун-та; кандыдат філалогіі. Зарабляў прыватнымі ўрокамі, працаваў памочнікам рэдактара "Журнала Министерства путей сообщения". З 1891 памочнік бібліятэкара, потым бібліятэкар у бібліятэцы Пецярбургскага ун-та. Быў сапраўдным членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. На пачатку XX ст. стаў на чале бел. культурнага руху ў Пецярбургу. Яго дом стаўся асяродкам і месцам збору нацыянальна арыентаванай бел. моладзі. У 1906 стварыў бел. выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца". У 1913 пачаў друкавацца ў бел. выданнях. У 1916 удзельнічаў у падрыхтоўцы "Меморыі прадстаўнікоў Беларусі на III канферэнцыі народаў" (Лазана). Склаў першую хрэстаматыю бел. літаратуры. У 1924 абраны правадзейным членам Інбелкульта. Пераехаў у Мінск у 1925. Працаваў рэдактарам, з 1927 старшынёй камісіі Інбелкульта па складанні слоўніка жывой бел. мовы. У 1929 перадаў у БелАН асабістую бібліятэку з 5 тыс. тамоў. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе "Саюз вызвалення Беларусі"; на яго кватэры праведзены вобыск. Знаходзіўся ў зняволенні да 12.9.1930. Вымушаны пакінуць Мінск; выехаў у Ленінград, "дзе апынуўся выкінутым на брук" (Спадчына. 1989. № 2. С. 29).

[79] **ЧАРЖЫНСКІ Уладзіслаў Вікенцевіч** [псеўданімы: Уладзіслаў Дзяржынскі; Улідзе; май 1897, в. Старакаменная Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 2.4.1974, Казань], крытык, літаратуразнавец. Вучыўся ў Гродзенскай гімназіі, пасля яе эвакуацыі перавёўся ў Мінскую гімназію, якую скончыў у 1918. У 1918—19 даваў прыватныя ўрокі ў мяст. Крайск і Пасадзец на Лагойшчыне. У 1925 скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. Вучобу сумяшчаў з выкладчыцкай дзейнасцю на рабфаку (1922—24). З 1922 пачаў выступаць з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі ў бел. друку. У 1925 супрацоўнік час. "Полымя". Працаваў у Інстытуце беларускай культуры і БелАН; адначасова выкладаў у Камуністычным ун-це Беларусі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 28.6.1930 у Мінску па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Казань. Пасля сканчэння тэрміну застаўся там жыць. Працаваў выкладчыкам у розных ВНУ. Да літаратурнай дзейнасці не вярнуўся. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Ч. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[80] **ДЫЛА Язэп** [Восіп Лявонавіч; псеўданімы і крыптанімы: Н.Бываеўскі; Наз. Бываеўскі; Назар Бываеўскі; Nazar Bywajeuski; А.Дыл; А.Дыла; Жорсткі; Л.Жорсткі; Тодар Кулеш; Т.Кулеша; Язэп; Н.Б.; Наз. Б.; Н. Б-і; Н. Б-скі; Наз. Б-скі; Я.Д.; Язэп Д.; Яз.Д-а; 2(14).4.1880, Слуцк — 7.4.1973,

Саратаў, Расія], празаік, драматург, грамадскі дзеяч. У 1890—98 вучыўся ў Слуцкай гімназіі. У 1899 паступіў у Юр'еўскі (Тартускі) ветэрынарны інстытут, адкуль у 1903 выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. У 1903—04 у Мінску працаваў у газ. «Северо-Западный край». У 1905 узначальваў арганізацыйную групу Мінскага камітэта РСДРП. У 1906—18 у выдавецтвах Пецярбурга, Арэнбурга, Казані, Масквы. У студз. — лют. 1919 камісар працы ў Часовым урадзе БССР. Супрацьстаяў палітыцы А.Мяснікова, за што ў лют. 1919 арыштаваны і высланы з Беларусі. У 1921—24 на розных кіраўнічых пасадах у Мінску. З 1924 правадзейны член і вучоны сакратар Інбелкульта, дырэктар Інстытута па вывучэнні мастацтва, дырэктар БДТ-1, нам. загадчыка Белдзяржкіно. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; 10.4.1931 высланы ў Кунгур Пермскай вобл. на 5 гадоў. Потым жыў у Саратаве. 22.8.1938 зноў арыштаваны (10.3.1939 справа спынена). Рэабілітаваны 15.11.1957 судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Д. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

81 **ІМШЭНІК Хведар Пятровіч** [крыптанім: Хв. Ім.; 4.9.1884, в. Хоцінава Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ. — ?], літаратуразнавец, мемуарыст, педагог. Вучыўся ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы, Літоўскай духоўнай семінарыі (1900—07). Быў супрацоўнікам газ. «Наша ніва». Скончыў Юр'еўскі (Тартускі) ун-т. У час вучобы арыштоўваўся за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. У 1906—12 член БСГ. Пасля сканчэння ун-та па запрашэнні М.Багдановіча пераехаў у Яраслаўль; выкладаў у прыватнай мужчынскай гімназіі. У 1918 разам з Мінскім настаўніцкім інстытутам вярнуўся ў Мінск. Працаваў выкладчыкам філалогіі і гісторыі ў Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. У 1923—24 дырэктар Бабруйскага, у 1924—27 Рагачоўскага, у 1927—30 выкладчык Гомельскага педагагічных тэхнікумаў. Напісаў успаміны пра М.Багдановіча, «Нашу ніву». Арыштаваны 15.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 паводле пастановы калегіі АДПУ сасланы на 5 гадоў ва Уфу. Далейшы лёс невядомы.

82 **МЯДЗЁЛКА Паўліна Вінцэнтаўна** [псеўданім: Паўлінка; крыптанім: М.; 12(24).9.1893, мяст. Будслаў Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Мядзельскага р-на Мінскай вобл. — 13.2.1974, Будслаў], артыстка, педагог, мемуарыстка. Скончыла Глыбоцкае царкоўнапрыходскае вучылішча. З 1907 у Рызе, вучылася на вячэрніх курсах для дарослых. З 1909 у Вільні, займалася ў прыватнай жаночай гімназіі Няздзюравай і Райсмілер. Зблізілася з віленскім бел. і сацыялістычным рухамі. Увосень 1912, пасля сканчэння гімназіі, накіравалася ў Пецярбург на Вышэйшыя камерцыйныя курсы, якія скончыла ў 1914. У 1913 выканала ролю Паўлінкі ў пецярбургскай прэм'еры п'есы Я.Купалы. Падчас 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі ў Царыцыне. З восені 1916 у Петраградзе сакратар Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. У 1917 працавала ў Кіеве (Саюз гарадоў). У кастр.

1917 па дамоўленасці з княгіняй Магдаленай Радзівіл арганізавала бел. школу ў в. Жорнаўка Ігуменскага пав. Пасля таго, як у сак. 1918 школа была закрыта, перабралася ў Мінск. Працавала настаўніцай, удзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Наведвала Вільню і Гродна. З 1918 выступала ў друку з вершамі. З вясны 1919 інспектар бел. школ, кіраўнік Грамады беларускай моладзі і драматычнага гуртка ў Гродне. 20.7.1919 арыштавана польскімі ўладамі за ўдзел у выданні газ. „Родны край” (Гродна). З пачатку 1920 у Мінску, кіравала бел. жаночай школай. Зноў арыштавана з мужам Т.Грыбам польскімі ўладамі ў маі 1920. Перад наступленнем Чырвонай арміі вывезена ў Варшаву, сядзела ў турме Вронкі на Познаншчыне. Пасля вызвалення накіравана на жыхарства ў Лодзь з забаронай пераязджаць на „ўсходнія крэсы”. Па падробных дакументах выехала ў Вільню і ў лют. 1921 трапіла ў Літву. У Коўне займалася выданнем агітацыйнай літаратуры, накіраванай супраць польскай акупацыі Зах. Беларусі. Друкавалася ў газ. “Сялянская доля”. З восені 1921 па прапанове Ц.Гартнага працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне. У 1922 пераехала ў Латвію, выкладала ў бел. гімназіі ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс). У маі 1924 арыштавана латышскімі ўладамі разам з інш. выкладчыкамі. Апраўдана судом у крас. 1925. 22.5.1925 з братам прыехала ў БССР. Працавала ў сектары мастацтва Інбелкульта. У 1927—30 выкладала бел. мову ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштавана АДПУ 18.7.1930 па справе “Саюза вызвалення Беларусі”; выслана ў Казань. З восені 1932 выкладала рускую мову і літаратуру ў адной з маскоўскіх школ. Улетку 1947 пераехала ў мяст. Будслаў. Да 1958 працавала настаўніцай. У Будславе напісала свой найбольш значны твор — мемуары „Сцежкамі жыцця”, якія ў фрагментах пачалі друкавацца з 1958 (асобным выданнем выйшлі ў 1974; ч. 2 надрукавана ў 1993). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1966). Пахавана ў Будславе.

83 **ЛЯЖНЕВІЧ Алесь** [Аляксандр Францавіч; псеўданімы: Алесь Бяздольны; Язэп Церабеж; ініцыялы: А.Ф.; 1890, в. Сенцяняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 1937, НКВД], драматург. У 1914 мабілізаваны ў армію; ваяваў на Румынскім фронце. У 1917—20 у Адэсе ў Чырвонай арміі, працаваў у абл. тэатры, быў акцёрам бежанскай суполкі „Беларускі гай”. Вучыўся ў прыватнай тэатральнай школе. З 1920 у Мінску, акцёр БДТ-1, у 1921 — яго дырэктар. У 1922—26 у Маскве, дырэктар бел. студыі Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва, потым працаваў інспектарам Наркамасветы БССР па справах мастацтва. Публікаваўся з 1924. Разам з Я.Купалам і Ц.Гартным уклаў анталогію „Беларускі дэкламатар Чырвоны Дудар” (1924). У 1924 падчас партыйнай чысткі выключаны з партыі з прычыны „адарванасці ад мас і палітычнай непісьменнасці”. З кастр. 1927 кансультант, асістэнт рэжысёра на кінафабрыцы „Савецкая Беларусь” у Ленінградзе. Арыштаваны 20.7.1930 у Ленінградзе па справе „Саюза вызвалення Беларусі”. 10.4.1931 пастановай

калегіі АДПУ высланы на 5 гадоў у Пашахонне-Валадарск (Яраслаўская вобл.). Зноў арыштаваны ў 1937 і прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

[84] **ШАШАЛЕВІЧ Васіль Антонавіч** [9.1.1897, паводле іншых звестак 1.1.1897, в. Мхінічы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 23.10.1941, ГУЛАГ], драматург, паэт. Брат празаіка А.Мрыя (А.Шашалевіча). Вучыўся ў духоўным вучылішчы, у Магілёўскай духоўнай семінарыі (1910—14), Яраслаўскім юрыдычным ліцэі (1915—16). З-за матэрыяльных праблем не здолеў скончыць ліцэй. З 1917 настаўнічаў у в. Ясенцы і ў мяст. Краснаполлі на Магілёўшчыне, у Мінску. У 1918 з братам і сёстрамі стварыў народны тэатр у Краснаполлі, пісаў для яго аднаактоўкі. На прафесійнай сцэне яго першая драма “Апраметная” (другая назва “Зруйнаваная цемра”) пастаўлена 16.5.1925 Беларускай тэатральнай студыяй у Маскве. У 1926—27 “Апраметная” ішла на сцэне БДТ-2 імя Я.Коласа, створанага на аснове Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве. Наступная п’еса “Змрок” была пастаўлена БДТ-1 імя Я.Купалы ў Мінску 30.1.1927; драма “Сімфонія гневу” пастаўлена БДТ-1 3.3.1935. Першы верш “Сож” апублікаваў у 1927 у час. “Узвышша”. У другой палове 1920-х г. працаваў сцэнарыстам на кінафабрыцы. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны АДПУ ў ліп. 1930 па справе “Саюза вызвалення Беларусі”; знаходзіўся пад следствам да лютага 1931. Паўторна арыштаваны 28.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Вызвалення, д. 13, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955. Асабовая справа Ш. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

З успамінаў С.Грахоўскага:

*«В.Шашалевіч у Томасінглагу напісаў п'есу на тэму лагернага жыцця, якую паставілі аматары. Але змест п'есы не спадабаўся лагернаму кіраўніцтву, і яе аўтара, хворага на сухоты, паслалі на лесапавал. Там на В.Шашалевіча наўмысна спусцілі бярозу, якая прыціснула яго да вогнішча, і ён загінуў. Рэабілітаваны пасмяротна. Кампенсацыю за рэпрэсіі атрымала яго жонка Вера. Аднак гэтыя грошы сталі прычынай новага няшчасця: гаспадар хаты, у якога яна кватаравала, забіў яе, спадзеючыся такім чынам разбагацець, не ведаючы, што грошы пакладзены ў ашчадную касу»* («Беларускія пісьменнікі». Бібліяграфічны слоўнік». Т. 6. С. 358).

[85] **РОДЗЕВІЧ Чэслаў Іванавіч** [20.3.1889, фальварак Кур’янаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — сак. 1942, г. Саратаў, НКВД], грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст. Брат Л.Родзевіча. У 1908 скончыў Віленскую сярэднюю хіміка-тэхналагічную вучэльню. Выступаў як акцёр у Першай беларускай трупе Ігната Буйніцкага. Жыў у г. Петраград. Адзін з заснавальнікаў Беларускага таварыства дапамогі

ахвярам вайны, Таварыства беларускага народнага штукарства. У 1918 скончыў Новачаркаскі політэхнічны інстытут. У 1918 супрацоўнік Беларускага нацыянальнага камісарыята. Пераехаў у Мінск. У канцы 1918–19 акцёр Беларускага савецкага тэатра; у 1919—20 выкладчык Мінскага падінстытута. У час польскай акупацыі загадчык аддзела асветы Мінскага магістрата. У 1920-я г. удзельнічаў у рабоце Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасветы БССР. З 1922 у Інбелкульце, з 1925 навуковы сакратар сельскагаспадарчай секцыі. Арыштаваны 18.7.1930 па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай калегіі АДПУ ад 10.4.1931 высланы на 5 гадоў у Саратаў. Рэабілітаваны 15.11.1957.

86 **ДУБОЎКА Уладзімір Мікалаевіч** [псеўданімы і крыптанімы: Ганна Аршыца; У.Гайдукевіч; У.Гайдуковіч; Ул.Гайдуковіч; Уладзімір Гайдуковіч; Б-сь Дубоўка; Бладысь Дубоўка; Уладзік Павадыр; Тупяец; В.Туянец; У.Д-ка; У.Д-на; 2(15).7.1900, в. Агароднікі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 20.3.1976, Масква], паэт, празаік, перакладчык, крытык. У 1915 сям'я Д. пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў Маскву. У 1918 скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю; у 1924 — Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В.Брусава. Першы верш апублікаваў у 1921. У 1920-я г. — адзін з вядучых бел. паэтаў незалежніцкай арыентацыі. У 1922—25 рэдактар бел. выдання «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», адначасова адказны сакратар прадстаўніцтва БССР пры Урадзе СССР. У 1924—27 выкладчык бел. мовы ў Камуністычным ун-це народаў Захаду. У 1926—30 рэдактар «Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўраду Саюза ССР». Нягледзячы на тое, што пастаянна жыў у Маскве, браў актыўны ўдзел у бел. літаратурным руху — член літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша». Першы рэдактар час. «Беларускі піянер». Каб пазбегнуць цэнзуры, некаторыя вершы друкаваў у заходнебел. час. «Беларуская культура». Арыштаваны АДПУ СССР 20.7.1930 у Крамлі па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Яранск. У ліп. 1935 тэрмін высылкі падоўжаны на 2 гады. У ліст. 1937 прыгавораны да 10 гадоў ППК. Пакаранне адбываў у Кіраўскай вобл., Чувашыі, на Далёкім Усходзе. У зняволенні літаратурнай працай не займаўся. Зноў арыштаваны 16.2.1949 у Грузіі. Асобай нарадай МДБ СССР у крас. 1949 асуджаны да 25 гадоў зняволення. Канчаткова рэабілітаваны 15.11.1957. Член СП Беларусі з 1958. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы (1962) за кнігу паэзіі «Палеская рапсодыя».

Уравык з артыкула надрукаванага ў час. "Баявая ўскалось" (Канада, 1977. № 16):

*«...Прадстаўнікі «Комитета возвращения на Родину» адведалі яго* (У.Дубоўку. — ***Л. М.***) *з прапановай напісаць процiў С.Хмары пісьмо ў газэту, пры гэтым не толькі прынеслі яму вашыя газэты і часопісы, але і выданы вамі* (С.Хмарай. — ***Л. М.***) *ягоны зборнік вершаў «Крэда», за які ён пакутваў у Сібіры і аб выданні якога ён і не знаў.*

*Дубоўка наадрэз адмовіўся нешта напісаць проціў нас, а наперакор: захоплены вашай дзейнасцяй, парашыў неяк даць знаць вам, што яго не зламілі і што ён па нашым боку. Зрабіў ён гэта дасціпна, каб абыйсці цэнзуру і даволі ясна для тых, каму прызначана. Быў гэта большы вершаваны твор пад выглядам абробкі палескай казкі для дзяцей, ды азагалавіў гэты твор: «Як Сінячок да сонца лётаў», пусціўшы ў друк. Вось гэты твор у часопісе і прасіў* (У.Дубоўка. — ***Л.М***.) *перадаць ці пераслаць праз другіх Хмары. «А ён ужо будзе ведаць!»*

*Так мы даведаліся аб нязломным Дубоўку. Дубоўку — змагару, Дубоўку — Чалавеку і сябру!».*

З успамінаў П.Пруднікава:

*«На пахаванні Уладзіміра Дубоўкі нас было толькі пяць чалавек. Саюз пісьменнікаў СССР прадстаўляла Валянціна Шчадрына — кансультант па беларускай літаратуры, Мікола Гамолка і я — ад беларускай пісьменніцкай арганізацыі, пляменнік нябожчыка, Валодзя, і дачка яго даўняга сябра Адама Бабарэкі — Алеся. Вось і ўсё».*

87 **ЖЫЛКА Уладзімір Адамавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Вал.Жыл.; Вл.Ж.; І.Жылка; Макашэвіч; Л.Макашэвіч; У.Ж.; Ул.Ж.; 27.5.1900, в. Макашы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 1.3.1933, Уржум Кіраўскай вобл.], паэт, перакладчык, крытык. З сялянскай сям'і. Перад пачаткам 1-й сусветнай вайны сям'я Ж. пераехала ў Мінск. Падчас вайны, як і больш за мільён іншых бел. сям'яў, у бежанстве (Тульская губ.). У 1917 Ж. вярнуўся ў Мінск; пачаў наведваць “Беларускую хатку”, друкавацца ў мінскіх выданнях. Восенню 1920 захварэў на сухоты і пераехаў да дзеда ў в. Падлессе Навагрудскага пав. Пасля Рыжскай дамовы застаўся ў Зах. Беларусі. З 1921 друкаваўся ў заходнебел. прэсе («Беларускія ведамасці», «Наша думка», «Наша будучыня», «Новае жыццё»). У 1923 выдаў першы зборнік паэзіі. Працаваў у Вільні ў бел. кнігарні. Ратуючыся ад пераследу рэжыму генерала Л.Жалігоўскага, выехаў у Коўна, затым у Дзвінск (Даўгаўпілс). Потым па стыпендыі чэхаславацкага ўрада (рэкамендацыю даў Л.Родзевіч) вучыўся ў Карлавым ун-це (Прага, 1923—26). Рэдагаваў час. «Новы прамень» (Прага). У 1926 прыехаў у Мінск для ўдзелу ў Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе бел. правапісу. Застаўся ў БССР. Працаваў у газ. «Звязда» і музычным тэхнікуме. Быў членам літаб'яднання «Маладняк», потым «Узвышша». Паэзія Ж. вылучалася высокай культурай верша. Перакладаў для Белдзяржкіно.

Ю.Гаўрук у «Ступені адказнасці» (1986) пра Ж. ўспамінаў так:

*«Аднаўляючы ў памяці вобраз гэтага вельмі асаблівага чалавека і паэта, я міжвольна прыгадваю Максіма Багдановіча. Ёсць у іх нейкія рысы роднасці… Абодва былі людзьмі высокай культуры, шчодрай душы, востра адчувалі хараство…»*

Падчас арышту Ж. працаваў у Белдзяржкіно. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.7.1930 у Мінску (у адзін дзень з пісьменнікам

С.Хурсікам і паліт. дзеячам Л.Зайцам) па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У «амерыканцы» ў той час разам з У.Жылкам знаходзіліся: А.Адамовіч, Я.Пушча, У.Дубоўка, Ф.Купцевіч, Я.Кіпель і інш. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі ва Уржум. З успамінаў жонкі Я.Кіпеля, Марыі вядома, што ў той час у мясцовасці, куды быў высланы Ж., таксама знаходзіліся яе муж, А.Адамовіч, М.Азбукін, А.Бабарэка, М.Улашчык.

Пра апошнія дні жыцця Ж. расказаў у часопісе «Шыпшына» (1948. № 7) Я.Кіпель:

*«У канцы лістапада 1932 года Уладзімір Жылка лёг у бальніцу. І помню, што чацвёртага сакавіка 1933 года я атрымаў ад Сасовіча ліст, у якім ён пісаў: «Сябры, падаю вам сумную вестку — няма сярод нас Уладзіміра Жылкі. Першага сакавіка а сёмай гадзіны вечара ён памёр. Пахаваў я яго на тутэйшых магілках трэцяга сакавіка а пятай гадзіне ў вечары…»*

Ж. памёр ад туберкулёзу. Сям’я Кіпеляў на працягу амаль дзесяці гадоў захоўвала знакаміты “Тэстамент” паэта.

Звонам па рэпрэсаваных беларускіх пісьменніках гучаць радкі верша «Помнік» М.Кавыля:

*Ішлі яны па вуліцы шырокай…*
*Вецер скавытаў у завугольлі.*
*Песьняры, трыбуны і прарокі,*
*За што, за што вас пакарала доля?*

*…Лёрд Байрон маўчаў на высьпе шэрай,*
*Ня ўзбудзіў паэт Рабіндраната.*
*Беларусі рэвалюцыянеры*
*На пакуты крочылі за краты.*

*Жылка йшоў з узьнятаю паходняй,*
*Малады Дубоўка, непакорны;*
*І Хадыка зь імі долю зродніў,*
*Маракоў, задуманы агорны.*

*Жах над краем крыльлі растапырваў,*
*І пісаў лісты сабаку Пушча…*
*А Купала ранай «харакіры»*
*Нас гукаў на помсту і на вушчунь.*

У 1953 А.Адамовіч артыкулам «Творы. Да 20-годдзя угодкаў смерці» адзначыў гадавіну смерці Ж. У тым жа годзе памёр і кат паэта, забойца шмат мільёнаў. Але гадавіну яго смерці адзначаюць, магчыма, толькі яго паплечнікі, тыя ж каты.

Рэабілітаваны Ж. быў судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Групавая справа Ж. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

88 **ПУШЧА Язэп** [сапр.: Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; інш. псеўданімы: Л.Кудзер; Язэп Кудзер; Лясун; Пушча; А.Пушча; Л.Трыер; 7(20).5.1902, в. Каралішчавічы Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Мінскі р-н — 14.9.1964, Мінск], паэт, крытык, перакладчык. З 1918 да жн. 1921 вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. У 1921—22 слухач курсаў беларусазнаўства Наркамасветы БССР. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1922 з публікацыі апавяданняў. У 1923 быў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк», пазней — «Узвышша». На працягу 1925—30 выдаў некалькі паэтычных кніг. У 1925—27 вучыўся на педагагічным ф-це БДУ. Увосень 1927 перавёўся ў Ленінградскі ун-т. На чацвёртым курсе пакінуў вучобу; вярнуўся ў Мінск, працаваў стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі».

З кнігі Уладзіміра Глыбіннага (Сядуры) «Паэта з Божай ласкі» (Нью-Ёрк. 1979):

*«Нашы сэрцы абураліся ўсім бачаным нялюдзкім паклёпніцтвам з боку Глыбоцкіх, Гародняў і Бэндаў у адрас лепшых творцаў мастацкага слова — Жылкі, Дубоўкі, Пушчы...*

*Ператварэнне Пушчавае гіроніі ў востра-сатырычнае дачыненне да савецкае рэчаіснасці выявілася ўжо найбольш выразна ў славутых «Лістох да сабакі», што былі надрукаваныя ўсяго адзін раз на балонках часопіса «Узвышша» (№5, 1927) і тады-ж адразу былі заатакаваныя бальшавіцкай і нацыянал-бальшавіцкай крытыкай у асобе Тодара Глыбоцкага, Алеся Гародні, Алеся Звонака, Змітрака Жылуновіча, Міколы Байкова, а пазней — С.Канакоціным, Лукашам Бэндаю, А.Сянькевічам і Будзінскім. Праз многія гады цыкль вершаў стаўся байкай усіх бальшавіцкіх языкоў, якія пры кожнай нагодзе згадвалі іх як узор нацыянал-дэмакратычнай контр-рэвалюцыйнай беларускай літаратуры. А сучасны старшыня Саюза Савецкіх Пісьменнікаў БССР Пятрусь Броўка не прамінуў нагоды, каб успомніць «Лісты да сабакі» ўжо і ў 1959 годзе на чацвертым з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. І гэта тады, калі ішла гаворка аб рэабілітацыі Язэпа Пушчы, але з агаворкай, што такія рэчы, як «Лісты да сабакі» і іншыя падобныя ім, не рэабілітуюцца і не даруюцца».*

Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 П. быў прыгавораны да 5 гадоў высылкі. Накіраваны ў Шадрынск на Урале. У 1937—41 жыў у Мурамскім р-не Уладзімірскай вобл., настаўнічаў. У гады вайны на фронце. Пасля зноў у Мурамскім р-не. Рэабілітаваны 30.1.1956. Вярнуўся з сям'ёй у Беларусь у 1958. Член СП Беларусі з 1958. Асобныя творы П. пакладзены на музыку. Да апошніх дзён жыў у Мінску. Пахаваны ў Каралішчавічах.

З успамінаў С.Грахоўскага:

*«Малагабарытная кватэрка* («хрушчоўка». — ***Л. М***.) *Пушчы была на пятым паверсе без ліфта. На званок Язэп Паўлавіч падняўся з канапкі, адчыніў… Быў ён бледны, стомлены, павольны ў рухах і ў гаворцы… Дыягназ яго хваробы быў няпэўны. Была слабасць, «скакаў» артэрыяльны ціск, кружылася галава, пабольвала сэрца…»* (Так і было. Мн., 1986).

89 **БАБАРЭКА Адам Антонавіч** [псеўданімы і крыптанімы: А.Б.; А.Ч.; А-м Б-а; А. Б-ка; А. Б-рэка; Адам Гаротны; Я. Каліна; Якім Каліна; Малады настаўнік; А.Рэка; Чырвоны; А.Чырвоны; Адам Чырвоны; А.Чэмер; 2(14).10.1899, в. Слабада-Кучынка Слуцкага пав., цяпер Капыльскі р-н — 10.10.1938, Паўночлаг], празаік, літаратуразнавец. Вучыўся ў Слуцкай школе і Мінскай духоўнай семінарыі (скончыў у 1918). Настаўнічаў на Случчыне. Удзельнік антыпольскага падполля і партызанскага руху. У 1920 арыштаваны польскімі ўладамі. У 1922—27 вучыўся ў БДУ на этнолага-лінгвістычным аддзяленні. Адначасова працаваў у рэдакцыі газ. «Савецкая Беларусь», пазней асістэнт кафэдры гісторыі БДУ. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурных аб’яднанняў «Маладняк» (1923) і «Узвышша» (1926). Публікаваўся з 1918. У 1925 выдаў кнігу «Апавяданні». Распрацоўваў метадалагічныя прынцыпы літаратуразнаўства і эстэтыкі.

З успамінаў Я.Скрыгана:

*«Адам Бабарэка. Ён вельмі добры і ад гэтай дабраты свае нават крыху меланхалічны. Ён любіць слухаць, трошачкі набок схіліўшы галаву, гаворыць ціхім, кволым голасам, як бы баючыся, каб не пакрыўдзіць цябе. І ў яго ў руках кіёк, але таўсцейшы, сукаваты. Ён крытык, маладнякоўскі Бялінскі, і відаць, што яго не баяцца, а паважаюць»* (Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990. С. 31—32).

Падчас арышту Б. працаваў выкладчыкам у БДУ**.** Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі, якую адбываў у Слабадскім Кіраўскай вобл. і ў Кіраве (Вятка). Працаваў бухгалтарам. Тэрмін ссылкі быў падоўжаны на 2 гады ў адміністрацыйным парадку. Паўторна арыштаваны 24.7.1937 у рамках сфабрыкаванай маштабнай акцыі па рэпрэсаванні беларусаў, сасланых АДПУ ў пачатку 1930-х г. Паводле пастановы тройкі па Кіраўскай вобл. ад 15.2.1938 атрымаў 10 гадоў ППК. Этапаваны у Паўночна-Чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957**.** Групавая справа Б. і іншых №20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

У Маскве жыве дачка Б. Алеся.

90 **КАСПЯРОВІЧ Мікалай Іванавіч** [9(22).5.1900, в. Ізабалёва Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 26.12.1937, Новасібірск, НКВД], крытык, літаратуразнавец, краязнавец,

лексікограф, мастацтвазнавец. У 1917 скончыў Ігуменскае вучылішча, здаў экзамены пры Бабруйскай мужчынскай гімназіі на званне народнага настаўніка (у 1917—21 працаваў у Ігуменскім пав.). Вучыўся ў МВПІ (1918—20). У 1921 скончыў Мінскі інстытут народнай асветы. У 1921—22 студэнт БДУ. Быў членам арганізацыі «Маладая Беларусь», партыі бел. эсэраў. З 1921 інструктар Наркамасветы БССР; з 1922 інспектар Слуцкага, з 1924 — Віцебскага аддзелаў народнай асветы. З 1926 навуковы сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, сакратар краязнаўчага час. «Наш край». Адзін з вядучых бел. краязнаўцаў. Аўтар значных лексікаграфічных прац «Беларуска-расійскі слоўнічак» (Віцебск, 1925), «Віцебскі краёвы слоўнік» (Віцебск, 1926—27). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ДПУ БССР 29.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове АДПУ СССР ад 10.4.1931 зняволены ў лагерах тэрмінам на 5 гадоў (Асінкі Кемераўскай вобл.). Пасля вызвалення ў 1935 жыў у Новасібірску, выкладаў рускую мову і літаратуру ў тэхнікуме сувязі. Паўторна арыштаваны 28.8.1937. Тройкай НКВД асуджаны за «антысавецкую дзейнасць». 17.12.1937 да ВМП. Расстраляны. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 19.9.1960, па другім — 14.2.1958. Групавая справа К. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

91 **КУПЦЭВІЧ Фелікс Піліпавіч** [псеўданім: Алесь Валожка; Алесь Валошка; 21.10.1900, Гродна — 31.3.1938, Мінусінск, ГУЛАГ], крытык, празаік, паэт, перакладчык. Падчас 1-й сусветнай вайны знаходзіўся ў бежанстве ў Калузе і Петраградзе. У 1918 вярнуўся ў Гродна. У 1920 разам з Чырвонай Арміяй пакінуў Гродна. З 1924 працаваў у статыстычным аддзеле ЦК КП(б)Б. У 1925 сакратар Крычаўскага райкама КП(б)Б; загадчык аддзела прапаганды Калінінскага акругкама КП(б)Б (цэнтр — Клімавічы). Друкавацца пачаў у 1920. У 1926 публікаваў апавяданні ў час. «Маладняк Калініншчыны». Даследаваў творчасць Ц.Гартнага, А.Дудара, М.Зарэцкага, К.Чорнага. У 1926 накіраваны на работу ў Латвію. Пасля вяртання ў 1927 нам. рэдактара газ. «Звязда». З 1929 вучыўся на літаратурным аддзяленні Інстытута чырвонай прафесуры ў Маскве. Па абвінавачанні ў бел. нацыянал-дэмакратызме ў 1930 выключаны з інстытута. Арыштаваны ДПУ БССР 29.8.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; вызвалены 4.10.1930. Працаваў у Маскве на заводзе. Зноў арыштаваны 9.4.1933 па справе «Беларускай народнай грамады». Асуджаны да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Краснаярскага краю. 23.11.1937 узяты ў лагеры пад варту; прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956.

92 **ЛАСТОЎСКІ Вацлаў Юстынавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Власт; Włast; Юры Верашчака; Ласт; В.Ласт.; Уласт; Арцём Музыка; Пагашчанін; Сваяк; Ю.Сулімірскі; Veritatis; Miles; Peregrinus; В.В...; В-...; В.Л.; В.Л-скі; В-т; Л.; Ю.В.; 27.10(8.11).1883, засценак Калеснікаў Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 23.1.1938, Саратаў,

НКВД], пісьменнік, грамадскі і паліт. дзеяч, гісторык, філолаг, літаратуразнавец. У 1902 уступіў у Польскую сацыялістычную партыю ў Літве. У 1904—05 слухаў лекцыі ў Пецярбургскім ун-це. З 1906 у Рызе, дзе далучыўся да мясцовага бел. руху. У 1906—08 член БСГ. З сак. 1909 у Вільні. У 1909—14 сакратар газ. „Наша ніва". Рэдагаваў газ. „Гоман" (1916—17). У час 1-й сусветнай вайны заставаўся ў Вільні; кіраваў „Беларускай кнігарняй" і Беларускім выдавецкім таварыствам. У сак. 1918 кааптаваны ў Раду БНР. У ліст. 1918 увайшоў у склад Літоўскай Тарыбы. У снеж. 1919 узначаліў Кабінет Міністраў Народнай рады БНР. Арыштаваны польскімі ўладамі 17.12.1919; вызвалены ў лют. 1920; пераехаў у Рыгу, потым у Коўна. Удзельнічаў у арганізацыі антыпольскага партызанскага руху. 20.4.1923 падаў у адстаўку з пасады прэм'ер-міністра БНР. У 1923—27 выдаваў час. „Крывіч". Пасля паліт. перавароту ў Літве (17.12.1926) у крас. 1927 пераехаў у БССР. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, загадчыкам кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце. З 1928 акадэмік БелАН. Быў неадменным сакратаром Інбелкульта. Вызвалены ад гэтай пасады 20.11.1929. 21.7.1930 арыштаваны ДПУ БССР па справе „Саюза вызвалення Беларусі". 6.12.1930 пазбаўлены звання акадэміка. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ссылкі ў Саратаў. Паўторна арыштаваны 20.8.1937. 23.1.1938 прыгавораны да ВМП (справа № 553618 знаходзіцца ў ФСБ РФ). Расстраляны. Па першым прысудзе рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988; па другім — 16.9.1958. Адноўлены ў званні акадэміка АНБ у 1990. Групавая справа Л. і інш. № 20951-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

93 **БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Радзівон Анатолевіч** [1884, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 10.10.1938, Чымкент Паўднёва-Казахстанскай вобл., НКВД], эканаміст, публіцыст. Сын А.В. і В.І. Бонч-Асмалоўскіх. У 1904—08 член партыі эсэраў, за што быў асуджаны на 3 гады зняволення. Спрабаваў уцячы праз падкоп; закаваны ў кайданы. Пасля вызвалення ў 1912—15 вучыўся на Пецярбургскіх вышэйшых сельскагаспадарчых курсах, затым працаваў у земскім харчовым камітэце. У 1916—17 у арміі. У 1917—21 у земскіх установах Ігумена (Чэрвеня) і Мінска. З 1923 сакратар, загадчык сельскагаспадарчай секцыі Дзяржплана БССР. Распрацоўваў праблемы аднаўлення народнай гаспадаркі, хутарызацыі, развіцця кааперацыі. Па гэтых тэмах выступаў у друку. Арыштаваны ДПУ БССР 5.7.1930 па справе «Беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі». У 1931 асуджаны да ВМП. Прысуд заменены на 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД. Вызвалены датэрмінова 1.3.1936. У 1938 працаваў эканамістам-планавіком у Чымкенце. Зноў арыштаваны НКВД у чэрв. 1938. Тройкай пры УНКВД па Паўднёва-Казахстанскай вобл. 10.10.1938 асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа Б.-А. № 9653-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Анатоль Восіпавіч** [10.7.1857, Віцебск — 23.9.1930, Масква], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст, мемуарыст. Са старажытнага шляхецкага роду герба «Бонча». Пасля Маскоўскага ліцэя ў 1875 паступіў у Інстытут інжынераў шляхоў зносін. У 1876 перайшоў на юрыдычны, а затым на прыродазнаўчы ф-т Пецярбургскага ун-та. Стаў прыхільнікам арганізацыі народнікаў «Зямля і воля», распаўсюджваў сярод студэнтаў нелегальныя выданні. У 1879 увайшоў у гурток «Маладыя землявольцы», які пасля расколу ў жн. 1879 «Зямлі і волі» далучыўся да арганізацыі «Чорны перадзел». У ліст. 1879 арыштаваны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях; пазбаўлены права вучыцца ў ВНУ і высланы ў бацькоўскі маёнтак Блонь Ігуменскага пав. (цяпер Пухавіцкі р-н). У 1880 садзейнічаў арганізацыі друкарні «Чорнага перадзелу». Арыштаваны ў крас. 1882, зняволены ў мінскай турме на працягу 5 месяцаў. Разам з жонкай Варварай і пры ўдзеле А.Я.Багдановіча арганізаваў у Блоні сялянскі гурток самаадукацыі. Арыштаваны ў крас. 1886 у Канатопе Чарнігаўскай губ., дзе быў па справах нелегальнай друкарні. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Рабочай партыі паліт. вызвалення Расіі (канец 1890-х г.). Арыштаваны ў 1901 разам з сынам Іванам і сасланы ва Усх. Сібір. У 1904 вярнуўся па амністыі і ўвайшоў у партыю эсэраў, у 1905 кааптаваны ў ЦК. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У крас. 1908 арыштаваны, у лют. 1910 аддадзены пад суд. У 1911 апраўданы, але ў 1912 зноў арыштаваны і прыгавораны да 8 месяцаў зняволення. У час 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі, працаваў у арганізацыях дапамогі бежанцам-беларусам. Дэлегат 1-га Усебеларускага з’езда (1917). З 1918 у Мінску, удзельнічаў у кааператыўным руху. У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі на нелегальным становішчы. З 1926 у Маскве, член Усесаюзнага таварыства паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Пісаў успаміны.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Глеб Анатолевіч** [22.10(3.11).1890, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 1.11.1943, Казань], антраполаг і археолаг. Доктар гістарычных навук. Сын А.В. і В.І. Бонч-Асмалоўскіх. Скончыў Мінскае камерцыйнае вучылішча і Петраградскі ун-т (1923). У 1-ю сусветную вайну на фронце. У 1924—30 працаваў у Ленінградскім ун-це. З 1930 супрацоўнік Геалагічнага інстытута АН СССР і Дзяржаўнай акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. У 1926—27 і 1934 разам з К.Палікарповічам праводзіў раскопкі палеалітычных паселішчаў на Гомельшчыне і Смаленшчыне. Удзельнік этнаграфічных і археалагічных экспедыцый на Каўказе і ў Крыме. Арыштаваны АДПУ ў 1934. Асуджаны на 3 гады лагераў. Пакаранне адбываў у Варкуце. Пасля вызвалення жыў пад Ленінградам. Рэабілітаваны ў 1942. Памёр у эвакуацыі ў Казані.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Іван Анатолевіч** [20.5.1881, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 16.9.1969], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Старэйшы сын А.В. і В.І. Бонч-Асмалоўскіх. Пад уплывам бацькоў з юнацтва далучыўся да рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1902 за арганізацыю ў Блоні нелегальнага сялянскага гуртка разам з бацькам сасланы ва Усх. Сібір (Усць-Каменагорск). Вызвалены ў 1904 па амністыі; выехаў на вучобу ў Цюрых. Перапраўляў у Расію нелегальную літаратуру. Восенню 1905 прыехаў у Расію, дзе быў адным з арганізатараў Усерасійскага сялянскага саюза. У 1-й і 2-й Дзяржаўнай думе сакратар фракцыі «Трудовая группа». Пра дзейнасць фракцыі выпусціў кнігу «Работы первой Государственной думы», якая адразу ж была канфіскавана ўладамі. У 1907 паступіў на юрыдычны ф-т Маскоўскага ун-та, але быў арыштаваны. У сак. 1912 прыгавораны Віленскай судовай палатай да 6 месяцаў зняволення. У савецкі перыяд працаваў служачым у дзяржаўных установах Мінска і Масквы.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКАЯ Варвара Іванаўна** [дзявочае: Вахоўская; 1855, Херсонская губ. — 1929, Масква], грамадска-паліт. дзяячка, публіцыстка, мемуарыстка. Яшчэ падчас вучобы ў гімназіі ў Камянец-Падольску далучылася да рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1872 вучылася ў Швейцарыі (Цюрых), дзе ўступіла ў бакунінскі гурток М.Сажына; наведвала гурток П.Лаўрова. У 1873 вярнулася ў Расію. Арыштоўвалася ў пачатку 1874 і 1875. Пасля 3-гадовага турэмнага зняволення прыгаворана да ссылкі («працэс 193-х»). Па хадайніцтве бацькі перададзена яму на парукі. Каб вызваліцца з-пад нагляду паліцыі, узяла фіктыўны (першапачаткова) шлюб з А.В.Бонч-Асмалоўскім, пасялілася ў маёнтку Блонь Ігуменскага пав. Уваходзіла ў народніцкую арганізацыю «Чорны перадзел», падтрымлівала сувязі з кіраўніцтвам «Народнай волі». У пачатку 1882 выехала ў Адэсу. Арыштавана ў сак. 1882, з восені 1882 жыла ў Блоні пад наглядам паліцыі. У сярэдзіне 1880-х г. разам з мужам арганізавала ў Блоні асяродак рэвалюцыйнай прапаганды, стварыла бібліятэку нелегальнай літаратуры. Арыштавана ў крас. 1908, у лют. 1910 разам з мужам аддадзена пад суд. Прыгаворана да 8-месячнага зняволення. Апошні год жыцця правяла ў Доме ветэранаў рэвалюцыі ў Маскве. Пакінула ўспаміны.

[94] **ГАЛАВІНСКІ Аляксандр Кузьміч** [кастр. 1886, в. Муравілле Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], грамадска-паліт. дзеяч, рэдактар. Верагодна, брат Антона Галавінскага. У 1912 скончыў Кіеўскі політэхнічны інстытут. Падтрымліваў кантакты з эсэрамі; арыштоўваўся за ўдзел у студэнцкім руху. З 1918 член прэзідыума Кіеўскай беларускай рады, прадстаўнік урада БНР ва Украіне. З канца 1918 у Гродне, дарадца МЗС БНР. У 1919 затрыманы румынскімі ўладамі. З 1921 у Літве, старшыня Беларускай нацыянальнай сувязі, замежнага ЦК БПС-Р (у Каўнасе). Выдаваў час. «Покліч». Удзельнічаў у ліквідацыі ўрада БНР на

Берлінскай канферэнцыі ў кастр. 1925. У 1927 арыштаваны літоўскімі ўладамі. Пасля вызвалення пераехаў у СССР. Працаваў у ВСНГ БССР. Падчас арышту загадчык секцыі (аддзела) праектнага бюро Інстытута прамысловасці. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 18.7.1930 у Мінску па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.6.1931 як «член контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Ніжні Ноўгарад. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Г. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[95] **ЖАЎРЫД Павел Якаўлевіч** [1(13).6.1889, в. Цецяроўка Слуцкага пав. Мінскай губ. — 14.5.1939, пасёлак Княж-Пагост, Комі АССР, ГУЛАГ], грамадска-паліт. дзеяч, журналіст. Скончыў Слуцкую гімназію (1909); вучыўся на юрыдычным ф-це Варшаўскага ун-та. У 1916 мабілізаваны ў войска; у 1917 скончыў Віленскае ваеннае вучылішча, эвакуіраванае ў Палтаву. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда 1917. Працаваў юрысконсультам у Слуцку. У 1919 арыштаваны ЧК, абвінавачаны ў дапамозе Дзянікіну. Вызвалены, у ліст. 1919 вярнуўся ў Слуцк. У канцы 1920 Найвышэйшай радай БНР прызначаны камісарам Случчыны, уваходзіў у склад Беларускай рады Случчыны. Адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання 1920. У 1921 у Вільні; потым вярнуўся на Случчыну. У 1920-х г. працаваў на розных гаспадарчых пасадах у Мінску і Мар'інай Горцы; пасля ў Інбелкульце і рэдакцыі газ. «Звязда». Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Вызвалены 21.6.1934. Жыў у Сарапуле Удмурцкай АССР. Зноў арыштаваны ў 1937 і асуджаны да 10 гадоў ППК. Пасля другога арышту і прысуду, верагодна, этапаваны ў Паўночна-Чыгуначны канцлагер НКВД Комі АССР. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Ж. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[96] **ТРАМПОВІЧ Павел Віктаравіч** [1(13).6.1889, Пскоў — 3.1.1956, Кіеў], медык, грамадскі дзеяч, публіцыст. З сям'і выхадцаў з Беларусі. З 1908 вучыўся ў Псіханеўралагічным інстытуце Пецярбургскага ун-та. Зблізіўся з эсэрамі; браў удзел у палітычных дэманстрацыях, за што неаднаразова затрымліваўся. У 1910 эмігрыраваў у Германію. Вучыўся на медыцынскім ф-це Баварскага ун-та. З-за цяжкіх матэрыяльных умоў мусіў перапыніць вучобу. У 1912 залічаны ў Кіеўскі ун-т, які скончыў у 1917. У 1918 член Народнага сакратарыята Беларусі, Рады БНР. Жыў у Растове-на-Доне, Харкаве. З 1925 асістэнт, дацэнт, загадчык кафедры медыцынскага ф-та БДУ. Навуковы сакратар медыцынскай секцыі Інбелкульта (1925), нам. старшыні камісіі прыроды і прадукцыйных сіл Беларусі Інбелкульта (1928).

Публікацыя ў 1925 артыкула Т. “Шляхі беларускай інтэлігенцыі” выклікала рэзкую рэакцыю ЦК КП(б)Б: адбылося пасяджэнне Бюро ЦК; быў зняты з пасады рэдактар “Савецкай Беларусі” І.Шыпіла і абноўлены склад рэдакцыі газеты. 26.10.1925 у “Савецкай Беларусі” надрукаваны артыкул “Далейшыя шляхі беларускай інтэлігенцыі (Адказ рэдакцыі т. Трамповічу)”, дзе былі пералічаны памылкі аўтара, падкрэслівалася немагчымасць “яднання на грунце нацыянальнай справы”, бо адзіны правільны падыход да ўсіх пытанняў — класавы. Падчас арышту дацэнт медыцынскага ф-та БДУ. Арыштаваны ДПУ БССР 9.7.1930 па справе “Саюза вызвалення Беларусі” ў Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у Астрахані. Пасля вызвалення ў 1945—50 працаваў хірургам у Магілёў-Падольскім Вінніцкай вобл., потым у Кіеве. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988. Групавая справа Т. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[97] **ЗАЯЦ Леанард Іосіфавіч** [сак. 1890, в. Даўгінава Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 23.9.1935, Уфа, НКВД], паліт. дзеяч, публіцыст, мемуарыст. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Працаваў у падатковых і крэдытных установах: у 1914—16 у Вільні, у 1916—17 у Мінску. Член партыі бел. эсэраў. На 1-м Усебеларускім з’ездзе 1917 абраны членам Рады. З лютага 1918 у складзе Народнага сакратарыята БНР. Пасля расколу Рады БНР 13.12.1919 загадчык канцылярыі і дзяржаўны сакратар у Народнай Радзе БНР. Аўтар публіцыстычных артыкулаў і ўспамінаў пра дзеячаў бел. культуры. Удзельнік 2-й Усебеларускай канферэнцыі 1925 у Берліне, дзе прызнаў Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. З 1925 у БССР, кансультант-інспектар бюджэтнага ўпраўлення наркамата фінансаў БССР. Падпаў пад «чыстку апарату», звольнены. Арыштаваны 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў высылкі ва Уфу. Паўторна арыштаваны НКВД 25.7.1935. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ў 10.6.1988.

[98] **ПРАКУЛЕВІЧ Уладзімір Міхайлавіч** [снеж. 1887, в. Красналукі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. — 20.8.1938, Свярдлоўская вобл., НКВД], паліт. дзеяч, публіцыст, журналіст, юрыст. У 1912 скончыў Маскоўскі ун-т. Падчас вучобы быў сакратаром марксісцкага час. “Возрождение”, загадчыкам аддзела хронікі ў газ. “Копейка”. З 1912 працаваў у Мінскай казённай палаце, з 1914 у Мінскім акруговым судзе. З пачаткам 1-й сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Маскву. Вярнуўся ў Мінск у ліп. 1917. У 1918 абраны старшынёй Слуцкага з’езда міравых суддзяў. У 1919—20 міравы суддзя мяст. Вызна (цяпер Чырвоная Слабада). Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну 1920. У 1921 выехаў у

Вільню. У 1922 у ліку 33 беларускіх дзеячаў высланы польскімі ўладамі з Вільні; пераехаў у Коўна. Са жн. 1923 дзяржаўны сакратар урада БНР на чале з А.Цвікевічам, разам з якім пераехаў у Прагу. З мая 1926 жыў у БССР. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР; быў сакратаром бібліяграфічнай камісіі Інбелкульта і БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1932 сасланы на 5 гадоў у Перм. Паўторна арыштаваны НКВД Свярдлоўскай вобл. за «антысавецкую агітацыю» і «шкодніцтва». 10.7.1938 прыгавораны да ВМП. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988; па другім — 26.4.1989. Справа П. і інш. №20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Таксама ў 1938 быў арыштаваны і расстраляны малодшы брат П. Вячаслаў.

99 **ЗАБЕЛА Тодар Іванавіч** [крыптанім: З.Т.; сак. 1896, в. Чабусы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — пасля 27.7.1935, Елабуга, Татарская АССР], гісторык. Верагодна, брат Карнея Забелы. У 1920 настаўнічаў на вёсцы; з 1921 у Мінску. У 1925 скончыў БДУ. У 1925—28 вучыўся ў аспірантуры БДУ пад кіраўніцтвам У.Пічэты. З 1928 навуковы супрацоўнік Інбелкульта, потым БелАН. З 1929 старшыня культурна-гістарычнай секцыі Магілёўскага таварыства БелАН. Даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі, гарадоў Беларусі 16—18 ст. Арыштаваны ДПУ БССР 24.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Елабугу. Вызвалены 27.7.1935. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа З. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

100 **МЯЛЕШКА Міхась (Міхаіл) Вінцэнтавіч** [27.4(9.5).1892, в. Скары Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 19.4.1941, Самара], гісторык, пісьменнік, публіцыст. З 1911 працаваў на фабрыках у Пецярбургу. Удзельнічаў у гуртку Б.Эпімах-Шыпілы. У 1913 апублікаваў першае апавяданне „Родныя абразкі" ў альманаху „Маладая Беларусь". У 1914—18 у расійскай арміі. З 1917 член БСГ. З 1918 працаваў у Віцебскім аддзяленні Белнацкама. У 1918—21 вучыўся ў Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Працаваў у Віцебскім археалагічным інстытуце і губернскім архіве. У 1920—21 служыў у Віцебскім губернскім ваенкамаце. З ліст. 1922 у Мінску. Працаваў у Цэнтрархіве БССР; з 1927 у Цэнтральным архіўным упраўленні БССР. З 1923 член Інбелкульта. У 1923—24 чытаў лекцыі па этнаграфіі ў Віцебскім педінстытуце. У 1926—28 выкладаў гісторыю Беларусі ў Камуністычным ун-це Беларусі. Даследаваў праблемы прыгоннага права, падзеі 1863—64 і 1905—07 у Беларусі. Падчас арышту нам. загадчыка Цэнтральнага архіва БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай калегіі АДПУ

ад 10.4.1931 сасланы ў Самару на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны 16.2.1938. Вызвалены з-пад следства 4.3.1940. Рэабілітаваны па першым прыгаворы ў 1957, па другім — у 1962. Групавая справа М. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

101 **ЦВІКЕВІЧ Аляксандр Іванавіч** [псеўд.: А.Галынец, А.Гвозд; ліпень 1888, г. Брэст — 30.12.1937, г. Мінск, НКВД], гісторык, філосаф, публіцыст, юрыст, грамадскі і паліт. дзеяч. У 1912 скончыў юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Працаваў прысяжным павераным у гг. Пружаны і Брэст. Падчас 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Туле, дзе ў 1916 увайшоў у склад Камітэта дапамогі ахвярам вайны. У 1917 у Маскве стаў адным з заснавальнікаў Беларускай народнай грамады. На 1-м Усебеларускім з'ездзе у 1917 рабіў даклад па бежанскім пытанні. Вясною 1918 арганізаваў у Кіеве Беларускую гандлёвую палату і наладзіў выпуск газ. “Белорусское эхо”. Там жа выдаў “Кароткі нарыс узнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі”. Ва ўрадзе БНР ковенскага перыяду (1920 — лета 1923) быў міністрам замежных спраў. Апублікаваў шэраг артыкулаў і эсэ ў час. “Беларускі сцяг” (Коўна). У эміграцыі ў г. Прага (лета 1923—25) прэм'ер-міністр БНР. Пераехаў у Мінск у пачатку снежня 1925 пасля Берлінскай канферэнцыі беларускіх прадстаўнікоў, якая прыняла рашэнне спыніць дзейнасць урада БНР. Працаваў у Наркамаце фінансаў; сакратаром Інбелкульта; вучоным старшынёй Камісіі Інбелкульта па вывучэнні адукацыі ў Беларусі; з 1929 у Інстытуце гісторыі БелАН. Вывучаў праблемы фарміравання грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі, станаўленне беларускай ідэі. Аўтар прац “Беларусь: Палітычны нарыс” (1919; 2-е выд. 1990), “Адраджэнне Беларусі і Польшча” (1921), “Погляд П.Бяссонава на беларускую справу” (1922). Найбольш вядомая яго праца — “Западно-руссизм” (1929). Арыштаваны 14.7.1930 па справе “Саюза вызвалення Беларусі”. Па пастанове калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» высланы ў Перм тэрмінам на 5 гадоў. 14.7.1935 (?) камісіяй НКВД і пракуратуры СССР прыгавораны да ВМП. Па першым прыгаворы рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 10.6.1988, па другім — 31.5.1989.

102 **ГАРЭЦКІ Гаўрыла Іванавіч** [псеўданімы: Г.Гурык; Габрыель; 28.3(10.4).1900, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Багацькаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. — 20.11.1988, Мінск], геолаг, географ, эканаміст, статыстык, дэмограф, публіцыст, грамадскі дзеяч. Брат М.Гарэцкага. У 1917—19 супрацоўнічаў з Беларускай секцыяй студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Адзін з ініцыятараў і аўтараў выдання зборніка «Маладая Беларусь» (1922). Арыштаваны АДПУ у вер. 1922 у Маскве; вызвалены праз месяц. У 1924 скончыў Пятроўскую (Цімiразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію. З 1925 дацэнт БСГА; з 1927 дырэктар Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі

пры СНК БССР. З 1928 акадэмік БелАН. Распрацоўваў шляхі рэалізацыі папулярнай у 1920-я г. ў БССР канцэпцыі «Беларусь — «чырвоная» Данія». Аўтар прац па эканоміцы, эканамічнай геаграфіі, фальклоры. Арыштаваны ДПУ БССР 24.7.1930 па справе «Працоўнай сялянскай партыі» ў Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 37, кв. 5. Пазбаўлены звання акадэміка 6.12.1930. Асуджаны 6.6.1931 да 10 гадоў ППК як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да ВМП. Прыгавор заменены на 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэла-Фінскай АССР. Вызвалены датэрмінова 5.10.1934. Працаваў у геалагічных экспедыцыях Гідрапраекта СССР. Арыштоўваўся ў 1937 і 1938. У 1946 стаў доктарам геолага-мінералагічных навук. Рэабілітаваны 22.4.1958; адноўлены ў званні акадэміка ў ліп. 1965. З 1969 да 1985 загадчык аддзела (з 1977 лабараторыі) геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. З 1972 заслужаны дзеяч навукі БССР. Яго імем названы многія віды выкапнёвых раслін і жывёл. У 1997 створаны Міжнародны фонд братоў Гарэцкіх. Асабовая справа Г. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

103 **АЗБУКІН Мікалай Васілевіч** [1894, Бабруйск Мінскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], географ, краязнавец, публіцыст, дзеяч бел. нацыянальнага руху. З сям'і патомных дваранаў. У 1912—17 вучыўся ў Пецярбургскім ун-це. Пасля сканчэння вучобы выкладчык геаграфіі і прыродазнаўства ў Бабруйскай гімназіі. Далучыўся да бел. нацыянальнага руху, член камітэта Беларускага культурна-асветнага таварыства ў Бабруйску. Падчас польскай акупацыі ў 1919 арыштаваны. З восені 1920 дырэктар бабруйскай школы імя Я.Купалы. Увесну 1921 арыштаваны ўжо савецкімі ўладамі па падазрэнні ў прыналежнасці да партыі бел. эсэраў. З 1921 працаваў у Мінску: у Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, у Інстытуце беларускай культуры, з 1929 на кафедры геаграфіі БелАН. У кнізе «Географія Эўропы» трактаваў Беларусь як самадастатковую краіну. Адзін з галоўных арганізатараў краязнаўчага руху ў Беларусі, сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства, першы рэдактар часопіса «Наш край». У пачатку 1928 у БССР існавала ўжо 301 краязнаўчая арганізацыя, якія аб'ядноўвалі 10 510 чалавек. Імклівае пашырэнне краязнаўчага руху, глыбока патрыятычнага па сутнасці, выклікала занепакоенасць камуністычных уладаў, і на краязнаўцаў абрынуліся рэпрэсіі. 21.7.1930 А. быў арыштаваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі» і па пастанове калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Налінск на 5 гадоў. Паводле некаторых звесткак, зноў арыштаваны ў 1937. Па сведчанні Ю.Бібіча, расстраляны за спробу перайсці мяжу на поўдні СССР. Рэабілітаваны 15.11.1957 Вярхоўным судом БССР.

14.1.1931 у Бабруйску арыштаваны інжынер Гарсавета **Азбукін Васіль Мікалаевіч** (н. у 1857 у Бранску, Расія, у рускай дваранскай сям'і; атрымаў вышэйшую адукацыю), бацька М. *Азбукіна.* Абвінавачваўся ў

“правядзенні антысавецкай дзейнасці”. 4.7.1931 групавая справа А. і інш. (№ 9931; па ёй праходзіла 20 чалавек; захоўваецца ва УКДБ Магілёўскай вобл.) спынена. Вызвалены 4.7.1931. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 9.6.1989 пастановай пракурора Магілёўскай вобл.

104 **КІСЛЯКОЎ Іван Андрэевіч** [1895, мяст. Бобр Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 1955, Амутнінск Кіраўскай вобл., Расія], вучоны-аграрнік, грамадскі дзеяч, публіцыст. Паводле партыйнай прыналежнасці — эсэр. У снеж. 1918 — сак. 1919 настаўнічаў у мяст. Бобр, пасля працаваў аграномам у Сенненскім пав. У 1923 скончыў Маскоўскі межавы інстытут. З чэрв. 1923 у Наркамаце земляробства БССР, адначасова ў Інбелкульце. З 1925 дацэнт, з 1929 прафесар Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Старшыня Навуковага таварыства па вывучэнні Беларусі (Горкі). Распрацоўваў пытанні аграрнай палітыкі ў БССР, быў прыхільнікам хутарской і аднаасобнай формы вядзення сельскай гаспадаркі. Арыштаваны 27.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны на ст. Амутная (цяпер Кіраўская вобл., Расія). Вызвалены 1.9.1935. Жыў у Паўлаве-на-Ацэ, Вязьме. У 1941 мабілізаваны ў армію; праз год камісаваны з-за хваробы. Жыў у Амутнінску. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Групавая справа К. і іншых № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

105 **КАРАВАЙЧЫК Павел Гіляравіч (Іларыёнавіч)** [псеўданімы і крыптанімы: П.Каравай; П.Любецкі; Павал Любецкі; Павел Любэцкі; Павел Любецкі; Paulus; П.К.; П.Л.; К.П.; Л.П.; 3(15).4.1896 ці 3(15).6.1896, мяст. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 21.11.1937, Чэбаксары, Чувашыя], крытык, публіцыст, паэт, медык. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудку. У 1911 паступіў у Мінскую гімназію, скончыў яе з залатым медалём у 1916 у Маскве, куды гімназія была эвакуіравана падчас 1-й сусветнай вайны. Вярнуўся ў Мінск, супрацоўнічаў з Таварыствам дапамогі ахвярам вайны. У 1917 — у рэдакцыі газ. «Вольная Беларусь», дзе пачаў друкаваць свае творы. Паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Петраградзе. Супрацоўнічаў з Белнацкамам і час. «Чырвоны шлях», з Наркаматам нацыянальнасцей РСФСР. На пачатку 1919 загадваў выдавецкім аддзелам Белнацкама і рэдагаваў газ. «Дзянніца». У 1919 перавёўся на 3 курс медыцынскага ф-та Маскоўскага ун-та, але быў прызваны ў Чырвоную армію, у якой служыў да 1921. У 1921—23 чытаў лекцыі па бел. літаратуры на настаўніцкіх курсах у Бабруйску і Мінску. З 1922 у Мінску, паступіў на 3 курс медыцынскага ф-та БДУ, які скончыў у 1925. З восені 1922 да канца 1926 загадчык аддзела замежнага друку газ. «Савецкая Беларусь». У крас. 1926 удзельнічаў у заснаванні Медыцынскай секцыі Інбелкульта; член-карэспандэнт Інбелкульта з 1926. Аўтар

даследавання бел. фальклору, сааўтар падручніка «Выпісы з беларускае літаратуры» (Ч. 1. Мн., 1926). У 1926—30 працаваў у клініцы нервовых хвароб медыцынскага ф-та БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны АДПУ 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны да 5 гадоў высылкі ў Чэбаксары Чувашскай АССР. 29.7.1937 зноў арыштаваны і 16.11.1937 тройкай НКВД прыгавораны да ВМП. Рэабілітаваны па першай справе (групавая, № 20951-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) 15.11.1957, па другой у 1959.

106 **КРАСКОЎСКІ Іван Ігнатавіч** [псеўданім: Кій; 24.6.1880, в. Дубічы Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 23.8.1955, Браціслава, Славакія], паліт. дзеяч, публіцыст, педагог. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Працаваў у Кіеве ў Зямельным саюзе. Член БСГ; БСДП. У верас. 1917 на з’ездзе народаў у Кіеве прадстаўляў бел. нацыянальныя арганізацыі. Арыштаваны бальшавікамі 18.12.1917. У 1918 уваходзіў у склад урада Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР); быў паслом УНР у Грузіі. У 1920 старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. З 1922 дырэктар Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі (Даўгаўпілс, Латвія). З лета 1925 у Мінску, працаваў у БДУ, Інбелкульце (потым БелАН). Старшыня сацыяльна-культурнай секцыі і член прэзідыума Дзяржплана БССР. З 1930 у Дзяржплане СССР. У перыёдыцы быў змешчаны анонс яго кнігі «Гісторыя Беларусі». Арыштаваны АДПУ СССР 8.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Этапаваны для следства ў Мінск. Пастановай калегіі АДПУ ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Самару. Зноў арыштаваны НКВД СССР 4.11.1937. Рашэннем ад 4.3.1940 тэрмін папярэдняга зняволення залічаны ў тэрмін адбывання пакарання; вызвалены 19.3.1940. Пасля вайны выехаў у Чэхаславакію да дачкі, якая працавала ў музеі ў Браціславе. Па першай справе рэабілітаваны 10.6.1988, па другой Куйбышаўскім абл. судом 22.5.1962.

Верагодна, былі рэпрэсаваны і сваякі К.

107 **САК Аляксандр Мікалаевіч** [14.8.1890, в. Сёгда Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Райцаўскага сельсавета Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. — 27.8.1937, Мінск, унутраная турма НКВД], святар, паэт. З бел. сялянскай сям’і. Першы муж Ядвігі Бяганскай. Скончыў Пінскую гімназію. Вучыўся ў Пецярбургу ў Інстытуце лясной гаспадаркі. У 1913 пасля трэцяга курса спыніў вучобу і паступіў у Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Санкт-Пецярбургу, якую скончыў у 1917. Пасвячоны ў святары. Душпастырскую дзейнасць распачаў у касцёле Спаслання Святога Духа ў в. Фашчаўка, цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл. Удзельнік з’езда бел. каталіцкіх святароў у Мінску (24—25.5.1917). З 19.12.1918 жыў у мяст. Сянно (цяпер райцэнтр Віцебскай вобл.). У 1919—21 пробашч у Свяцілавіцкім касцёле і адміністратар у Шклове. Духоўныя ўлады Магілёўскай архідыяцэзіі ў 1922 і 1924 мелі намер накіраваць С. для службы ў Петраград, але ён папрасіў

пакінуць яго ў Беларусі. З вясны 1924 жыў у Мінску, быў добрым знаёмцам Я.Купалы, часта гасцяваў у паэта. Да гэтага перыяду адносяцца многія лірычныя вершы, паэмы і вершаваныя драматургічныя творы С. Служыў святаром на Міншчыне і Мазыршчыне, у Койданаве і Хойніках. Шырока выкарыстоўваў бел. мову ў душпастырскай дзейнасці. Пераследаваўся савецкімі ўладамі. 17.12.1929 змушаны публічна адмовіцца ад святарскага сану. Працаваў стыльрэдактарам у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Арыштаваны АДПУ 24.7.1930 (у адну ноч з літаратуразнаўцам Адамам Бабарэкам, вучоным Гаўрылам Гарэцкім, гісторыкам Тодарам Забелам, рэдактарам Канстанцінам Ламакам) па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны разам з шэрагам дзеячаў бел. культуры і грамадства 10.4.1931 да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэльскай АССР. Вызвалены ў 1934. Вярнуўся ў Мінск. Працаваў прарабам у трэсце "Белбудматэрыялы". Зноў арыштаваны 11.4.1937. Асуджаны 25.8.1937 (разам з шэрагам праваслаўных і рымска-каталіцкіх святароў, старастам і актыўнымі прыхаджанамі царквы) тройкай НКВД як "член ПАВ" да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 26.10.1962. Асабовая справа С. № 17935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

108 **СКАНДРАКОЎ Сяргей Вячаслававіч (Васілевіч)** [9(21).10.1876, Мглін Чарнігаўскай губ., цяпер Бранская вобл., Расія — 2.8.1953, Караганда], журналіст, вучоны-аграном, краязнавец. Вучыўся ў Слуцкай і Мінскай гімназіях. У 1906 скончыў Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут. Удзельнічаў у рабоце Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Публікаваўся ў газ. "Минский листок". Быў знаёмы з Я.Купалам і Я.Коласам. Перапісваўся з У.Караленкам. У час рэвалюцыі 1905—07 член Мінскага камітэта Беларускай сацыялістычнай грамады. Рэдактар-выдавец газ. "Голос Белоруссии": першы нумар выйшаў 1.1.1906, і адразу газета была забаронена ўладамі. Адзін з заснавальнікаў кніжнага таварыства "Мінчук". З 1911 дырэктар Чырвонаградскай доследнай станцыі ў Палтаўскай губ. З 1921 дырэктар Беларускай агранамічнай станцыі ў Банцараўшчыне пад Мінскам. Выкладаў у БДУ і БСГА; працаваў у Беларускім НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. У 1923—25 вучоны сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце. Аўтар навукова-папулярных нарысаў па аграноміі, артыкулаў па краязнаўстве. Збярог жывапісныя творы К.Каганца "Тып беларуса" і "Зімовы пейзаж". Падчас арышту прафесар Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. Арыштаваны ДПУ БССР 6.7.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Яраслаўлі. Вызвалены 15.11.1934. Працаваў на навуковых і педагагічных пасадах у Яраслаўлі, Мічурынску, Душанбэ, Алма-Аце, Карагандзе. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа С. і іншых № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

109 **ЦВІКЕВІЧ Іван Іванавіч** [псеўд.: І.Трызна, І.Яцьвяг; ліст. 1891 (паводле іншых звестак, нарадзіўся ў ліст. 1894), Брэст — 1.7.1938, Алтайскі край ?], медык, публіцыст, рэдактар. У 1914 скончыў Варшаўскі ун-т. У 1-ю сусветную вайну служыў у арміі. У 1917—21 у Чырвонай арміі — дывізіённы ўрач. У 1920 дывізія, у якой служыў Ц., была інтэрніравана ў Германіі. У 1921—23 працаваў у пасольстве РСФСР у Германіі. У 1924 пераехаў у Мінск. Працаваў загадчыкам аддзела ў Белдзяржвыдавецтве. Займаўся перакладамі мастацкіх твораў. Член калегіі Наркамата аховы здароўя БССР і старшыня Медыцынскай секцыі Інбелкульта. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 18.7.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Асуджаны 10.4.1931 за «шкодніцтва і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Нарымскі канцлагер АДПУ, з'яўляўся начальнікам санчасці. Затым пасяліўся ва Усць-Каменску (Алтайскі край). Паўторна арыштаваны 22.8.1937; прыгавораны 1.7.1938 да ВМП. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1960. Асабовая справа Ц. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

110 **ШЧАКАЦІХІН Мікола** [Мікалай Мікалаевіч; 1(13).10.1896, Масква — 1.4.1940, Белебей Башкірскай АССР], мастацтвазнавец, гісторык і тэарэтык мастацтва, педагог. У 1914—18 вучыўся ў Маскоўскім ун-це. З 1922 у Мінску. У 1922—24 працаваў у БДУ, дацэнт; у 1925—28 — у Інбелкульце (стварыў пры Інбелкульце Камісію па гісторыі мастацтва), у 1929—30 — у БелАН. Адзін з заснавальнікаў бел. мастацтвазнаўства; вывучаў старажытныя фрэскі, абразы, манументальнае дойлідства 11—18 ст., гравюры Ф.Скарыны, творчасць мастакоў В.Вашчанкі, М.Філіповіча, В.Волкава, А.Грубэ, І.Ахрэмчыка, У.Кудрэвіча. Упершыню ў бел. мастацтвазнаўстве выпрацаваў навуковую канцэпцыю гісторыі бел. мастацтва, зрабіў яго перыядызацыю. У 1928 выдаў т. 1 сваёй галоўнай працы "Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва". Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН, дацэнт БДУ, гадаваў дваіх дзяцей. 18.7.1930 арыштаваны ДПУ БССР па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Высланы на 5 гадоў 10.4.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» ў Белебей. Працаваў статыстыкам, планавіком у кааперацыі, выкладаў у сярэдніх навучальных установах. Нейкі час жыў у в. Колтаўцы (30 км ад Белебея). Працягваў займацца навуковай дзейнасцю, аб выніках якой пісаў у лістах да акадэміка У.Пічэты. Але на навуковыя пасады яму не дазволілі вярнуцца. Рэгулярна перад рэвалюцыйнымі святамі Ш. ў «прафілактычных» мэтах арыштоўвалі. У турмах захварэў на туберкулёз, ад якога і памёр. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.1.1956. Групавая справа Ш. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

111 **БАГДАНОВІЧ Генадзь Васілевіч** [31.8.1885, в. Мікольскае Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер в. Луначарскае Верхнядзвінскага р-

на Віцебскай вобл. — 15.1.1938 (?)], педагог, рэдактар. Брат Анатоля Багдановіча. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1907), Яраслаўскі юрыдычны ліцэй (1911), Віленскі настаўніцкі інстытут. З 1911 настаўнічаў у Вілейцы і Кастрамской губ. У 1916 — лют. 1919 працаваў у Міністэрстве (з кастр. 1917 Народны камісарыят) поштаў і тэлеграфаў у Маскве. Далучыўся да бел. нацыянальнага руху. У 1917 ад БСГ увайшоў у Асобую нараду па падрыхтоўцы праекта закона аб выбарах ва Устаноўчы сход Расіі. У пачатку 1918 загадчык юрыдычнага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Петраградзе. З 1919 настаўнік у Дрысе, пазней — у Віленскай беларускай гімназіі. Рэдагаваў час. «Незалежная думка». У 1924 пераехаў у СССР; выкладаў у Віцебскіх педагагічным тэхнікуме і ветэрынарным інстытуце. Арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі» 15.7.1930; калегіяй АДПУ 10.4.1931 асуджаны да 5 гадоў ссылкі, якую адбываў у Слабадскім Кіраўскай вобл. Падлягаў пільнаму нагляду АДПУ СССР, трактаваўся як «неразззброены нацдэм». Паўторна арыштаваны 25.7.1937. Загінуў у зняволенні. Абставіны смерці невядомыя. Рэабілітаваны 15.11.1957.

[112] **ГУРСКІ Міхась Адамавіч** [9(21).11.1890, в. Салтанава, цяпер Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл. — пасля 1960, Мінск ?], тэатральны дзеяч, рэдактар. У 1908 скончыў Гомельскае гарадское вучылішча. У тым жа годзе пры Гомельскай гімназіі вытрымаў экзамен на званне народнага настаўніка. У 1910—13 вучыўся ў Віленскім ун-це. У 1914—18 служыў у рускай арміі. Затым настаўнічаў. Са снеж. 1922 па чэрв. 1926 дырэктар БДТ-1. У 1929—30 працаваў у Акадэміі навук БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ДПУ БССР 23.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі ДПУ БССР ад 10.4.1931 высланы за «антысавецкую дзейнасць» на 5 гадоў у Мамлыж (цяпер Вяцкая вобл., Расія). Рэабілітаваны 19.9.1960. Групавая справа Г. і інш. № 20951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[113] **КУНІЦКІ Сымон Фаміч** [крыптанім: С.К.; 28.2.1902, в. Гарані Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 14.10.1940, Калыма], крытык, літаратуразнавец. У 1925—28 вучыўся на рабфаку БДУ. Першае апавяданне надрукаваў у 1928 (газ. «Чырвоная змена»). У 1929 выйшаў яго першы крытычны артыкул. У 1931 скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Вучыўся разам з М.Шалаем, А.Сідарэнкам, Я.Скрыганам.

З успамінаў Я.Скрыгана (Незабыўныя рысы друга. ЛіМ. 1962. 11 снеж.):

*«Па нейкай нагодзе ў Доме пісьменніка быў наладжаны ўрачысты банкет. Я сядзеў поруч з Сымонам Куніцкім. Недалёка ад нас, размахваючы пляшкаю перад тым, як наліць паднятую чарку, гаварыў прамову Лукаш Бэндэ. Ад яго слоў, як заўсёды, халадзела ў сэрцы.*

*Я адвярнуўся на Куніцкага:*

*Нешта ты мала, Сымоне, пачаў пісаць.*

*Хто яго ведае — мабыць, я перавучыўся. Ці недавучыўся. Не ведаю, як трэба пісаць. Ты бачыш, як у яго проста выходзіць, — кіўнуў ён на Бэндэ. А я ж люблю літаратуру».*

У 1931 К. быў залічаны як крытык у БелАПП ад Мінскай філіі. У 1932—36 працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Арыштаваны (магчыма, за артыкул «Сталін у беларускай паэзіі», што быў надрукаваны ў кастрычніку 1936 у «ЛіМе» і ў якім была наступная фраза: “Цяжкае, прыгнечанае жыццё беларускаму народу забяспечыў і даў тав. Сталін”) 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Бухарына, д. 10, кв. 2. Асуджаны тройкай НКВД 1.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай групоўцы і за антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў ППК. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.12.1954. Асабовая справа К. № 9936-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

114 **УЛАШЧЫК Мікола (Мікалай) Мікалаевіч** [1(14).2.1906, в. Віцкаўшчына Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 14.11.1986, Масква], гісторык, археограф, празаік, перакладчык, мемуарыст. У 1924—30 працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і сакратаром Кніжнай палаты БССР. У 1929 скончыў БДУ. Арыштаваны 16.6.1930 па справе “Саюза вызвалення Беларусі”. 10.4.1931 высланы на 5 гадоў у Налінск Вяцкай вобл. Зноў арыштаваны у ліп. 1932 і 10.6.1933 асуджаны паўторна; этапаваны ў Марыінскі канцлагер АДПУ Новасібірскай вобл., потым у пас. Суслава Кемераўскай вобл. Вызвалены вясной 1935 без права вяртання ў Беларусь. Працаваў выкладчыкам гісторыі і геаграфіі ў розных навучальных установах Расіі. З 1939 у Ленінградзе. Арыштаваны 23.6.1941; высланы ў Златавуст Чэлябінскай вобл. Пры садзейнічанні акадэміка Л.Арбелі 28.11.1942 вызвалены. У 1948 выкладаў у Маскоўскім ун-це. У 1949 звольнены з работы. Арыштаваны 23.12.1950; этапаваны ў канцлагер пры пас. Суслава ў Сібіры. Вызвалены 25.3.1955. Вярнуўся ў Маскву. Да 1986 працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН СССР.

**УЛАШЧЫК Ніна Мікалаеўна** [1.10.1901, в. Віцкаўшчына Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 1984, Мінск], педагог, старэйшая сястра М.*Улашчыка,* жонка Я.*Бялькевіча.* З сялянскай сям’і. Вышэйшую адукацыю атрымала, верагодна, у 1920-я г. Працавала настаўніцай у Мінскай СШ № 19. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 23.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Дзяржынскага, д. 6, кв. 3. Асуджана 29.5.1938 асобай нарадай пры НКВД як «дачка актыўнага ўдзельніка контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ППК. Этапавана ў Дальбуд НКВД, затым у Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. Вызвалена 23.2.1943. У 1956 вярнулася ў Мінск. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага

суда БССР 17.1.1958. Асабовая справа У. № 11383-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.10.1929 у в. Востраў (паводле іншых звестак, у в. Возера) тагачаснага Самахвалавіцкага (цяпер Дзяржынскага?) р-на Мінскай вобл. былі арыштаваны селянін-аднаасобнік Улашчык Юльян Феліцыянавіч (н. у 1860) і ягоны сын Улашчык Яўген Юльянавіч (н. ў 1904). 13.1.1930 калегіяй АДПУ яны былі асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі і за сувязь з польскай разведкай» да 3 гадоў высылкі ў Паўночны край. Далейшы лёс Ю.Ф.Улашчыка невядомы. Я.Ю.Улашчык пасля вяртання на радзіму працаваў брыгадзірам збожжанарыхтоўкі ў Асіповічах Магілёўскай вобл. Зноў арыштаваны 18.7.1937 і 7.9.1937 тройкай НКВД прыгавораны за «ўдзел у кулацкай арганізацыі» да 10 гадоў ППК. Далейшы ягоны лёс таксама невядомы. Ю.Ф.Улашчык і Я.Ю.Улашчык па групавой справе (№ 29033-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны 19.7.1989 пракуратурай БВА. Па сваёй асабовай справе (№ 7570-сн; захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) Я.Ю.Улашчык рэабілітаваны пастановай Магілёўскага абл. суда 10.2.1962.

5.2.1930 у в. Віцкаўшчына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. былі арыштаваны брат Ю.Ф.Улашчыка селянін-аднаасобнік Улашчык Мікалай Феліцыянавіч (н. ў 1861) і яго старэйшы сын, бацька пяцярых дзяцей Улашчык Павел Мікалаевіч (н. ў 1895), брат М.М. і Н.М. Улашчыкаў. 10.3.1930 калегіяй АДПУ яны былі асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі і сувязь з польскай разведкай» да 3 гадоў высылкі ў Паўночны край. Далейшы іх лёс невядомы. Рэабілітаваны па групавой справе (№ 24806-с; захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) пракуратурай БВА 12.6.1989.

115 **ЧАРНУШЭВІЧ Нічыпар Тодаравіч** [Фёдаравіч, Хведаравіч; 1(14).11.1900, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Мінскай вобл. — 18.2.1967, Мінск], паэт, перакладчык, драматург. Паходзіў з сялянскай сям'і; брат пісьменніка М.Хведаровіча. Падчас 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Калузе. У 1917 вярнуўся на Радзіму; у 1917—20 настаўнічаў у Траянаўскім народным вучылішчы на Капыльшчыне. У 1922—28 вучыўся на сацыяльна-гістарычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. Адначасова працаваў у школе малодшага каманднага і палітычнага саставу 4-й Смаленскай дывізіі (1922—23), загадчыкам аддзела газ. "Савецкая Беларусь" (1924—29). Першыя вершы апублікаваў у 1923 у час. "Полымя"; публікаваўся ў час. "Маладняк", газ. "Савецкая Беларусь". Член літаб'яднання "Маладняк". Адзін з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Пробліск» (існавала з ліп. 1927 па студз. 1928). У 1926 разам з М.Модэлем быў рэдактарам друкаванага органа бел. студэнцтва "Голас студэнта". З 1929 слухач Вышэйшых навукова-педагагічных курсаў пры 2-м Маскоўскім ун-це. Арыштаваны ДПУ БССР 27.3.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". 10.4.1931 прыгавораны за «нацыянал-дэмакратызм, шпіянаж, тэрор, сувязі з міжнароднай буржуазіяй і шкодніцтва» да 5 гадоў ссылкі ў Вятку. У 1931—35

супрацоўнік газ. “Вятская правда” (пазней “Кировская правда”). У жн. 1935 абвінавачанні зняты (канчаткова рэабілітаваны ў 1960). У 1935—41 выкладчык гісторыі ў школах Масквы. У кастр. 1941 эвакуіраваўся ў Цюмень, дзе працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі газ. “Тюменская правда” (публікаваў там свае нарысы, вершы, сатыру). У 1947 вярнуўся ў Мінск. Працаваў начальнікам планавага аддзела Белсельгасзабеспячэння, з 1949 — выкладчык гісторыі Мінскай афіцэрскай школы, з 1952 старшы інжынер трэста папяровай прамысловасці. У розныя гады працаваў у Белдзяржвыдавецтве, на Беларускім радыё. Член СП Беларусі з 1957. Перакладаў на бел. мову творы рускіх, украінскіх, яўрэйскіх паэтаў.

116 **СТАНКЕВІЧ Ян** [26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.7.1976, ЗША], мовазнавец, перакладчык, грамадскі і культурны дзеяч. У 1909 скончыў Ашмянскае гарадское вучылішча. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. Працаваў у газ. “Наша ніва”. У 1914 мабілізаваны ў войска. У 1917 на румынскім фронце трапіў у аўстрыйскі палон. Пасля вызвалення вярнуўся ў Вільню. У 1918 пераехаў у Мінск. У 1920 арганізаваў бел. настаўніцкія курсы ў Слуцку, у 1920—21 арганізоўваў бел. школьніцтва ў Ашмянскім і Вілейскім паветах. У 1921 скончыў у Вільні беларускую гімназію; у 1926 — Карлавы ун-т (Прага). Доктар славянскай філалогіі і гісторыі. У 1926 вярнуўся ў Вільню. Выкладаў бел. мову ў розных навучальных установах. У 1928 абраны дэпутатам польскага сейма ад Лідскай акругі. У 1930—31 выдаваў у Вільні першы бел. мовазнаўчы часопіс “Родная мова”. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1939, трапіў у Лукішкі. У час вайны жыў у Мінску, Вільні, Варшаве, Празе; займаўся выдавецкай дзейнасцю, працаваў у БНС. Кантактаваў з польскім падполлем. З 1944 — у Германіі. Заснавальнік “Крывіцкага (Беларускага) таварыства Пранціша Скарыны”. Прыхільнік “крывіцкай канцэпцыі” этнагенезу беларусаў. У 1949 пераехаў у ЗША. Заснавальнік Вялікалітоўскага фонду імя Л.Сапегі. Пахаваны ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі.

Верагодна, у адзін час з Я.Станкевічам энкавэдысты арыштавалі і літаратара П.Сыча.

**СЫЧ Пётр** [18.1.1912, Вілейшчына — 20.6.1963, Нямеччына], пісьменнік, мемуарыст. Друкаваўся з 1932. Арыштаваны 3.10.1939, пасаджаны ў Вілейскую турму, з 1940 у Полацкай турме, дзе пасябраваў з В.Жук-Грышкевічам. Асуджаны на дзесяць гадоў ППК. Вывезены ў Комі АССР, дзе быў да канца 1941. Паводле гэтак званай дамовы “Сікорскі-Майскі”, — патрапіў у 1944 у армію генерала Андэрса. У чыне паручніка прымаў удзел у баях пад Монтэ-Касіна, Анконай, Балонняй, 4 разы паранены. З 1946 у Англіі, з 1951 у Германіі. З канца 1950-х г. — супрацоўнік бел. аддзела радыё “Свабода”. Рэдагаваў час. “Шарсцень”.

**СТАНКЕВІЧ Адам Вікенцевіч** [псеўданімы: А.Сакалінскі; Соколинский; крыптанімы: А.С.; А.Ст.; Ад.С.; Ад.Ст-іч; 24.12.1891(6.1.1892), в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.12.1949, Тайшэт Іркуцкай вобл., ГУЛАГ], рымска-каталіцкі святар, гісторык, публіцыст, літаратуразнавец, асветнік, выдавец. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1914); у 1914—18 вучыўся ў Мітрапалітальнай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Петраградзе; кандыдат кананічнага права. Пасвячоны ў святары 28.12.1914. Адзін з першых ужыў бел. мову ў богаслужэнні. Падтрымліваў сувязі з бел. культурна-асветнымі коламі, супрацоўнічаў з газ. "Наша ніва", якая моцна паўплывала на яго самасвядомасць. З 1919 выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. У жн. 1919 — верас. 1922 рэдактар-выдавец газ. «Крыніца» («Беларуская крыніца»). Адзін з заснавальнікаў партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя. У 1922—28 дэпутат польскага сейма, нам. старшыні Беларускага пасольскага клуба (да яго расколу ў 1925). У 1924—26 узначальваў ТБШ. У 1927—38 рэдактар і выдавец час. «Хрысціянская думка». У 1938 высланы польскімі ўладамі з Вільні ў Слонім. Восенню 1939 вярнуўся ў Вільню. Падчас 2-й сусветнай вайны — пробашч касцёла св. Міхала. Арыштаваны органамі НКВД 7.12.1944 але неўзабаве адпушчаны. Паўторна арыштаваны 13.4.1949. Асобай нарадай МДБ СССР 31.8.1949 асуджаны (з навукоўцам Андрэем *Шынкевічам*) да 25 гадоў ППК. Этапаваны ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. Загінуў у зняволенні. Пахаваны 10.12.1949 на могілках Азёрлага каля в. Шаўчэнкі Тайшэцкага р-на, магіла № 3—43.

117 **КАЗЛОЎСКІ Уладзіслаў** [псеўданім: Уладыслаў Казлоўшчык; 29.6.1896, в. Залессе Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 13.11.1943, Мінск], паліт. дзеяч, публіцыст, паэт. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі (1916—19), дзе далучыўся да бел. нацыянальнага руху. Скончыў настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай беларускай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны. Арганізоўваў школы ў Сакольскім пав., кааператыўны рух у Ігуменскім пав. У маі 1920 Беларускай вайсковай камісіяй накіраваны ў школу падхарунжых у Варшаве. Пасля яе сканчэння прызначаны інструктарам 1-га батальёна бел. стральцоў; эвакуіраваны з Мінска ў Лодзь. З 1921 служыў у польскім войску. У 1930 звольніўся ў запас у званні паручніка, пераехаў у Вільню, распачаў грамадска-паліт. і літаратурную дзейнасць. Арганізаваў гімнастычнае таварыства «Гайсак». Адзін з лідэраў крайне правага крыла бел. паліт. руху; разам з Ф.Акінчыцам у ліст. 1933 заснаваў актыў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНПС); у 1933—37 рэдактар-выдавец яе органа час. «Новы шлях». Польскія ўлады неаднаразова канфіскоўвалі тыраж асобных нумароў часопіса, па прычыне чаго К. судзіўся з уладамі. У 1939—40 сакратар Беларускай групы дапамогі пацярпелым ад вайны пры Літоўскім Чырвоным Крыжы. У 1941 хацеў аднавіць дзейнасць БНПС, але не атрымаў на гэта дазволу нямецкіх уладаў. Пераехаў у Мінск, быў рэдактарам «Беларускай

газэты». Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускай народнай самапомачы. Застрэлены савецкімі падпольшчыкамі ў памяшканні рэдакцыі. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках, але месца пахавання не пазначана.

118 **КАВАЛЕНКА М.** Падчас 2-й сусветнай вайны працаваў у “Беларускай газэце”. Далейшы лёс невядомы.

119 **ЦЭЛЕШ Мікола Яфімавіч** [25.6.1900, па іншых зв. 1904, в. Заазер’е Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — пасля 1976], празаік, публіцыст, перакладчык. У 1911 скончыў пачатковую вясковую школу. Паступіў і да пачатку 1-й сусветнай вайны (калі бацьку забралі служыць) вучыўся (як піша сам Ц.) у «Вышеначальном училище». У час вайны знаходзіўся ў бежанстве ў Расіі. У грамадзянскую вайну ўступіў у Чырвоную армію. У 1922 вярнуўся ў Мінск. Друкавацца пачаў у 1929. Першую кніжку Ц. (выйшла ў 1931) рэдагаваў М.Чарот. Яшчэ ў даваенны час Ц. заўважылі крытыкі. Пра яго пісалі М.Карпачоў М.Клімковіч, С.Куніцкі, С.Нортман, С.Шушкевіч. У час 2-й сусветнай вайны Ц. апынуўся на акупаванай тэрыторыі. У 1944 выехаў у Германію, потым (у 1949) у ЗША. Як А.Калубовіч і шмат іншых бел. пісьменнікаў, якія ў той час жылі ў Амерыцы Ц. вымушаны працаваць фізічна. Ён пісаў: «Часу для аповесці бракуе — чакае малаток, а не пяро...». Відавочна, таму ў апошняй яго кнізе «Хмары над Бацькаўшчынай» (выйшла ў 1995 у Нью-Йорку), у якую ўвайшлі лепшыя творы Ц. некаторыя апавяданні датаваны так: 1962—1972 (Хмары над Бацькаўшчынай), 1941—1971 (У імя догмы), 1942—1972 (На межах) і г. д. У 1976 Ц. выйшаў з дому і не вярнуўся.

В.Кіпель пасля знікнення Ц. пісаў:

«*Аналізуючы Міколу Цэлеша, я сказаў бы, што ён жыў думкамі ў сваім свеце — бясспрэчна, блізка звязаны з Беларуссю, — але адначасна перажываючы, што ён знаходзіцца па-за межамі свае Бацькаўшчыны і што па волі тагачаснага рэжыму ён не можа й не зможа стварыць для Бацькаўшчыны таго, што ён хацеў бы.*

*Яшчэ адзін згублены для Бацькаўшчыны працаўнік, добразычлівец, патрыёт і пісьменнік*».

120 **ДУДЗІЦКІ Уладзімір** [сапр.: Гуцька Уладзімір Ермалаевіч; 27.12.1910 (8.1.1911), в. Дудзічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — пасля 1970 ?], паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. У 1927 пераехаў у Мінск; у 1930 скончыў 22-ю мінскую сямігодку і паступіў у МБПТ. Разам з С.Астрэйкам, Л.Калюгам, С.Русаковічам Д. быў выключаны з «воўчым білетам» як «нацдэм». Пры дапамозе Л.Калюгі і У.Хадыкі ўладкаваўся на работу стыльрэдактарам у газ. «Савецкая Беларусь». Пазней працаваў стыльрэдактарам у выдавецтве БелАН; адначасова займаўся на падрыхтоўчых курсах пры БДУ. Паступіў на літаратурна-лінгвістычны ф-т МВПІ. Арыштаваны 24.2.1933. Асуджаны 10.8.1933 як «член

контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў ППК. Пакаранне адбываў у Новасібірску, Марыінску, Казахстане, Узбекістане. Пасля дазволу вярнуцца ў Беларусь жыў у Віцебску. Працаваў выкладчыкам бел. мовы і літаратуры; экстэрнам здаў экзамены за курс педагагічнага інстытута. Друкавацца пачаў у 1937. У 1939 звольнены з педагагічнай работы рашэннем Віцебскага аблкама КП(б)Б. Быў вымушаны пакінуць Віцебск, а потым і Беларусь. Хаваўся ў Расіі. Напярэдадні вайны вярнуўся ў Беларусь. Працаваў выкладчыкам бел. мовы і літаратуры ў Курасоўшчынскім вэтэрынарным тэхнікума каля Мінска. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, Барысаве. Займаўся культурнай дзейнасцю. Увайшоў у склад БЦР, узначаліў аддзел прапаганды Беларускай Краёвай Абароны. Актыўна выступаў у друку з вершамі, паэмамі, артыкуламі. У 1944 выехаў у Германію. Служыў у Міністэрстве прапаганды. Потым жыў у амерыканскай акупацыйнай зоне; перасяліўся ў Венесуэлу. У 1950 — пачатку 1960 г. галоўны рэдактар бел. рэдакцыі радыё «Свабода» ў Мюнхене. Публікаваўся ў бел. эмігранцкіх выданнях. З 1961 у ЗША; выкладаў рускую мову ва ун-це Блумінгтана (штат Індыяна). Неўзабаве вярнуўся ў Венесуэлу. Пасля сляды Д. губляюцца. У канцы 1970-х г. знік. Па некаторых звестках (успамінах жонкі Веры), магчыма, у былым Савецкім Саюзе. Рэабілітаваны па справе 1933 (№ 14618-с, захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.8.1956.

121 **НАЙДЗЮК Язэп** [псеўданім: Александровіч; 15.5.1909, в. Рэпля Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 13.2.1984, Польшча], грамадскі і культурны дзеяч, рэдактар, гісторык. З канца 1920-х працаваў у Беларускай друкарні імя Ф.Скарыны ў Вільні, быў яе дырэктарам. Рэдагаваў час. „Шлях моладзі”. Арыштаваны польскімі ўладамі ў жн. 1939; зняволены ў лагеры Картуз-Бяроза. Вызвалены пасля прыходу савецкіх войскаў; вярнуўся ў Вільню. Восенню 1941 пераехаў у Мінск. Працаваў у выдавецтве падручнікаў, быў членам Цэнтральнай рады Беларускай народнай самапомачы. У 1943 (на вокладцы — 1944) выдаў у Мінску падручнік па гісторыі „Беларусь учора і сяньня”. Летам 1944 выехаў у Польшчу, дзе жыў пад прозвішчам Александровіч. Пакінуў рукапіс працы па гісторыі Беларусі.

122 **КРЫВІЧАНІН Леанід** [сапр.: Савёнак Леанід Вікенцевіч; іншы псеўданім: Л.Свэн; 26.6.1897, в. Вялец Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 21.2.1974, Памон, ЗША], пісьменнік, журналіст. У 1917 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Быў прызваны ў царскае войска, дзе знаходзіўся да снеж. 1917. Потым жыў у Петраградзе. З 1922 у Мінску. Друкаваўся з 1927. Па прапанове У.Ігнатоўскага да 1929 працаваў у газ. «Савецкая Беларусь». У 1929 апублікаваў зборнік фельетонаў «Чароўная іголка». У 1930 выйшла брашура Дж.Эйтана «Школа джэнтльменаў», перакладзеная з рускай К. З ліп. 1931

працаваў у навукова-тэхнічным выдавецтве. Арыштаваны ДПУ БССР 1.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Паводле пастановы калегіі АДПУ ад 9.1.1934 асуджаны да 5 гадоў ППК. Пасля вызвалення ў 1939 вярнуўся ў Беларусь; настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі застаўся ў Беларусі. Быў супрацоўнікам «Беларускай газэты». У 1944 пераехаў у Германію. Пасля вайны працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі ў лагерах для перамешчаных асоб. Удзельнічаў у выданні літаратурнага час. «Сакавік», газ. «Бацькаўшчына» (Мюнхен). З 1950 у ЗША. Браў удзел у жыцці бел. эміграцыі. Рэабілітаваны 16.8.1956.

123 **АРСЕННЕВА [Кушаль] Наталля** [20.9.1903, Баку — 25.7.1997, ЗША], паэтэса, перакладчыца, драматург. У час вайны ў 1914 сям'я Арсенневых жыла ў бежанстве ў Яраслаўлі, дзе будучая паэтка напісала свой першы верш на рускай мове. Радавод бацькі А. узыходзіць да роду маці М.Ю.Лермантава. У 1920 сям'я вярнулася ў Вільню, там А. скончыла Віленскую Першую беларускую гімназію, паступіла ва ун-т. На яе паэтычныя здольнасці звярнуў увагу М.Гарэцкі. У 1922 А. выйшла замуж за Ф.Кушаля, якога як афіцэра польскага войска накіравалі служыць у зах. рэгіён Польшчы. Пасля верас. 1939 А. жыла ў Вілейцы, працавала ў абл. «Сялянскай газеце». У крас. 1940 як жонка палоннага польскага афіцэра была выслана з сынамі ў Казахстан. У маі 1941 А. вярнулася з ссылкі ў Мінск. Тут яе напаткала вайна. У акупаваным Мінску супрацоўнічала з «Беларускай газэтай». Напісала некалькі лібрэта да опер, займалася перакладамі. У 1944 эмігравала ў Германію, з 1949 жыла ў ЗША. Працавала ў эмігранцкай бел. газ. «Беларус», на радыё «Свабода», у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. У даваеннай лірыцы замыкалася на інтымных і пейзажных матывах. У час вайны і ў эмігранцкі перыяд стварыла шэраг тэкстаў грамадзянскай лірыкі, гістарычнай бел. тэматыкі. У 1970—80-я г. адышла ад актыўнага ўдзелу ў паліт. жыцці бел. эміграцыі. З сярэдзіны 1980-х г. яе творы зноў робяцца вядомымі і папулярнымі на радзіме.

124 **ВІЦЬБІЧ Юрка** [сапр.: Шчарбакоў Георгій; іншыя псеўданімы: Крыжаніч Алесь, Стукаліч Юрый; 2(15).6.1905, Веліж Віцебскай губ., цяпер Смаленская вобл. Расіі — 4.1.1975, Саўт-Рывер, ЗША], празаік, мемуарыст, публіцыст. З сям'і праваслаўнага святара. У 1922—33 жыў у Маскве, працаваў у прамысловасці. Сваё першае апавяданне апублікаваў у 1929 у часопісе "Узвышша", пасля чаго атрымаў ліст ад К. Чорнага, што, па словах В., "з'явілася дыпломам на годнасць пісьменніка". Пераехаўшы ў Беларусь, удзельнічаў у напісанні гісторый мясцовых фабрык. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Актыўны публіцыст "Менскай газэты" (з 1942 "Беларускай газэты"), газеты "Раніца". У 1944 выехаў у Германію. 5.1.1945 ў Берліне заснаваў літаратурнае аб'яднанне «Шыпшына», узяўшы назву з радка У.Дубоўкі "О, Беларусь, мая шыпшына". У канцы 1940-х г. пераехаў у ЗША. Працаваў у розных літаратурных жанрах, пакінуўшы

багатую творчую спадчыну. У апошнія гады жыцця пісаў на рускай мове, рэгулярна друкаваўся ў газеце “Новое русское слово”, засведчыўшы сябе “рашучым ворагам камунізму”. Як прыгадваюць сучаснікі, ідэйныя пазіцыі В. заўжды былі хісткімі і непаслядоўнымі, ад адной крайнасці ён лёгка пераходзіў да другой.

Хутчэй за ўсё, рэпрэсаваны і бацька В.

125 **КЛІШЭВІЧ Уладзімір Сідаравіч** [крыптанім: Ул.К.; 27.2(12.3).1914, в. Краснадворцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — 14.11.1978, Лос-Анджэлес, ЗША], паэт, публіцыст. Скончыў педагагічныя курсы ў Слуцку. Настаўнічаў. Публікаваць вершы пачаў з 1931. У 1933—36 вучыўся ў МВПІ, але скончыць яго не паспеў, бо 25.10.1936 быў арыштаваны. 3.10.1937 асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў і высланы ў Верхні Ат-Урах (Калыма). У жн. 1939 вернуты ў Мінскую турму на даследаванне. З прыходам немцаў вызвалены. У часы акупацыі жыў у Слуцку, рэдагаваў «Газэту Случчыны». Тады ж аднавіў па памяці свае творы і публікаваў іх у перыядычным друку. Падрыхтаваў з іншымі і выдаў зборнік «Песняры Случчыны» (Слуцк, 1943). У 1944 выехаў у Германію; з 1948 жыў у ЗША. Рэдагаваў ратапрынтны час. «Беларус у Амерыцы», выкладаў у каледжы ў штаце Індыяна. У 1955 удзельнічаў у выданні эмігранцкага зборніка «Ля чужых берагоў». У зборніку К. «Далячынь» (Саўт-Рывер, 1964) ёсць верш «Менская турма», напісаны аўтарам яшчэ у 1957 і прысвечаны 40-годдзю кастрычніцкага перавароту і 20-годдзю «расстрэльнага» 1937):

*Пад дзікі крык нямых разлучын*
*Там Цішка Гартны быў замучан.*

*Таўклі чырвоным каты ботам*
*Алеся Звонака й Чарота.*

*Спаткаў таксама лёс свой чорны*
*За кратамі паэт Кляшторны.*

*Далёкі Ўсход, нямы і дзікі,*
*Закрыў зямлёй скілет Хадыкі.*

*Як языком змяла завея*
*Александровіча Андрэя.*

*Даношчык Кучар быў праворны:*
*Прапаў Зарэцкі, спасся Чорны.*

*За недагляд якогасць слова,*

*Душыў забойца Маракова.*

*Жыццё турмы адведаў кожны:*
*Там быў Знаёмы і Дарожны.*

*Сярод нявольнікаў зямных*
*Прысеў Сымон Баранавых.*

*Калі ўжо секлі з-за пляча,*
*Прывалаклі Галавача.*

*Прыйшлося й мне ў юнацкім ранку*
*Паспрабаваць «Амерыканку».*

*Застаўся там тавар «дзяшовы»:*
*То Кучары, то Куляшовы.*

*Яшчэ два дробных недалепкі —*
*Якіясь Броўкі, ці то Глебкі.*

У паэме «Васіль Каліна» (1965) К. паказаў перыяд калектывізацыі, масавыя рэпрэсіі ў Беларусі, яшчэ раз прыгадаў абставіны смерці Ц.Гартнага:

*Турма людской крывёй прамокла.*
*Над галавой як ноч, так дзень*
*Вісіць смяротны меч Дамокла,*
*Гуляе побач смерці цень.*
*Сядзіць прывязаны паэт,*
*А кат яму электрасвет*
*Вялікай сілы даў у вочы…*
*То свет шыпшынаў, то лілея…*
*Пад лямпай Гартны вар'яцее,*
*Трагічна ён з людзей рагоча…*

Перакладаў на бел. мову антычных, украінскіх, нямецкіх і іншых аўтараў. Неаднаразова наведваў БССР, станоўча выказваўся ў друку пра парадкі ў БССР. Бел. эміграцыя ў сувязі з гэтым наладзіла яму абструкцыю. Адракліся ад У.Клішэвіча і былыя сябры. У зборніку М.Кавыля “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1990) чытаем такі “развітальны верш” (С. 200—201):

РАЗЬВІТАЛЬНАЕ

(Уладзімеру Клішэвічу)

*Што сказаць табе, Валодзя,*
*Недабіты небарак?*
*Карыстаецца ў народзе*
*Не вялікай славай рак.*

*Рак жывы — чорны.*
*Мёртвы рак — чырвоны.*
*Чырванее рак па сьмерці,*
*Каб ня пхнулі ў пекла чэрці…*

*Нешта з рака можна зьесьці,*
*Нешта выкінуць у сьмецьце.*
*Ты у чорта на прыкмеце.*

*Ужо смакуе твае косьці*
*“Завяртанка”…*
*“Раб” у злосьці…*
*“Раб” у суме…*
*Рака шыйка, клешні ў глуме.*
*Не пакваціцца “Зьвязда”,*
*Ды і “Полымя” ня вельмі.*
*Ты экзамен дрэнна здаў:*
*Там сваіх хапае шэльмаў.*

*“Васіля Каліну” побач*
*Не паставяць Ільліча…*
*Не, браток. За тваю спробу —*
*Славіць Леніна пачаў —*
*Не даруе век Каліна:*
*Не заб’е, дык пракляне.*
*Здрадзіў ты яго, пакінуў,*
*Як той брата на вайне.*

*Мы яго тут не пакрыўдзім.*
*Сын за бацьку — не адказ.*
*Да цябе ён яшчэ прыйдзе*
*Даказаць пачаты сказ…*

*А у рака шлях вядомы:*
*Не наперад, а назад.*
*Мо й праедзеш ты ля дому,*
*Каля бацькаўскіх прысад;*
*Ды і ў родным агародзе*

*Ад сябе не уцячы…*
*Прад табою, брат Валодзя,*
*Далячынь… Ой, далячынь…*
*Не прарочаць шчасьця хібы.*
*Дык ні пуха, ні кала!..*
*Хай мінуе цябе глыба,*
*Што Хадыку прытаўкла!..*

1970

Адзначым, што раней пра У.Клішэвіча М.Кавыль пісаў іншае:

*І ў палацах Сансусі*
*Сніць ён сны аб Беларусі.*

(Шыпшына. 1948. № 8).

У канцы 1970-х г. К. збіраўся пераехаць у БССР, але раптоўная смерць перапыніла гэты намер. Рэабілітаваны 22.1.1992 Вярхоўным судом Беларусі. Справа К. і іншых дзесяці студэнтаў МВПІ № 31950-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

126 **ІЛЬЯШЭВІЧ Хведар** [псеўданімы і крыптанімы: Баец; М.Дальны; Святаслаў Залужны; Л.Іскра; І-ч; Хв. І-ч; Каласок; Лявон; Малады; Рабочы; Х.І.; Чырвоная кветка; 17.3.1910, Вільня — 7.11.1948, Ватэнштэт, Германія], паэт, празаік, крытык, гісторык. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Выкладаў бел. мову ў Віленскай беларускай гімназіі. Першыя вершы з’явіліся ў 1925; друкаваўся ў заходнебел. выданнях «Студэнцкая думка», «Крыніца», «Нёман», «Калоссе», «Родныя гоні», «Шлях моладзі», «Родны край». Па паліт. матывах двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі; у 1927 зняволены ў турме на Лукішках. Пасля вызвалення вучыўся на гістарычным ф-це Віленскага ун-та, які скончыў у 1936 са званнем магістра філасофіі. Падчас нямецкай акупацыі кіраваў «Беларускім аб’яднаннем» у Беластоку, рэдагаваў газ. «Новая дарога». У 1944 выехаў у Германію. У 1946 у Рэгенсбургу рэдагаваў час. «Шляхам жыцця», бюлетэнь «Апошнія весткі» (Ватэнштэт). Загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Галенсдорфе паблізу Брауншвейга.

127 **ХМАРА Сяргей** [сапр.: Сіняк**;** чэрв. 1905, Пінск — 5.9.1992, Канада], журналіст, паэт, дзеяч бел. эміграцыі. Працаваў настаўнікам. Арганізаваў тайны клуб маладых пісьменнікаў. Быў арыштаваны дэфензівай і зняволены (1927, 1939). Падчас 2-й сусветнай вайны жыў у Слоніме, выдаваў газету. Удзельнік II Усебеларускага кангрэса (Мінск, чэрв. 1944). У канцы вайны апынуўся ў Берліне, дзе заснаваў палітычную групу пад назвай „Двупагоня”. Пасля вайны выдаваў сатырычны часопіс у Гамбургу. Адтуль у 1949 пераехаў у Канаду, дзе выдаваў газ. „Беларускі Эмігрант” (пасля „Беларускі Голас”), якую рэдагаваў да канца свайго жыцця. Таксама выдаваў

літаратурныя і сатырычныя газ. „Народны Шлях”, „Сігналы”, „Маланка”. Быў ініцыятарам стварэння Канадскага этнічнага клуба журналістаў і пісьменнікаў; ад снеж. 1976 быў першым старшынёй клуба.

128 **САЛАВЕЙ Алесь** [сапр. Радзюк Альфрэд Васілевіч; 1.5.1922, в. Крысава Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 22.1.1978, Мельбурн, Аўстралія], паэт. У першай палове 1930-х г. даслаў вершы на рускай мове ў “Пионерскую правду”, але атрымаў адказ С.Маршака, які параіў яму пісаць па-беларуску, бо ягоныя думкі выказаны “неадпаведна рускай мове”. Малады паэт прыслухаўся да гэтай парады і ў 1937 дэбютаваў у друку з вершамі па-беларуску. У тым жа годзе С. перажыў вялікую трагедыю: быў арыштаваны і на допытах у НКВД закатаваны насмерць ягоны бацька, і на 10 гадоў зняволення ў канцлагерах асудзілі маці. С. быў вымушаны пакінуць Мінскае педагагічнае вучылішча. З дапамогай журналіста Б.Сасноўскага ўладкаваўся ў лагойскую раённую газету. З пачаткам вайны далучыўся да партызанаў, але з-за блізарукасці вярнуўся ў Лагойск. Арыштаваны немцамі, якія, даведаўшыся, што С. паходзіць з рэпрэсаванай савецкай уладай сям’і, выпусцілі яго з турмы. Далей пры дапамозе паэта У.Дудзіцкага ўладкаваўся вярстальшчыкам у “Менскую газету”. З кастр. 1942 працаваў сакратаром час. “Новы шлях”, што выдаваўся ў Рызе. У 1944 з адступленнем нямецкай арміі выехаў у Берлін, потым — у Прагу і Вену. Патрапіўшы ў амерыканскую акупацыйную зону, прайшоў лагеры для “перамешчаных асоб”. Урэшце пераехаў на сталае жыхарства ў Аўстралію, дзе вёў спакойнае і сціплае жыццё. Памёр у час купання ў моры ад разрыву сэрца.

129 **СЯДНЁЎ Масей** [Майсей Ларывонавіч; 19.8(1.9).1913, в. Мокрае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 4.2.2001, Глен Коў, ЗША], паэт, празаік. Скончыў Саматэвіцкую сямігодку, вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме (1930—31). Публікавацца пачаў у 1933. Друкаваўся ў час. “Полымя”, “Беларуская работніца і сялянка”, газ. “Савецкая Беларусь”, “Літаратура і мастацтва”, “Чырвоная змена”. У 1933 паступіў у МВПІ. На 4-м курсе 21.10.1936 арыштаваны за «буржуазны нацыяналізм». З паказанняў пісьменніка Х. (допыт вёў ужо вядомы следчы Кунцевіч):

*« (…) В 1936 г. Гвоздев в присутствии меня и Седнева читал письмо, присланное ему из района контррев. содержания; фамилии адресата Гвоздев нам не назвал.*

*После ареста Гвоздева в 1936 г. ко мне на квартиру приходил Седнев, читал мне контррев. нацдемовские стихотворения, в беседе со мной говорил о том, что политика партии и Соввласти неправильная, что политика коллективизации является несущественной, она ведет к обнищанию и гибели крестьян. В этом-же 1936 г. я вместе с Седневым читал террористические произведения белогвардейца Гумилева, смаковали его террористические установки…»*

У 1937 С. быў этапаваны на Калыму.

*«Часам у той брыгадзе, дзе я* (Майсей Сяднёў. — ***Л. М***.) *працаваў* (у 1938. — ***Л. М***.) *спынялі працу, забіралі, каго хацелі, і везлі. На наступны дзень перад разводам на вышку ўзбіраўся чалавек і зачытваў:*

*«За систематическое невыполнение технических норм… контрреволюционную агитацию среди заключенных… подготовку к побегу…* (далей пералічваліся прозвішчы. — ***Л. М***.) *приговорены к высшей мере социальной защиты». Так было кожны дзень"* (з кнігі "На суд гісторыі", Мн., 1994).

У 1941 С. быў накіраваны ў Мінск для перагляду справы. Пасля пачатку вайны каля Чэрвеня канвой адпусціў зняволеных. Вярнуўся ў родную вёску, працаваў на гаспадарцы. У 1943 пераехаў у Беласток, дзе ўладкаваўся карэктарам у газ. "Новая дарога". Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў "Ад сына твайго, Беларусь" (быў набраны ў Кёнігсбергу, але згарэў там у час пажару). Потым выехаў у Берлін. Жыў у зах. (амерыканскай і англійскай) зоне акупацыі Германіі. Працаваў настаўнікам у бел. гімназіі ў Міхельсдорфе. У 1950 перабраўся ў ЗША. Каля 10 гадоў працаваў на металаапрацоўчай фабрыцы. Выкладаў рускую мову ў Індыянскім ун-це. Рэабілітаваны 22.1.1992. Вялікі цыкл вершаў прысвяціў перажытаму ў турмах і лагерах. У першай палове 1990-х неаднаразова наведваў Беларусь. У 1994 у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла яго «Масеева кніга». Рэабілітаваны ў 1992.

130 **СЯНКЕВІЧ Аляксей** [15.11.1904, мяст. Новы Сверджань Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 12.12.1991, Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі, ЗША], грамадска-культурны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, быў сябрам Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні, у 1934 увайшоў у склад актыву Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі. Перад пачаткам 2-й сусветнай вайны выехаў у Германію. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, рэдагаваў "Менскую газэту", потым "Голас вёскі". Уваходзіў у склад ЦК БНП. З 1944 — афіцэр прапаганды Беларускай краёвай абароны. З лета 1944 у эміграцыі. З 1950 жыў у ЗША (Саўт-Рывер). Быў актыўным сябрам праваслаўнага прыходу імя Ефрасінні Полацкай, Беларускай цэнтральнай рады на эміграцыі. Пахаваны на бел. могілках у Саўт-Рыверы.

131 **КАРАЛЕНКА**, у 1942 разам з А.Адамовічам, Я.Найдзюком, Я.Кіпелем і інш. "награжден немцами медалью для проявивших себя народов Востока».

132 **СЛУЧАНІН Лявон** [сапр.: Шпакоўскі Лявонцій Раманавіч; 3(16).10.1914, в. Лучнікі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 25.10.1995, Салігорск], паэт. З сялянскай сям'і. У 1929 паступіў у Слуцкі педтэхнікум. Пад уплывам мастацтва У.Галубка і яго артыстычнай трупы паступіў у Мінскі тэатральны тэхнікум. Як сын

серадняка быў залічаны без стыпендыі, што прымусіла вярнуцца ў педтэхнікум. З трэцяга курса паступіў на літаратурны факультэт МВПІ, дзе вучыўся ў 1932—36. Пасля атрымання дыплома накіраваны выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў Чэрыкаў Магілёўскай вобл. Пачаў друкавацца з 1936. Арыштаваны 29.9.1937 у Чэрыкаве. Асуджаны 2.12.1937 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў канцлагер «Волгабуд» НКВД Яраслаўскай вобл. 28.10.1939 пастановай Чэрыкаўскага раённага аддзела НКВД БССР датэрмінова вызвалены і рэабілітаваны. Вярнуўся ў в. Лучнікі. Уладкаваўся ў Слуцку ў СШ выкладчыкам бел. мовы і літаратуры. З 1940 выкладаў у Слуцкім педагагічным тэхнікуме. У часы нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Лучнікаўскай школы (1941—43), школьным інспектарам на Случчыне (1943—44). Адначасова супрацоўнічаў у акруговай "Газэце Случчыны"; друкаваўся ў "Беларускай газэце" (Мінск), "Голас вёскі" (Мінск), "Раніца" (Берлін), час. "Новая дарога" (Беласток). Вершы, напісаныя ў 1942—43, апублікаваў у 1943 у калектыўным зборніку "Песняры Случчыны". Пры адступленні немцаў выехаў з сям'ёй у Германію. Працаваў карэспандэнтам у час. "Малады змагар", які выдаваў Саюз беларускай моладзі (1944—45). Вясной 1945 трапіў у амерыканскую акупацыйную зону. Вярнуўся ў родную вёску, дзе быў арыштаваны. Асуджаны да 15 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Адбываў пакаранне на Поўначы. Пасля вызвалення да 1973 жыў у Варкуце, потым вярнуўся на Радзіму і жыў у Салігорску. Член СП Беларусі з 1993. Асабовая справа С. № 5550 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

133 **ІГНАТОЎСКІ Усевалад Макаравіч** [19.4.1881, в. Такары Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 4.2.1931, Мінск], гісторык, грамадскі і паліт. дзеяч. У 1911 скончыў Юр'еўскі (Тартускі) ун-т. У 1912—14 працаваў выкладчыкам у Вільні ў прыватнай жаночай гімназіі. У 1915 — 1920 — выкладчык, а потым прафесар Мінскага настаўніцкага (з 1919 — педагагічнага) інстытута. У 1915 стварыў культурна-асветніцкую арганізацыю «Наш край», якая ў 1917 ператварылася ў леваэсэраўскую арганізацыю «Маладая Беларусь». З чэрв. 1917 член ЦК БСГ, у 1918 член ЦК БПС-Р. У перыяд польскай акупацыі ў студз. 1920 на базе «Маладой Беларусі» стварыў Беларускую камуністычную арганізацыю. 31.7.1920 удзельнічаў у падпісанні «Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь». З 30.7.1920 член РКП(б). У 1920-я г. займаў шэраг адказных пасад у партыйных і дзяржаўных органах; актыўна ўдзельнічаў у рэалізацыі палітыкі беларусізацыі. У 1921—26 народны камісар асветы. У 1921—30 прафесар БДУ. У 1926—28 старшыня (з 1927 прэзідэнт) Інбелкульта; у снеж. 1928 — студз. 1931 прэзідэнт БелАН, дырэктар Інстытута гісторыі. З 1928 акадэмік БелАН. Працы І. склалі падмурак канцэпцыі гісторыі Беларусі, у аснову якой пакладзена перыядызацыя паводле прынцыпу дзяржаўнасці і грамадскага стану бел.

зямель. Падчас кампаніі супраць нацыянал-дэмакратызму 26.12.1930 зняты з пасады прэзідэнта БелАН. 16.1.1931 ЦК КП(б)Б выключыла І. з партыі як «лідэра нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі і польскага агента». Выклікаўся на допыты ў АДПУ. Пасля аднаго з іх скончыў жыццё самагубствам. Паводле другой версіі — застрэлены супрацоўнікамі АДПУ ў сваім доме.

З кнігі А.Калубовіча «Крокі гісторыі», (Мн., 1993):

*«У тое ранне* (4 лют. 1931. — ***Л. М***.) *ён чуўся страшэнна знэрваваным і змучаным допытамі ГПУ... Прафэсар пяшчотна пацалаваў жонку і пайшоў да сябе ў кабінет. Хутка раздаўся стрэл...»*

З кнігі У.Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (Мн., 1926):

*«Калі параўнаць беларуса з вялікарусам ці ўкраінцам, то выйдзе, што ён ёсць прадстаўнік самага чыстага этнаграфічнага тыпу ўсходне-славянскага рускага племя... турка-мангольская лавіна да іх не дакацілася, а фіна-мангольскія пляменні не былі іх суседзямі».*

У БелСЭ (1972, т.5, с. 44) ёсць такі каментар да вышэйпрыведзеных словаў:

*«У сваіх працах У.Ігнатоўскі не даваў належнай марксісцкай характарыстыкі эпохі, разглядаў гістарычныя падзеі з нацыяналістычных пазіцый».*

26.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Каменная, д. 10, кв. 1 арыштавана хатняя гаспадыня Ігнатоўская Марыя Севасцянаўна (н. 4.12.1884 у в. Баўманава (Байманава) Саратаўскай губ., цяпер Саратаўская вобл., Расія), жонка Усевалада Ігнатоўскага. 16.5.1938 асуджана асобай нарадай пры НКВД як «маці здраднікаў радзімы, прыгавораных да ВМП» да 8 гадоў ППК. Далейшы яе лёс невядомы. Рэабілітавана 10.7.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа І. № 6717-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

27.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Каменная, д. 10, кв. 1 арыштаваны слесар завода імя Варашылава Ігнатоўскі Юрый Усеваладавіч (н. 23.11.1911 у в. Загрыдава Слонімскага пав. Гродзенскай губ.) і тэхнік Белшклазбыта Ігнатоўскі Валянцін Усеваладавіч (н. 26.3.1916 у в. Баўманава (Байманава), сыны Усевалада і Марыі Ігнатоўскіх. 22.9.1937 тройкай НКВД яны былі асуджаны як «удзельнікі контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай групы» і за «антысавецкую агітацыю» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Валянціна расстралялі ў Мінскай унутранай турме НКВД 3.10.1937, Юрыя — 14.10.1937. Рэабілітаваны браты Вярхоўным судом СССР 6.12.1956. Іх групавая справа № 9848-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

У 1921 па закліку У.Ігнатоўскага ў Беларусь вярнуўся — як і шмат іншых дзеячаў бел. культуры — «стары нашанівец» (выраз М.Гарэцкага) Я.Журба.

**ЖУРБА Янка** [сапр.: Івашын Іван Якаўлевіч); 18.4(1.5).1881, в. Купніна Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. — 7.1.1964, Полацк], паэт, перакладчык. У 1902 скончыў Полацкую

настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў. У 1906 паступіў у Глухаўскі настаўніцкі інстытут, дзе пазнаёміўся з газ. “Наша ніва” і стаў у ёй друкавацца. Да пачатку 1-й сусветнай вайны працаваў настаўнікам у Карэлічах Мінскай губ. З 1915 у бежанстве. У 1921 вярнуўся ў Беларусь. Працаваў у Бабруйскім акруговым аддзеле народнай асветы, настаўнікам у СШ, выкладчыкам бел. мовы ў Магілёўскім медвучылішчы. З 1933 — навуковы супрацоўнік АН БССР. Член СП Беларусі з 1939. З 1941 настаўнічаў у Віцебскай вобласці. Страціўшы зрок, стаў інвалідам. Апошнія гады жыцця правёў у доме для састарэлых у Полацку. Памёр у 1964.

З кнігі С.Шушкевіча «Вяртанне ў маладосць» (Мн., 1968):

*«У рэдакцыі газеты «Беларуская вёска»… акружылі Кузьму Чорнага, загадчыка літаратурнага аддзела, маладыя паэты Віктар Казлоўскі, Сяргей Дарожны, Валерый Маракоў. Янка Журба, стоячы воддаль, працёр акуляры, паправіў надламаную ў іх дужку і пільна і ўважліва прыглядаўся да гаманкой моладзі. Кузьма Чорны запрасіў сесці паэта і пазнаёміў яго з прысутнымі.*

*Малады паэт Сяргей Дарожны адразу ж разгаварыўся з Іванам Якаўлевічам:*

*— Дзядзька Журба, хопіць ужо займацца школьнымі справамі, пара брацца за літаратуру, і толькі за літаратуру.*

*На твары паэта з'явілася чырвань, і ўсім здалося, што чалавек адчуў у гэтых словах абразу. На хвіліну ўсе суцішыліся, а Іван Якаўлевіч палажыў на плячо Сяргея Дарожнага руку і адказаў:*

*— Даражэнькі, яшчэ сотні такіх, як вы, не вучацца. А можа, з іх вырастуць нашы Пушкіны, Шаўчэнкі, Міцкевічы?»*

134 **«НАША ДОЛЯ»**, штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, першае легальнае перыядычнае выданне на беларускай мове. Выдавалася ў Вільні з 1(14).9 па 1(14).12.1906 кірыліцай і лацінкай. Рэдактар-выдавец І. Тукеркес. У заснаванні і выданні газеты ўдзельнічалі Цётка, Іван і Антон Луцкевічы. Фактычна была органам нелегальнай Беларускай сацыялістычнай грамады. Пасля 4-га нумара ў рэдакцыі адбыўся раскол, частка аўтараў перайшла ў новую газету «Наша ніва», што значна аслабіла літаратурны аддзел «Н. д.». Паводле ацэнкі Віленскага ахоўнага аддзела, напачатку «Наша ніва» была больш памяркоўная, чым «Н.д.». Усяго выйшла 6 нумароў, з якіх 4 былі канфіскаваныя. 11.1.1907 паводле судовага выраку выданне забаронена, рэдактар прыгавораны да 1 году турэмнага зняволення.

135 **ГАРУН Алесь** [сапр.: Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: І.Жывіца; А.Навадворскі; Сальвэсь; А.Сумны; А.Г.; І.Ж.; А.Н.; А.Н-і; 11.3.1887, фальварак Новы Двор пад Мінскам — 20.7.1920, Кракаў], паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Скончыў мінскія гарадское (1897) і рамеснае (1902) вучылішчы. З 1904 далучыўся да партыі эсэраў-максімалістаў. Пачаў публікавацца з 1907 у газ. «Наша ніва».

Арыштаваны 4.3.1907 у падпольнай друкарні на вул. Шырокай у Мінску, дзе ў той момант друкавалася адозва «Да ўсіх працоўных». У ліп. 1908 Віленскай судовай палатай асуджаны на ссылку і пажыццёвае пасяленне ў Сібіры. Сасланы ў Іркуцкую губ. З 1914 атрымаў права перамяшчацца па ўсёй Сібіры. Працуючы на Лене, падрыхтаваў зборнік «Матчын дар» і ў 1914 пераслаў яго ў Вільню (выйшаў у 1918). Творчасць Г. прасякнута ідэяй сацыяльнага і нацыянальнага разняволення бел. народа. Хворы на сухоты, вярнуўся ў Мінск у верас. 1917. Віцэ-старшыня Усебеларускага з’езда 1917; удзельнічаў у стварэнні БНР. Рэдагаваў газ. «Беларускі шлях», актыўна выступаў у ёй як публіцыст. У час польскай акупацыі быў членам Беларускай вайсковай камісіі. У 1920 хвароба абвастрылася. Па дарозе на курорт Закапанэ памёр у Кракаве. Яго магіла расшукана ў 1988. У 1991 пра Г. зняты дакументальна-публіцыстычны фільм «Праз сваю хату ўбачыць бацькаву».